— Каго любіш?

— Люблю Беларусь!



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

30 ЖНІЎНЯ 1996 г. № 35 (3859) Кошт 2 500 руб.





*А заўтра — у школу...*

*Фотаэцюд Я. МЯЦЕЛІЦЫ*

# КОЛА ДЗЁН

***Заканчваецца бітва за ўраджай, пачынаецца сяўба азімых, працягваецца падрыхтоўка да зімова-стойлавага перыяду ў жывёлагадоўлі, словам, восень — работ восем, а прэзідэнт надумаў 14 верасня правесці Беларускі нацыянальны кангрэс (назва можа яшчэ трансфармавацца ў Кангрэс беларускага народа, альбо нешта іншае). Каля шасці тысяч "дэлегатаў" з'едуцца ў Мінск, каб... Што "каб" — пакуль трымаецца ў сакрэце. Стратэгічная мэта зразумелая — падтрымаць усенароднаабранага ва ўтворанай ім самім крызіснай сітуацыі. Тое, што падтрымка будзе гарантавана, відаць ужо з таго, хто трапляе і трапіць у лік "дэлегатаў": усё кіраўніцтва краіны, усе "вертыкальшчыкі", а таксама "прадстаўнікі працоўных калектываў", прызначаныя, абраныя "вертыкальшчыкамі". А вось, што канкрэтна будзе вырашана (прынята) на гэтым кангрэсе, сёння, пэўна, не возьмецца прадказаць ніхто. Бо "вырашыць" на ім можна ўсё: аж да перадачы "ўсёй паўнаты ўлады" прэзідэнту, без ніякіх там рэферэндумаў: навошта грошы народныя траціць...***

## ЛАСКА ТЫДНЯ

Адносіны прэзідэнта да творчай інтэлігенцыі краіны апошнім часам пачалі заўважна змяняцца. Калі раней ён цвёрда прытрымліваўся знакамітага ленінскага вызначэння "інтэлігенцыя не мазгі нацыі, а...", то цяпер пачалося яўнае заігрыванне з элітай. Возьмем, да прыкладу, апошні тыдзень. Прэзідэнт выдаў указ "Аб штомесячнай грашовай выплаце грамадзянам, якія маюць ганаровыя званні", згодна якога народныя мастакі, паэты, артысты і г. д. СССР і Беларусі будуць атрымліваць штомесяц выплату ў памеры трох мінімальных заработных плат. Можна па-рознаму называць гэта: папулізмам, вяртаннем у "добрыя" савецкія часы, альбо аднаўленнем справядлівасці. Важна іншае: узяты курс на, як піша "Советская Белоруссия", "дзяржаўную падтрымку талентаў плюс добры кантакт з творчай інтэлігенцыяй". Асабліва яскрава акрэслілася гэта падчас трохгадзіннай сустрэчы прэзідэнта з вядомым эстрадным дуэтам — Я. Паплаўскай і А. Ціхановічам. Бяда ў адным: паняцце "беларуская інтэлігенцыя" ў разуменні сённяшніх уладаў настолькі ж расплывістае, як і "суверэнітэт", "незалежнасць", "рынак" і г. д.

## ПЫТАННЕ ТЫДНЯ

Адбудуцца альбо не паўторныя выбары ў Вярхоўны Савет краіны, прызначаныя Цэнтрвыбаркамам на 24 лістапада г. г.? Выступаючы ў Гродне, прэзідэнт заявіў адназначна, што давыбараў не будзе. На нядаўнім пасяджэнні прэзідыума ВС кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта М. Мясніковіч пацвердзіў, што "давыбары праводзіць немэтазгодна, бо разглядаецца пытанне фарміравання новага двухпалатнага парламента" з ліку цяперашніх дэпутатаў. Мясцовыя ж тэрытарыяльныя выбарчыя акругі адкрыта ігнаруюць падрыхтоўку да паўторных выбараў. Прычым не толькі ў Вярхоўны Савет, але і ў мясцовыя органы ўлады. А значыць, савецкая ўлада, замест таго, каб плаўна перайсці ў народную знікне ў нас зусім. Кіраваць дзяржавай народ будзе цяпер толькі з дапамогай рэферэндумаў...

## ФАКТ ТЫДНЯ

Іміграцыйная служба ЗША прадаставіла на неабмежаваны тэрмін палітычны прытулак З. Пазняку і С. Навумчыку. Такім чынам, Беларусь першай з постсавецкіх дзяржаў займела найноўшых палітычных эмігрантаў па Захадзе; такім чынам, афіцыйна прызнаны факты парушэння правоў чалавека ў нашай краіне і пераслед грамадзян па палітычных матывах. ЗША сказалі сваё слова. І значнасць яго не зменшаць ніякія пагрозы і кепікі сп. Замяталіна наўздагон.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Ледзь не штодзень чуем мы з радыё і тэлебачання пра галоўнае эканамічнае дасягненне прэзідэнта: стабілізацыю курса рубля і замарожаную інфляцыю. Між тым — цэны растуць сабе... З пачатку года, паведамляе "Звязда", спажывецкія цэны павялічыліся на 19,4 працэнта, цэны на харчовыя тавары ў ліпені выраслі на 2,4 працэнта... Не растуць толькі зарплата ды пенсіі. Затое з месяца ў месяц павялічваецца сума нявыплачаных своечасова заробкаў. Цяпер запазычанасць складае 1063,3 мільярда рублёў. У ліпені, праўда, на многіх прадпрыемствах змаглі выплаціць зарплату працаўнікам за... мінулы год і па травень г. г. уключна, але вырасла запазычанасць за чэрвень.

## ТЭРМІН ТЫДНЯ

"Прэзідэнт — за пазітыўную крытыку, але супраць тэндэнцыйнасці", — так назвала БЕЛТА інфармацыю пра інтэрв'ю А. Лукашэнкі агенцтву "Асашыэйтэд Прэс". Зацікавіў нас тэрмін, які прагучаў ці не ўпершыню: "пазітыўная крытыка". У савецкія часы быў тэрмін "канструктыўная крытыка", які паддаваўся лагічнаму, а не эмацыйнаму, вытлумачэнню. А што ж такое "пазітыўная крытыка"? Як так "крытыкуючы хваліць", альбо "хвалячы крытыкаваць", каб было зразумела, што гэта пахвала, а не крытыка? Не дадаюць разумення і словы А. Лукашэнкі, што сродкі масавай інфармацыі, за якімі стаіць інтэлігенцыя, выступаюць з пазітыўнай крытыкай, якую кіраўнік дзяржавы нармальна ўспрымае... Можа б, мы і хацелі пакрытыкаваць пазітыўна, але — не ўяўляем, не ведаем, як гэта?

## АПЕРАТЫЎНАСЦЬ ТЫДНЯ

У вёсцы Дзярновічы Верхнядзвінскага раёна здарылася злачынства: невядомы зняў з будынка сельсавета дзяржаўны чырвона-зялёны сцяг і на яго месца павесіў бел-чырвона-белы. Чырвона-зялёны сцяг спаліў ля сельсавета, а на дзвярах пакінуў запіску: "Хто здыме сцяг, той будзе забіты да трэцяга калена". На месца злачынства выехала аператыўная група спецыялістаў УУС і КДБ з Віцебска... Пра гэта паведамілі ўсе афіцыйныя беларускія газеты. І прыгадваецца іншы факт. Не, не знакаміты "Мірон", а тое, як на пляцы Незалежнасці ў Мінску былі спалены дзяржаўныя тады бел-чырвона-белыя сцягі, вывешаныя з нагоды ўгодкаў Аршанскае бітвы. Злачынцаў тады не тое што не знайшлі, а нават шукаць не кінуліся.

## ПРАТЭСТ ТЫДНЯ

Мінскія гарадскія ўлады знайшлі сякеру пад лаўкай — вырашылі папоўніць свой бюджэт за кошт дробных прадпрымальнікаў — "чаўнакоў" — гандляроў са стадыёна "Дынама". Мала таго, што падатак паднялі амаль у 10 разоў, дык яшчэ і абавязалі да 1 верасня выплаціць яго, прычым не толькі за жнівень, але... за ліпень і верасень таксама. Улічваючы гэта, можна прыйсці і да іншай высновы: такое драконаўскае рашэнне прынята не столькі дзеля папаўнення бюджэту, колькі дзеля задушэння малога бізнесу... Між тым, стадыён "Дынама" "дае" працу амаль 20 тысячам чалавек. І большасць з іх, па-першае, не ў стане плаціць новыя падаткі, па-другое, не мае іншае магчымасці зарабіць на пражыццёвы мінімум. А таму 28 жніўня рынак стадыёна "Дынама" страйкаваў. Гандляры прыйшлі на свае месцы без тавару. "Дынамаўцаў" падтрымалі гандляры і ўсіх іншых мінскіх рынкаў... Самы момант прэзідэнту "ўзяць ініцыятыву ў свае рукі" — адным указам адмяніць правакацыйнае рашэнне мінгарвыканкама і заваяваць сімпатыі "бізнесменаў". Інакш, навошта ж тады гэтая "каша" заварвалася...

*З нагоды*

# ЧАСУ НЯШМАТ

"Круглы стол" адбыўся. Ягоныя вынікі можна ацэньваць і як вельмі сціплыя, і як вельмі значныя. Калі зыходзіць з таго, што замест ультыматуму выканаўчай уладзе, якая ігнаруе Канстытуцыю і законы краіны, удзельнікі "круглага стала "ўсяго толькі засведчылі ўласны намер трымацца ў сваёй дзейнасці палажэнняў Канстытуцыі і паважаць законы — дык многа шуму з нічога. Але "круглы стол" абвешчаны пастаянна дзеючым, значыць, міжпартыйная дамова — усур'ёз і надоўга. На 2 верасня, дзень адкрыцця чарговай сесіі Вярхоўнага Савета, удзельнікі нарады запланавалі сустрэчу выбаршчыкаў з дэпутатамі ВС. Паставіўшы подпісы пад агульнай заявай, прадстаўнікі партый рознай ідэалагічнай арыентацыі збіраюцца разам пайсці "ў народ". Для пачатку — дык і някепска. Апошнім часам беларуская дэмакратыя надта ж часта зведвала паразы і падлічвала страты. Дык можна парадавацца і невялікаму поспеху.

Я — нацыяналіст і антыкамуніст. Мой сцяг — бел-чырвона-белы, мой герб — Пагоня. Але сёння я стану і пад чырвоны сцяг, калі на ім будзе напісана: "Далоў дыктатуру!" і "Няхай жыве Канстытуцыя!"

Зусім нядаўна немагчыма было ўявіць з'яўленне ў "Свабодзе" і "Белорусской деловой газете" публікацый за подпісам лідэра камуністаў Васіля Новікава. Такая ініцыятыва каштавала б прыгаданаму аўтару партыйнага білета. А сёння камуністы растлумачаць някемлівым, што і сам Уладзімір Ільіч не адмаўляў магчымасці блоку з апанентамі, калі гэта трэба для добрай справы.

Распрацаваная Адміністрацыяй прапагандысцкая версія для Захаду "Прэзідэнт-рэфарматар супраць камуністычнага парламента" навязвае ўплывовай камуністычнай фракцыі ў парламенце нязвыклую для яе ролю... Беларускага народнага Фронту. Бо ў мінулым ВС апазіцыяй прэзідэнту быў найперш БНФ. Каб нейтралізаваць гэту апазіцыю, сп. Лукашэнка не спыніўся нават перад скарыстаннем сілы. Цяпер "святое месца" занялі ідэалагічныя апаненты БНФ, пацвердзіўшы гэтым самым, што Беларусь — краіна парадоксаў. Камуністы ў апазіцыі да прэзідэнта, якога прывялі да ўлады камуністычныя лозунгі і па-бальшавіцку настроены электарат — рэч нечаканая.

Калі пра "асобны беларускі шлях" гавораць чыноўнікі, калі ў калідорах улады нараджаюцца сюррэалістычныя ўтварэнні, накшталт "рынкавага сацыялізму", гэта сведчыць пра нежаданне нешта змяняць у існуючай сітуацыі, пра няздольнасць асэнсаваць велізарны вопыт развітых краін і нашых учарашніх "братьев по классу", якія ўпэўнена асвойваюць рынкавую эканоміку.

Але наш шлях да Незалежнасці сапраўды мае спецыфічныя рысы. Напачатку былі вялікія спадзяванні на тое, што Беларусь пойдзе "балтыйскім шляхам". Гэта значыць, ва ўмовах паслаблення пазіцыі саюзнага Цэнтра праводзяцца выбары ў органы вярхоўнай і мясцовай улады, на якіх, зразумела, перамагаюць нацыяналісты, дэмакраты, адраджэнцы. Далей — справа тэхнікі... Але, як вядома, беларускае насельніцтва абрала дэпутатамі ў асноўным камуністычную наменклатуру, інвалідаў, ветэранаў. Яно і зразумела. Беларусь не мела двух дзесяцігоддзяў незалежнасці, як Эстонія, Латвія, Жамойць, каб радавацца перспектыве адраджэння дзяржаўнасці. Ды і ў сэнсе нацыянальнай свядомасці беларусам далёка да названых народаў.

Не прайшоў у Беларусі і "польскі варыянт". У Польшчы была легальная апазіцыя камуністычнай уладзе — касцёл. А рабочы рух нарадзіў моцны незалежны прафсаюз "Салідарнасць". Саюз касцёла, які ўвасабляў традыцыйныя польскія каштоўнасці, і "Салідарнасці" — барацьбіта за эканамічныя і палітычныя інтарэсы нацыі зрабіў крушэнне кіруючага рэжыму ў Польшчы непазбежным. У Беларусі самая ўплывовая канфесія — праваслаўе, падпарадкаванае Маскве, такой ролі не магло адыграць, а рабочы рух робіць толькі першыя самастойныя крокі.

Не пайшла Беларусь і шляхам Украіны. Бо на Украіне, як у Балтыі і Польшчы, былі свае нацыянал-камуністы — людзі, не пазбаўленыя патрыятычных пачуццяў да сваёй зямлі. Ад нацыянал-камунізму блізкі шлях да сацыял-дэмакратыі і нацыянал-дэмакратызму. Беларускія ж камуністы былі, мабыць, самыя вялікія "інтэрнацыяналісты" на ўвесь "сацыялістычны лагер".

Ды і расійскі шлях — не для нас. Бо гэта шлях імперскі, нават калі і пад дэмакратычным сцягам.

Наш шлях да сапраўднай Незалежнасці ідзе праз пазбаўленне ад ілюзій, праз размыванне люмпенскага менталітэту "саўка" беларускай нацыянальнай свядомасцю. Хутчэй за ўсё беларуская ідэя дойдзе да нашага насельніцтва не праз галаву, праз розум, а найперш праз страўнік, праз усведамленне выгод, якія дае Незалежнасць.

Меліся вялікія ілюзіі адносна "братняй" Расіі. Спадзяваўся люмпен, спадзяваліся і людзі дасведчаныя. Мне даводзілася чуць ад некаторых эканамістаў, што мытны і валютны саюзы з Расіяй — справа небясспрэчная (бо закранае наш суверэнітэт), але ўсё ж выгадная. Спадзяванняў на тое, што нашы ўлады самі рэфармуюць нашу эканоміку, няма, дык — хай прыйдзе на Беларусь расійскае эканамічнае заканадаўства. На гэтай юрыдычнай глебе, можа, пойдзе ў рост беларускае прадпрымальніцтва. На справе ж атрымалася, што расійскі капітал займеў на Беларусі ўсе магчымыя і немагчымыя прывілеі. Ён дзейнічае на нашай зямлі згодна з расійскімі законамі, мае, фактычна, статус экстэрытарыяльнасці, а беларускія заводы па-ранейшаму "запушчаныя", лёс беларускага прадпрымальніка па-ранейшаму залежыць ад "манаршай волі" прэзідэнта.

З прышэсцем Расіі ў Рэспубліку Беларусь жыццё беларуса не стала больш заможным. І барацьба за дабрабыт лагічна пераходзіць у барацьбу за незалежнасць. Гэта вельмі нерамантычна, але — такая рэчаіснасць. "Никто не даст нам избавленья..."

Мінулы "рэферэндум" меў мэтай падрыхтаваць урачыстае ўступленне сп. Лукашэнкі ў Крэмль. З гэтай марай Аляксандру Рыгоравічу давялося развітацца, і плануемы "рэферэндум" ставіць мэту больш сціплую — гарантыю яго замацавання ў крэсле прэзідэнта "ўсяго толькі" Беларусі. "Перамога" прэзідэнта на "рэферэндуме" створыць праблему, аб якой пакуль не надта гаворыцца ўголас. Калі ўся ўлада не толькі фактычна, але і юрыдычна сканцэнтруецца ў адных руках, калі парламент стане "кішэнным" і не здолее ўплываць на палітычны працэс у краіне — знікне законная магчымасць заклікаць правячы рэжым да парадку. Значыць, аднавіць справядлівасць (у пэўнай сітуацыі) можна будзе толькі супрацьзаконным шляхам. Так бы мовіць, "именем революции"... А гэта мы ўжо праходзілі. Праўда, кепскіх вучняў гісторыя пакідае "на другі год".

Сёння сацыяльныя эксперыменты А. Лукашэнкі закранулі ўсё беларускае грамадства. Няма ніводнай сацыяльнай групы, ніводнай палітычнай партыі, якая нешта прыдбала б ад "перамогі" сп. Лукашэнкі на "рэферэндуме".

Пакуль небяспеку ўсвядоміла толькі палітычная эліта. Часу, каб прадухіліць бяду, што пагражае нашай краіне і народу, засталося няшмат.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

**P.S.** Заўчора, у сераду, да пагаднення, падпісанага раней прадстаўнікамі сямі палітычных партый, далучыўся шэраг грамадскіх і палітычных арганізацый — Беларускі Пэн-цэнтр, Беларуская хрысціянска-дэмакратычныя партыя, "Зялёныя", Фонд імя Сапегі, Беларускі Хельсінскі камітэт, Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. У той жа дзень была прынята палітычная заява, у якой прэзідэнту фактычна прад'яўлены ультыматум: альбо ён вернецца ў "канстытуцыйнае поле", альбо партыі праз свае фракцыі ў Вярхоўным Савеце распачнуць працэдуру імпічменту. На пытанне аб магчымай рэакцыі А. Лукашэнкі на прынятую заяву сп. Багданкевіч, лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі, адказаў: "Будзе рэакцыя адкрытая — для грамадства, і закрытая — для шчыльнага кола. Мы хацелі б, каб рашэнне прэзідэнта было ў рамках закона. Але калі тармазоў у яго не хопіць, ён пойдзе на дзяржаўны пераварот. І тое, і другое будзе спрыяць развіццю нашага грамадства". Мабыць, у тым сэнсе, што будзе нарэшце нейкая акрэсленасць, у выніку чаго розныя групы грамадства вызначацца са сваімі прыярытэтамі.

Лідэр камуністаў сп. Новікаў заўважыў, што прынцыпы — рэч добрая, але прынцыпы ў нашай краіне пастаянна парушаюцца. З рэальнасці трэба і зыходзіць. Калі што — ісці ў народ...

Я асабіста быў прыемна ўражаны, калі, выступаючы пасля Юрыя Хадыкі, Васіль Новікаў сказаў: "Я дапоўню свайго калегу з БНФ..." Калі толькі лідэр камуністаў не абмовіўся (быў у 1945 годзе выпадак, калі маршал Жукаў звярнуўся да заходніх лідэраў са звароткам "товарищи"), дык беларуская дэмакратыя мае шанц.

**П. В.**

*Надзённае*

# АЧУНЯЕМ!

**Рожь - не жыта, роща —**
**ды не гай**
**і картошка — не адно,**
**што бульба:**
**гук не той і дых,**
**чым родны край**
**дарагі з маленства, вечна любы.**

**Доўга й люта прывучалі нас**
**да чужога слова,**
**іншай веры;**
**Як было —**
**засведчылі не раз**
**і стралкі лясныя й касінеры.**

**Прагнуць злыдні**
**ў наскае душы**
**Ніву мовы**
**здратаваць дашчэнту,**
**родны край**
**каб чуўся нам чужым,**
**дзе не жыць прароку ці паэту.**

**Прагнуць наша годнае імя**
**памяняць на нейкую мянушку,**
**хоць дубровы і бары шумяць,**
**як раней —**
**усе па-беларуску.**

**І лятуць яшчэ да нас буслы**
**І лунаюць па-над лугам,**
**гаем —**
**вешчуны гаючае вясны;**
**ад прымусу, пэўна ж, ачуняем.**

**Марна енчыць:**
**(от як нам баліць...),**
**у чаканні радасці аднекуль;**
**натуральна на сваёй зямлі**
**браць сваё, што трэба чалавеку.**

**Гэта справа боская, калі**
**паўстаеш супроць прыгнёту**
**й здзеку.**

**Аляксей РУСЕЦКІ**

Мітрэнгі

# ПАДЗЯЛЯЙ І ЎЛАДАР

Са старым, як свет, прынцыпам палітычных рэжымаў — падзяляй і ўладар — мы сустракаемся сёння, на жаль, і ў нашай блаславеннай дзяржаве. Падзеленымі фактычна на два лагеры аказаліся і сродкі масавай інфармацыі. На тых, хто ў лепшых традыцыях цэкоўскага агітпрапа ўзносіць да нябёсаў уладароў, і тых, для каго гарантаваныя Канстытуцыяй свабоды слова і друку не з'яўляюцца пустым гукам. Аказваючы першым сваю ўсебаковую падтрымку, дзяржава імкнецца прыбраць да рук "непаслухмяных", — менавіта так ахарактарызавала становішча ў сродках масавай інфармацыі ў краіне прэзідэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў Жана Літвіна на скліканай гэтай арганізацыяй прэс-канферэнцыі, што адбылася днямі.

Акрамя пішучай брацііі, у прэс-канферэнцыі бралі ўдзел старшыня падкамісіі па сродках масавай інфармацыі Вярхоўнага Савета Беларусі Аляксандр Дабравольскі, першы намеснік старшыні Белкамдзярждруку Зіновій Прыгодзіч і намеснік начальніка упраўлення гэтага камітэта Лілія Ананіч.

Штуршком для склікання прэс-канферэнцыі з'явіліся нядаўняя публікацыя ў газеце "Знамя юности" пад назвай "Подстрекатели" і інтэрв'ю старшыні Белдзяржкамдруку У. Бельскага газеце "Звязда". Шмат якія выступоўцы на гэтай сустрэчы адназначна расцанілі згаданы артыкул "Знаменки" як правакацыйны, што мае ўсе прыкметы палітычнага даносу на выданні, грамадскія пазіцыі якіх недаспадобы аўтару.

Што тычыць інтэрв'ю сп. У. Бельскага, у якім ён выклаў аспекты дзейнасці падначаленага яму ведамства, дык яно было расцэнена прысутнымі неадназначна. Некаторыя з выступоўцаў убачылі ў шэрагу выказванняў старшыні Камітэта ў адносінах да СМІ праявы палітыкі "пугі і перніка" — заахвочванне адных выданняў і пагроза адлучыць ад дзяржаўнага фінансавання "непаслухмяных", тых, хто "не спрыяе" палітычнай і эканамічнай стабільнасці ў краіне.

Знайшла падтрымку на прэс-канферэнцыі і выказаная думка, што такое ўмяшальніцтва ў дзеянні сродкаў масавай інфармацыі фактычна адраджае цэнзуру, якая Законам аб друку ў нашай краіне не дапускаецца, што аб'ектыўнасць ці неаб'ектыўнасць кожнай інфармацыі павінна вызначацца не дзяржаўнымі структурамі, а толькі судом.

За парушэнне некаторых палажэнняў Закона аб манаполіі крытыкаваў Белдзяжкамдрук А. Дабравольскі. На прэс-канферэнцыі вялася гаворка і пра маючы быць прынятым Закон аб падтрымцы сацыяльна-значных перыядычных выданняў. Шмат было пытанняў да Л. Ананіч адносна вызначэння "сацыяльна-значныя выданні". Як можна было зразумець з яе тлумачэнняў, дзяржава ў першую чаргу будзе мець на ўвазе падтрымку дзіцячых і літаратурна-мастацкіх выданняў, пераважная большасць якіх выходзіць на беларускай мове. Адказваючы на пытанне пра абвешчанае Белдзяржкамдрукам аб'яднанне штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" з некаторымі іншымі нібыта аднатыпнымі выданнямі, Л. Ананіч тлумачыла неабходнасць такога кроку цяжкім фінансавым становішчам у краіне.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі вырашылі звярнуцца да Вярхоўнага Савета Рэспублікі з прапановай абмеркаваць становішча на інфармацыйнай прасторы Беларусі.

**М. ЗАМСКІ**

Угодкі

# "ЗА АДНУ ТВАЮ СПРОБУ..."

***Бадай, самае важкае сёлетняе тэатральнае свята прыпала якраз на міжсезонне. Бацька беларускай прафесійнай сцэны Ігнат Цярэнцьевіч Буйніцкі патрапіў нарадзіцца ў жніўні; у мінулую нядзелю грамадскасць (тэатральная ды проста ўдзячная) святкавала ягонае статрыццаціпяцігоддзе.***

...Уразіла колькасць веласіпедаў ля касцельнай агароджы: на нядзельную службу з'ехалася траха не ўсё наваколле. Касцёл у Празароках мае патронкаю Маці Божую, ксёндз пробашч Казімір Акушка толькі-толькі распачаў сваю дзейнасць, але пра Буйніцкага казаў хораша, звязаўшы безумоўна асветніцкую, культурніцкую ягоную дзейнасць з высокаю духоўнасцю ды адданасцю радзіме. Прамаўляў папольску, праз перакладчыцу, а як скончыў, дык ад касцёла рушыў ход — з кветкамі да помніка-надмагілля. Думалася, выкажуцца госці, сталічныя навукоўцы ды дзеячы сцэны (С.Лаўшук, У. Рылатка, М. Захарэвіч, А. Дудараў, М. Пашынскі, А. Лабовіч), распавядзе пра закладзены музей ды пошукавую работу мясцовых школьнікаў Марыя Поляк, загадчыца Глыбоцкага аддзела культуры райвыканкама — вось і ўсё святкаванне! І — не адно самыя старыя людзі. Пра Яську Голера, якому толькі паводле пецярбургскай афішы з ягоным прозвішчам у складзе трупы Буйніцкага дапамаглі атрымаць невялічкую пенсію, гаманілі дзядзькі не самага сталага веку, — з жыццёвымі падрабязнасцямі, то смешнымі, то драматычнымі. Не выступаючы, а так, між сабою. Бо — памятаецца...

Памятаецца і Міколу Савіцкаму, мінскаму прафесару і тамтэйшаму ўраджэнцу, як бабуля расказвала: маўляў, Буйніцкі сам на танец запрашаў, а скакаў, а дэкламаваў! Па вёсках вучыў таньчыць! І ніхто, заўважце, не пытаўся ў "беднага пана", навошта селяніну гэтая навука... У будынку, дзе нарадзіўся, іграў ды танцаваў Буйніцкі, доўгі час месціўся "Заготскот", — здавалі мястэчкоўцы хто свінчо, хто карову. Потым на месцы сядзібы ў Палевачах (менавіта на такім напісанні й вымаўленні настойвалі мясцовыя кабеты, з якімі выпала пагутарыць ля помніка) пабудавалі ферму, — ферма спарахнела ўжо, аднавіць намагаліся — не выйшла. Так што месца для ўшанавання Ігната Буйніцкага расчышчаецца...

У самім Глыбокім чакала існае свята: Шумілінскі народны тэатр з блінамі ды жартамі, віцебскі ансамбль "Талака" (ён трымаў людзей на пляцы пад небам больш за дзве гадзіны! І ўтрымаў!), акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа з "Залётамі" В. Дуніна-Марцінкевіча. У ролі Несцеркі, памянёным драматургам не прадугледжанай, на сцэну падняўся сам Фёдар Шмакаў. У ролі вартага тэлеаператара яго зазняў сам Іван Міско. Скульптар, аўтар помніка Буйніцкаму і яшчэ шмат якіх вядомых і вельмі вядомых нашых помнікаў. На жаль, Іван Акімавіч напраўду быў адзіны, хто меў пры сабе і камеру, і фотаапарат. Прэсу прадстаўлялі два чалавекі: карэспандэнт "ЛіМа" і Беларускага радыё, другой праграмы, маладзенькая паненка Гальпяровіч. Полацкія журналісты Навум Гальпяровіч і Лявон Неўдах бралі ўдзел ва ўрачыстасцях як паэты... Шануючы бацьку беларускага прафесійнага тэатра, яны нагадалі, таксама з паэта, за што: "За адну тваю спробу замест валокі — Мову людзям вярнуць і зямлю бацькоў". Самай высокай вартасці спроба. Адметна, калі пра яе нагадваюць руплівыя бабулі ды паэты. І памятаюць, — што ў аддзелах культуры, што ў акадэмічным тэатры. А напрыканцы слушна заўважыў Сцяпан Лаўшук: маўляў, што нашы цяжкасці ў параўнанні з цяжарам пачынальнікаў? "Усіх, хто мае здольнасці артыстычныя і акцэнт беларускі"? Узяць ды ўтрымаць... світку Буйніцкага...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

Фрагменты

# "НЕ ЗАБАРАНЯЙ. НЕ АДМАЎЛЯЎ. НЕ ГВАЛТУЙ"

***Знаёміць нашага чытача з Ш. Аманашвілі наўрад ці ёсць патрэба. Яго добра ведаюць нашы настаўнікі, ды і не толькі настаўнікі, яшчэ з савецкага часу — імя Шалвы Аляксандравіча, славутага педагога-наватара, было на слыху ад Брэста да Уладзівастока. А пасля быў 1991 год, былыя савецкія рэспублікі сталі незалежнымі дзяржавамі і, натуральна, першапачатковы перыяд станаўлення суверэннасці аддаліў былых членаў "адной вялікай сям'і і народаў". Само сабою, гэткая сітуацыя не павінна задоўжвацца. Народы былога Савецкага Саюза маюць патрэбу адзін у адным, і сувязі — эканамічныя, культурныя, духоўныя — будуць адноўлены, будуць развівацца і мацнець, толькі ўжо на новай аснове, на глебе сапраўднай узаемавыгаднасці і роўнасці. Яны ўжо і сёння аднаўляюцца, і ўяўляюць цікавасць найперш вопытам незалежнага дзяржаўнага, гаспадарчага, культурнага будаўніцтва.***

***Менавіта ў гэтым сэнсе нам падалося цікавым інтэрв'ю з Ш. Аманашвілі, змешчанае ў "Литературной газете" за 7 лютага г. г. Падаём тут тры пытанні карэспандэнта і адказы на іх слыннага грузінскага педагога.***

**— Шалва Аляксандравіч, у апошнія гады ўсё радзейшыя вашы артыкулы ў друку, радзейшыя выступленні па тэлебачанні. Ці азначае гэта, што ў эпоху вялікіх палітычных патрасенняў праблемы адукацыі сталі чымсьці другарадным і вы знаходзіце менш магчымасцей прымяняць свой багаты вопыт?**

— Школа застаецца школай, а дзеці — дзецьмі. Іх трэба гадаваць і выхоўваць у любых умовах. Думаю, маёй энергіі за апошнія гады нікольки не паменшала. Працягваю працаваць у першай эксперыментальнай школе Тбілісі. Бязмежна шчаслівы, што, нягледзячы на найцяжэйшыя варункі, у якіх аказаліся настаўнікі ў Грузіі, яны не апусцілі рук і не пайшлі ў камерцыю.

Пры школе тры гады назад я стварыў Акадэмію педагагічнай мудрасці. Гэтую ідэю выношваў шмат гадоў. Гэта міні-мадэль ВНУ, куды прымаем па пяць-шэсць чалавек і рыхтуем з іх "штучных" педагогаў па сістэме аспіранцкай падрыхтоўкі. Сорак маіх аспірантаў ужо сталі кандыдатамі навук, акрамя таго, мяне запрасілі загадваць кафедрай пачатковай адукацыі ў педагагічны універсітэт імя Сулхан-Саба Арбеліяні.

Я прыйшоў да пераканання, што сапраўдная гуманная педагогіка павінна грунтавацца на найвялікшай веры. Вера ёсць прадчуванне ведаў. Настаўнік, які не верыць у сілу і здольнасці дзіцяці, будзе не ў стане будаваць аптымістычны, гуманны педагагічны працэс. Ці знойдзе сябе дзіця ў жыцці, ці зможа праявіць сваю асабістую дыспазіцыю — будзе залежаць шмат у чым ад таго, наколькі працэс адукацыі адпавядае яго ўнутраным памкненням.

Усе вывучаемыя ў школе прадметы — матэматыка, фізіка, хімія — толькі інструменты, спосабы раскрыцця духоўнага свету дзіцяці.

**— Гэта тэорыя. Як на практыцы ваша ідэя гуманнай педагогікі суадносіцца з сённяшнім светам?**

— Гэтае пытанне бянтэжыць многіх маіх калег. Разумееце, я як педагог, вядома, магу выканаць заказ грамадства, — а яно зараз крыху азлобленае, тэхнакратычнае, — і пачаць выхоўваць асобу, якая б адпавядала гэтаму грамадству па ўсіх параметрах — жорсткую, якая ўмее абараніць сябе, прабівацца ў жыцці, рабіць грошы... Але ці маю я, настаўнік, на гэта маральнае права? Ці будзе развівацца грамадства, калі пладзіць гэткіх жа, якіх у ім і так зашмат? Калі я і мае калегі не будзем гадаваць духоўна багатых, духоўна ўзвышаных людзей — у чым я і бачу галоўнае прызначэнне педагога, — дык грамадства загіне.

Не спрачаюся, дзіцяці, выхаванаму ў духу ўзвышанага, няпроста давядзецца ў гэтым свеце. Але, можа быць, у гэтай складанасці ён набудзе радасць жыцця?

Цяперашняе пакаленне настаўнікаў — гэта тое пакаленне, якое зможа вывесці школу з крызіснага стану. У Расіі, па маіх назіраннях, гэты працэс пачаўся ўжо. А вось грузінская сістэма адукацыі пакуль працягвае заставацца ў абцугах аўтарытарнасці і кансерватызму. Крыўдна прызнаваць, але Грузія не зразумела, напрыклад, такога вялікага педагога, якім быў Якаб Гагебашвілі, недаацаніла, а ён між тым па сваіх педагагічных поглядах стаіць на ўзроўні Каменскага, Ушынскага, Песталоці...

**— Побач з прынцыпамі гуманнай педагогікі вы выказвалі ідэю аб "нацыяналізацыі" школы. У свой час сустрэтая ў штыкі, цяпер яна, наколькі мне вядома, набыла прызнанне?**

— Калі грузін не будзе ведаць і любіць Руставелі, ці зможа ён ацаніць і зразумець Дантэ? Дзіўна, але калі пра нацыяналізм загаварылі рускія пісьменнікі, гэта не палічылі грэхам, але варта загаварыць пра гэта мне, грузіну, як ярлык нацыяналіста тут жа быў начэплены. А я думаю, што і Грузія, і Расія, і любая іншая краіна павінны мець уласныя школы са сваёй спецыфікай навучання, заснаванай на традыцыях і самабытнасці народа. Кепска, калі мы экспартуем школы з Германіі ці Амерыкі без агляднкі, без уліку мясцовай спецыфікі. Скажам, школа Ховарда прыстасавана да амерыканскага ладу жыцця. Ці ўпішыцца яна ў нашу рэчаіснасць, хто-небудзь пра гэта падумаў? А Ховард задумаў — ні больш, ні менш — аграмадную адукацыйную індустрыю і ўкараняе яе паўсюль.

Я паспрабаваў распрацаваць схему такой школы, у якую можна ўкласці нацыянальны дух. Думаю, што ў мяне будзе магчымасць адчыніць такую школу ў Грузіі. Няхай нават прыватную, аўтарскую.

Варункі

# БЕЛАРУСКІЯ ШАХЦЁРЫ

**Мая хатняя бібліятэка перажыла тры этапы напаўнення. Першы — калі я купляў усё беларускае, другі — калі я пачаў выбіраць тое, што было цікавым і патрэбным з гэтага беларускага, і трэці — калі я з цікавага і патрэбнага, вагаючыся, выбіраю самае-самае... У разрад гэтых кніжак нядаўна патрапілі і "Старажытныя шахцёры на Росі" калектыву аўтараў-археолагаў на чале з Міхасём Чарняўскім.**

**Адзін з нямногіх старых рамантыкаў беларушчыны, Міхась Міхайлавіч нават у такой, далёкай ад белетрыстыкі навуцы як археалогія знаходзіць магчымасць зацікавіць чытача. У прыватнасці, мы даведваемся, аказваецца, што "перадапошні ледавік (сожскі) вырваў з марскога дна гіганцкія адорвені крэйды і, адступіўшы каля 200 тысячагоддзяў назад на поўнач, пакінуў іх на паверхні пясчана-жвіровых адкладаў". Якія грандыёзныя падзеі адбываліся некалі каля ракі Рось! Сёння ж, дзякуй Богу, "рака свабодна меандрыруе па поплаве".**

**Чым жа прыцягнулі ўвагу археолагаў гэтыя адорвені крэйды? У іх на працягу тысяч гадоў людзі здабывалі крэмень для вырабу з яго прыладаў працы. Як вынік іхніх пошукаў засталіся крэмнездабываючыя шахты, месцы першаснай апрацоўкі крэменю, а таксама астаткі паселішчаў старажытных людзей. Такі своеасаблівы "рурскі басейн" старасветчыны", як яго паэтычна называе М. Чарняўскі. Заўважу, што гэты звычайны крэмень нашыя старажытныя продкі здабывалі прыладамі, выробленымі амаль выключна з рагоў высакароднага аленя...**

**Мабыць, гэтае параўнанне з Рурам невыпадковае, бо такія шахты існуюць ва ўсёй Еўропе: у Бельгіі, Англіі, Францыі, Польшчы. У Расіі іх няма і гэта дае падставу М. Чарняўскаму называць іх "унікальным для усходняй Еўропы комплексам", а мне — правесці мяжу "усходняй Еўропы" дзесьці там — за Хоцімскам...**

**У кнізе апісваюцца самі шахты, тэхналогія апрацоўкі крэменю, які карыстаўся вялікай папулярнасцю на Беларусі яшчэ падчас бронзавага веку і саступіў толькі жалезу недзе тры тысячы гадоў таму. Мабыць, нашае адставанне ад Еўропы пачалося яшчэ з тых часоў, як у нашых землях не знайшлося бронзы... Але, тым не менш, з крэменю, аказваецца, рабілі скрабкі, скоблы, цёслы, разцы, наканечнікі стрэлаў, скрэблы, нажы і сякеры. А сякеры, у сваю чаргу, былі дыскападобныя, авальныя, трапецападобныя, прамакутныя, дзідападобныя, з перахватам і міндалепадобныя...**

**Чытаючы гэтую працу, радуешся за беларускую мову. Ну што можа сказаць наступная фраза рускаму чалавеку: "на ўзроўні скляпення ў крэйдавым друзе калодзежа знойдзена кірка з аленевага рога з прасвідраванай адтулінай". Бойцеся, хто кажа, што беларуская мова — гэта дыялект расійскай!**

**Самае непрыемнае ў кніжцы, як заўсёды, звязана з савецкай уладай. Так, прыкладна з дзвюх тысяч шахт, якія дайшлі да нашага стагоддзя, тры чвэрці знішчыў цэментова-шыферны завод, які браў крэйду на сыравіну. На тэрыторыі хіленькага запаведніка застаецца каля 170 шахт і ніводная з іх не музееефікаваная. Таму не дзіўна чытаць наступнае: "большасць змесціва пахавання была ссунута бульдозерам у адвал..."**

**Ёсць у расійскай мове такое ўстойлівае словазлучэнне: "Иваны-непомнящие". Дык гэта, здаецца, пра нас.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## "КРУГ", N 4

**"Хочаце падмануць народ — запытайце яго" — над пытаннямі, звязанымі з правядзеннем чарговага рэферэндуму, разважаюць вядомыя юрысты: эксперт НЦСІ "Усход-Захад" С. Ляўшуноў і Д. Булахаў. А. Строеў ("Масква. Зачыстка") расказвае, як адбываецца "вызваленне" сталіцы Расіі ад "асоб каўказскай нацыянальнасці". Доктар сацыялогіі С. Шавель ("Эліта") узнаўляе паўпадпольную жыццядзейнасць паўлегальнай "эліты" Беларусі. Дзяржаўныя чыноўнікі, ахвочыя пажыць за кошт народа, — героі нарыса І. Шчучэнкі "Прыкарытнікі". Да чаго прыводзіць адсутнасць аховы працы на прыватных прадпрыемствах — пра гэта развагі С. Шаўцова "Рабы па ўзаемадамоўленасці". А. Дзэлендзік пераканаены: грамадзяне Беларусі не абаронены ад сваволя сілавых структур ("Так хочацца мець свае Салаўкі!"). Ці адказвае дзяржава і дзяржаўная медыцына за супрацьпраўныя дзеянні псіхічна хворых людзей? — на гэтае пытанне адказвае матэрыял С. Паўловіча "Сідараў супраць Рэспублікі Беларусь". Аб прычынах "Спячкі" беларусаў, якія абыякавы да лёсу краіны, нацыі — эсэ К. Шэрмана "Сон розуму". Як Пётр І у свой час разбурыў Полацк, можна даведацца з "Полацкай экскурсіі Пятра І" У. Арлова. Сярод матэрыялаў нумара і такія публікацыі, як "Наіўны чалавек" М. Манохіна, "Сексізм" І. Зуб, "Школьныя грахі" М. Філіповіч, працяг "Практыкума Андрэя Казловіча", "Дом інвалідаў" Ю. Юшкаўца...**

## А ЎСЁ Ж ПРЫЕМНА...

**Хоць наклад гэтага выдання зусім невялікі — усяго... 60 адпаведнікаў. "Слоўнік-мінімум эканамічных тэрмінаў" (аўтары І. Гасіева і Н. Малочка) адразу дае мажлівасць параўнаць, як гучыць пэўнае слова на пяці мовах — рускай, беларускай, англійскай, французскай і арабскай. Выпусціў ж гэты унікальны слоўнік у Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце.**

## ЖЫВЕ Ў ГЛУСКУ МАЙСТАР



**Вядомы ў Глуску народны ўмелец разьбы па дрэве Мікалай Ячмянькоў атрымаў магчымасць праславіцца яшчэ больш: ягонага прыяцеля, таксама глусчаніна, Аляксандра Фастаўца запрасілі прыняць удзел у папулярнай тэлеперадачы "Поле цудаў". А падарунак для музея перадачы — пано з выявай беларускіх зуброў — зрабіў Мікалай Ячмянькоў.**

*На здымку: Мікалай Ячмянькоў з унукам, у якога пано для "Поля цудаў", і іншымі сваімі работам.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## "ЗМЕНА" ЗАПРАШАЕ!

**Да Дня беларускага пісьменства і друку ў мінскім кінатэатры "Змена" адбудзецца паказ фільма "Я, Францыск Скарына". 2 жніўня гэты фільм можна будзе пагледзець у 9 00, 11 30 і ў 14 гадзін. 3 жніўня — у 12, 14 і 16 гадзін.**

# ЧЫЯ БЫЛА ПРАЎДА, або ШЫВАРАТ НАВЫВАРАТ

Хоць і гавораць: хто памяне старое, таму вока вон, але — пачну з недалёкага мінулага.

Бадай, яшчэ многім не забыліся тыя энтузіязм і эйфарыя, з якімі ў свой час адбываўся візіт нашых парламентарыяў у КНР. Тады прадстаўнічая дэлегацыя на чале са спікерам С. Шушкевічам на ўласныя вочы пераканалася, які плён прынесла Кітаю вядомая палітыка Дэн-Сяо Піна: "Няважна, якой масці кошка — толькі б лавіла мышэй". Не гаворачы пра эканамічныя поспехі ўсёй краіны, гасцей уразіла свабодная эканамічная зона (СЭЗ). У мінулым адна з найбольш адсталых правінцый, дзякуючы замежным інвестыцыям і свабоднаму развіццю, за кароткі тэрмін ператварылася ў багатую і квітнеючую.

І да гэтага ідэя СЭЗ вітала ў паветры Рэспублікі Беларусь. Цяпер жа яна стала на парадак дня. У пошуках неабходных інвестараў прадстаўнічыя дэлегацыі накіраваліся ў развітыя краіны далёкага замежжа. Пабывалі ў Італіі, Аўстрыі, ФРГ, Нідэрландах і іншых краінах. Усюды пасланцоў новай суверэннай дзяржавы сустракалі як прыемнае "адкрыццё", выказвалі гатоўнасць прыйсці на дапамогу. Бізнесмены, якія ў адказ наведвалі Рэспубліку Беларусь, гаварылі: "Вы ж ходзіце па грашах — варта толькі нахіліцца..."

Здавалася, курс узяты верны, надзейны. Першай пачаць эксперымент з СЭЗ аб'явілася Брэсцкая вобласць і ўжо ў гэтым накірунку пачала тое-сёе рабіць.

Але партакратычная большыня тадышняга Вярхоўнага Савета сустрэла ідэю ў штыкі. "Гэта не наш шлях развіцця, — залямантавалі камуністычныя артадоксы. — Мы не кітайцы! У нас іншы менталітэт..." Другія з не меншым энтузіязмам дадавалі: "Ад імперыялістычных акул нічога добрага чакаць нельга..." У якасці аргумента супраць СЭЗ гучала і такое: "Калі мы створым падобныя зоны, туды перабягуць людзі з іншых абласцей".

І ўсё вярнулася на кругі свае. Замест руху наперад — таптанне на месцы, знаёмы застой, патугі павярнуць гісторыю назад. Замест рэфармавання эканомікі, развіцця рынкавых адносін — адраджэнне таго самага адміністрацыйна-каманднага кіраўніцтва: прэзідэнцкая вертыкаль, адміністрацыйныя накачкі і спагнанні, усёахопліваючы кантроль і г. д. (Дарэчы, аб кантролі. Калі паслухаць, якія мільёны і мільярды прыносяць рознага роду праверкі і інспекцыі, то дальбог, яны даюць больш прыбытак, чым вытворцы, разам узятыя. Словам, на кантролі едзем і кантролем паганяем. Таму няхай жыве і квітнее ленінска-бальшавіцкі кантроль).

Далей. Замест раздзяржаўлення і прыватызацыі — прыхватызацыя і карупцыя, непамерны падаткавы прэс, амаль прыпыненне інвестыцый як унутраных, так і з замежжа. Замест незалежнасці друку, плюралізму думкі — прыбіранне да рук СМІ, якія, бачыце, не асвятляюць, як выконваюцца цэнныя ўказанні галавы дзяржавы.

І аўтарытарызм, аўтарытарызм ва ўсіх формах і відах. І па прыкладзе былых генсекаў — партрэты, партрэты правадыра. Набывайце, любуйцеся, натхняйцеся і ўсе беды адступяць, адпадуць, як хваробы на сеансах Кашпіроўскага...

І во — цуд! Нечакана — негадана. Зігзаг на ўсе 180 градусаў. Дзяржава, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, урачыста абвяшчае прэзідэнт, павінна праводзіць збалансаваную, ураўнаважаную гандлёва-эканамічную палітыку. Таму трэба глядзець не толькі на Усход, але і на Захад. Такім чынам, тое, што яшчэ нядаўна адмяталася з парога як непрыдатнае, нават шкоднае, раптам стала ледзь не выратавальным кругам. Аказваецца, Рэспубліцы Беларусь, як і іншым постканмуністычным дзяржавам, не абысціся без супольнасці і інтэграцыі з развітымі краінамі свету, без іх інвестыцый і крэдытаў, тэхналогій, без тых самых СЭЗ.

Гэта патрэбна дзеля таго, спяшаецца падтрымаць прэзідэнта спікер парламента сп. Шарэцкі, каб хутчэй краіна выходзіла з крызісу, каб хутчэй станавілася лепш жыць нашым людзям...

Надзіва, ад добрых слоў не марудзячы перайшлі да справы. Не спыняючыся на тым, з якой хуткасцю і эйфарыяй адбывалася збліжэнне з Федэральнай Расіяй (пра тое тут гаворкі няма), прыкметнай падзеяй у свой час з'явіўся візіт буйных прамыслоўцаў і фінансістаў з ЗША па запрашэнні самога прэзідэнта. Неўзабаве паследавалі і другі, не менш важны ваяж бізнесменаў і камерсантаў з ФРГ.

Апошнім часам адбыўся візіт прэзідэнта ў Аўстрыю і ФРГ. Як паведамілі СМІ, намечаны візіт сп. Лукашэнкі ў ЗША.

Нарэшце з'явіўся і Указ прэзідэнта аб стварэнні СЭЗ, якіх так палохалася партакратычная большыня папярэдняга парламента. Падобна, стараюцца нагнаць упушчанае.

Праўда, прыкметных і адчувальных вынікаў новай палітыкі пакуль не бачна і неадчувальна. Тым не меней ініцыятыву, накіраваную на развіццё супольнасці і інтэграцыі не толькі з Усходам, але і Захадам, нельга не вітаць — лепш позна, чым ніколі. Толькі ўзнікаюць, не могуць не ўзнікаць, так бы мовіць, некаторыя пытанні.

Напрыклад, хто ж меў рацыю? Ці тыя, хто з самага пачатку суверэннасці Рэспублікі Беларусь узялі курс не толькі на аднаўленне эканамічных сувязей з Расіяй і наогул з СНД, але і на супольнасць і інтэграцыю з развітымі краінамі Захаду і ўсяго свету? Ці тыя, хто лічыў, што "там нас не чакаюць" і з'явіліся магільшчыкамі вернага і эфектыўнага курсу развіцця эканомікі, які цяпер прызнаецца ўсімі, у тым ліку і камуністамі?

Хто ў адказе за марна прайшоўшыя гады, за якія паглыбіўся і абвастрыўся крызіс, за такое становішча дзяржавы, як сказаў на сесіі Вярхоўнага Савета ў адным сваім выступленні прэзідэнт, "далей ужо няма куды"?

На якім перагоне знаходзіўся б наш эканамічны цягнік, каб не той злашчасны прыпынак? Мо ўжо крывая развіцця, якая кожны месяц, кожны квартал, кожны год ідзе па нахільнай, пачала б паступова ўздымацца? Мо ўжо датошныя статысты падбівалі б "бабкі" са знакам плюс, а не з мінусам, як сёння?

Адказу няма і не можа быць. Камуністы (іх большыня была ў папярэднім Вярхоўным Савеце, і ў гэтым — "чортавым тузіне" — таксама), узброеныя "адзіна верным і самым перадавым вучэннем", як вядома, самі сабе задаюць пытанні і самі на іх адказваюць. А калі атрымліваецца наадварот іх "геніяльнаму вучэнню", то гэта дыялектыка развіцця, і яны тут ні пры чым.

Памятаеце, як праекты законаў, папраўкі да іх, якія ўносіла апазіцыя, адмяталіся з ходу? А праходзіў час і да іх зноў вярталіся, толькі цяпер іх аўтарамі фігуравалі партакраты. Як бачым, так здарылася з супольнасцю і інтэграцыяй з Захадам.

Адно ясна: якімі камуністы былі, такімі і застаюцца, хоць і заяўляюць, што яны цяпер не тыя. Па-ранейшаму ў іх усе сродкі прыдатныя для дасягнення мэты.

Па прыклады далёка хадзіць не трэба. Вось на парадку дня Вярхоўнага Савета пытанне аб дамовах з Расіяй. Чакалася, што пачуем выступленне не толькі дакладчыка, але і дэпутатаў. Аднак як толькі прэзідэнт скончыў сваю прамову і адказаў на некаторыя пытанні, па радыё пачулася: "На гэтым прамая трансляцыя работы сесіі закончана. Пра астатняе — будзе ў рэпартажах". А што ў рэпартажах? Прамовы тых, хто "за" дагавор, гучаць ад пачатку да канца, а з прамоў тых, хто выказваў якія-небудзь заўвагі — два-тры абзацы. Як, напрыклад, з выступлення сп. Багданкевіча.

Чым гэта адрозніваецца ад былых пленумаў ЦК КПСС? Даклад Генсека — і па радыё, і па тэлебачанні, і ў кожным друкаваным выданні, а выступленні ў спрэчках — "крамлёўская тайна".

Але вернемся да таго, з чаго пачыналі.

Гавораць, гісторыя паўтараецца двойчы — як трагедыя і як камедыя. Але і тут у нас робіцца па-свойму, прабачце, шыварат навыварат. Так, спачатку адбылася камедыя. Як вядома, ахвярай гэтага спектакля стаў спікер тадышняга парламента. І не толькі за тое, што некаторым не імпанавала яго адраджэнская палітыка. Яшчэ заскарузлым партакратам рэзала слых яго чыстая родная мова, у незайздроснае становішча ставілі апанентаў яго пераканаўчая і дакладная аргументацыя.

...Божухна літасцівы (да каго ж яшчэ звяртацца, калі маліва датычыць вышэйшага эшалона ўлады), зрабі, каб другога спектакля не адбылося. Няма ж прывілеяў і законаў без выключэнняў. Няхай з усіх бакоў — Захаду і Усходу — адносіны не абвастраюцца, а ўсталёўваюцца плённыя супольнасць і інтэграцыя, згода і мір. Няхай замест трагедыі, якая вынікае з вышэйпрыведзенай формулы, жыццё напіша гераічную паэму, якая ўвойдзе ў гісторыю Рэспублікі Беларусь светлай старонкай адраджэння. Дальбог твой верны раб, шматпакутны беларускі народ, заслугоўвае лепшай долі, чым тая, якую ён мае сёння. Дапамажы яму, усемагутны Божа! Амінь.

**Яўхім ІВАНОВІЧ**

Вечарыны

# КАБ БОЛЬШ БЫЛО ТАКІХ ЛЮДЗЕЙ

15 жніўня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася чарговая абанементная вечарына тэатра паэзіі "Зніч". Гэта была першая вечарына сезона 1996—97 г.г., але назву мела тую ж, што і мінулагодняя — "Зорачкі", і была прысвечана памяці паэта Сяргея Міхайлавіча Новіка-Пеюна. 27 жніўня яму б споўнілася 90 гадоў, а 26 жніўня — тры гады ад яго смерці. Вечарына прыйшлася на пачатак Успенскага посту, што глыбока сімвалічна — такі час вымагае ад чалавека духоўных разваг, успамінаў пра памерлых. А ўспомніць пра Новіка-Пеюна ёсць што і ёсць каму. Чалавек трагічнага лёсу, беларускі адраджэнец, ён прайшоў польскую высылку, фашысцоўскі лагер смерці, савецкую Калыму. Але не страціў мужнасці, жыццярадаснасці, любові да людзей. Вакол яго заўсёды гуртавалася моладзь, дзеці. Ад шасцідзесятых гадоў у маленькім пакойчыку Сяргея Міхайлавіча дзейнічаў дзіцячы патрыятычны клуб "Дружба-не-разлі-вадой". Гэта і паслужыла сюжэтнай канвой вечарыны, задуманай, як пасяджэнне клуба сяброў Сяргея Міхайлавіча Новіка-Пеюна. Для стварэння адпаведнага настрою зала, дзе праводзілася вечарына, была аздоблена рэчамі, узятымі з асабістага архіва Сяргея Новіка-Пеюна, які захоўваецца ў Дзяржаўным музеі гісторыі літаратуры: дзіцячымі малюнкамі розных гадоў — іх малявалі дзеці, што прыходзілі ў клуб "Дружба-не-разлі-вадой", іх паробкамі, падоранымі паэту... Прысутныя маглі бачыць і малюнкі самога Новіка-Пеюна, які меў неардынарны мастакоўскі талент, але волею лёсу не змог удасканаліць яго, развіць. На вечарыне прысутнічалі і тыя, хто ведаў Сяргея Міхайлавіча асабіста, і тыя, хто ведаў яго толькі як аўтара знакамітай песні "Зорачкі", што выконвае Данчык. Тым не менш, кожны, бадай, даведаўся нешта новае для сябе пра паэта. Такія людзі, як ён, нагадваюць непраяўленыя фотаздымкі — час усё больш выразна і падрабязна "праяўляе" іх. Напрыклад, высветлілася, што С. Новік-Пяюн, скончыўшы Нясвіжскую гімназію і настаўніцкую семінарыю, быў накіраваны ў Францыю, у тэалагічны універсітэт, меў адпаведны дыплом аб скончэнні (і з поспехам) гэтай установы. Аднак, зразумела, гэты факт сваёй біяграфіі паэт старанна хаваў, і цяпер гэта — поле дзейнасці для даследчыкаў... Галіна Дзягілева, мастацкі кіраўнік тэатра "Зніч", зачытала ўрывак з успамінаў С. Новіка-Пеюна, змешчаных у часопісе "Спадчына". Паэт успамінаў часы БНР, узддым нацыянальнай свядомасці, беларускасць, якая панавала ў іх сям'і, "Пагоню", што вышывала сястра Кацярына... Са здымкаў насценгазеты, падрыхтаванай да вечарыны, гледачы таксама маглі скласці ўражанне пра паэта: вось ён юны, прыгожы, выпускнік Нясвіжскай гімназіі, вось здымкі яго дзіцячых малюнкаў, дужа таленавітых, аформленыя ім вокладкі дзіцячага часопіса "Заранка", які рэдагавала Зоська Верас у 1926—31 гадах. Вось, ужо пасля польскага зняволення, на пачатку саракавых гадоў, Новік-Пяюн з бел-чырвона-белым сцяжком і "Пагоняй" на пінжаку... А вось ён, непазнавальна зменены, пасля фашысцкага лагера смерці Калдычава і савецкай турмы, зэк сібірскага лагера, "вораг народа"... І ўсё роўна — усмешка, адкрыты пагляд вачэй... Пасля была рэабілітацыя, доўгія гады маўчання, недрукавання, падазроных адносінаў. Варта згадаць, што ў Саюз пісьменнікаў С. Новік-Пяюн быў прыняты ў 1984 годзе, разам з тымі, хто па ўзросце мог быць яго унукам ці праўнукам...

"У мяне пяць тысяч дзяцей, — казаў паэт, маючы на ўвазе тых, кім апекаваўся, з кім перапісваўся. Але была ў гэтым выказванні і горыч — не хапала хаця б аднаго роднага чалавека, які заўсёды быў бы побач... З цёплымі словамі пра С. Новіка-Пеюна выступілі Вольга Зубовіч, якая даглядала пісьменніка ў апошнія гады яго жыцця, Валянціна Аксак, Віктар Шніп, Уладзімір Пецюкевіч, Ксенія Бяляева, Таццяна Бабкова... Юная актрыса Жэня Жуковіч, таксама "гадаванка" Сяргея Міхайлавіча чытала вершы паэта, а цымбаліст Аляксей Лявончык дапамагаў стварыць атмасферу лірычнасці. Вяла вечарыну паэтэса Людміла Рублеўская.

Сярод водгукаў, якія пакінулі гледачы на аркушы паперы, што сімвалізаваў знакамітыя альбомы С. Новіка-Пеюна, дзе распісваліся ўсе яго госці, нямала добрых слоў. І галоўная думка ўсіх запісаў — каб больш было такіх людзей, як С. Новік-Пяюн, шчаслівай была б наша Бацькаўшчына...

**Н. К.**

ЛІМАЎСКІЯ ДЫЯЛОГІ

# М. ГРЫБ: "УЛАДЫ ПРЭЗІДЭНТУ ХАПАЕ..."

## МЕЧАСЛАЎ ГРЫБ, ДЭПУТАТ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ — МІХАСЬ ЗАМСКІ, РЭДАКТАР АДДЗЕЛА ПУБЛІЦЫСТЫКІ "ЛІМА"

**М. Замскі: Палітычнае жыццё краіны сёння віруе вакол ініцыяванага прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам рэферэндуму. І ў пытаннях, якія на яго выносяцца, а галоўнае з іх тычыцца фактычнага перагляду існуючай Канстытуцыі, і ў самой прызначанай даце правядзення рэферэндуму — 7 лістапада многія бачаць знак адмаўлення ад тых хоць і невялікіх дэмакратычных заваёў, якіх дамагася Беларусь, стаўшы самастойнай дзяржа-вай.**

**У сваім нядаўнім вялікім выступе перад прадстаўнікамі грамадскасці Гродна і Гродзенскай вобласці прэзідэнт, парыруючы крытыку сваіх апанентаў, прыгадаў, што, заступаючы на сваю высокую пасаду, ён абяцаў праз два гады трымаць справаздачу перад сваімі выбаршчыкамі. Дык вось цяпер, праз рэферэндум, ён і ставіць пытанне аб даверы яму народа.**

**М. Грыб:** Усё гэта мана. Чыстай вады папулізм. Гаворка тады ішла пра іншае, і гэта могуць пацвердзіць дакументы. Прэзідэнт тады заявіў перад парламентам, што калі праз два гады ў краіне не адбудзецца карэннага паляпшэння ў эканамічнай і палітычнай сферах, ён складзе з сябе свае абавязкі. Ні пра які рэферэндум на гэты конт гаворкі не вялося. Але ж, як кажуць, і невідушчаму бачна, што за апошнія два гады эканамічны і палітычны крызіс у краіне яшчэ больш абвастрыўся. Жыццёвы ўзровень пагоршыўся, злачыннасць вырасла. Але ні пра якую сваю адстаўку кіраўнік краіны слухаць не жадае. Мала таго, ён патрабуе цяпер для сябе яшчэ большай улады.

Што тычыцца самога рэферэндуму, дык маё стаўленне да яго адназначна адмоўнае. Па-першае, гэта марнатраўства сродкаў. Як бы там ні гаварылі людзі з прэзідэнцкага акружэння, што грошы на правядзенне рэферэндуму пойдуць з па-за бюджэтных фондаў, усё гэта суцэльная дэмагогія. У нас няма мільярдэраў, якія б фінансавалі палітычныя кампаніі з уласнай кішэні. Усе гэтыя так званыя па-за бюджэтныя фонды фарміруюцца за кошт дзяржаўных сродкаў. Пры нашым фінансавым дэфіцыце, жабрацкіх зарплатах, пенсіях, дапамогах кідаць на вецер мільярды рублёў — верх цынізму.

Але і гэта не галоўнае. Галоўная небяспека ў тым, што прэзідэнт, прапануючы новую рэдакцыю Канстытуцыі, ставіць сваёй мэтай, так бы мовіць, зрабіць яе "пад сябе", для задавальнення сваіх асабістых амбіцый. А, між тым, існуючая Канстытуцыя адпавядае ўсім дэмакратычным нормам, яна прайшла шэраг сусветных экспертыз.

**— Нядаўна ў прапрэзідэнцкай прэсе быў змешчаны тэкст экспертнага заключэння, нібыта зробленага камісіяй Еўрасаюза, у якім адзначаецца, што існуючая Канстытуцыя Беларусі прадугледжвае няроўнасць розных галін улады, дае перавагу ўладзе прадстаўнічай над усімі іншымі. Закрануў гэтую тэму А. Лукашэнка і ў згаданым выступе ў Гродне. Мала таго, ён абвінаваціў былое кіраўніцтва Вярхоўнага Савета, што яно схавала гэтую экспертызу і толькі дзякуючы аднаму з членаў Канстытуцыйнага суда яна нядаўна пабачыла свет.**

— Яшчэ раз паўтараю, праект Канстытуцыі, якую Вярхоўны Савет прыняў 15 сакавіка 1994 года, а, зазначу, членам канстытуцыйнай камісіі быў тады і дэпутат Лукашэнка, быў ухвалены абсалютнай большасцю ўсіх незалежных замежных спецыялістаў, да якіх мы звярнуліся. І няма чаго, як кажуць, муціць чыстую ваду.

**— Вярнуўшыся з Масквы з інаўгурацыі прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына, Аляксандр Рыгоравіч расказаў, што азнаёміў з новай рэдакцыяй Канстытуцыі Беларусі міністра замежных спраў Расійскай Федэрацыі Яўгенія Прымакова і што той быў ад яе ў захапленні, адзначыўшы, што прапанаваная рэдакцыя адпавядае лепшым узорам дэмакратычных канстытуцый свету. Прызнацца, я так і не зразумеў, чаму спадар Лукашэнка вырашыў узяць у дарадцы ў гэтай справе Прымакова. Як вядома, Яўгеній Іванавіч — акадэмік-арабіст, усходнезнаўца, разведчык, дыпламат, але ж гэта не азначае, што ён з'яўляецца і спецыялістам у галіне дзяржаўнага будаўніцтва, канстытуцыйнага ладу.**

— Мяне таксама гэта здзівіла. Тым больш, што Вярхоўны Савет з гэтай новай рэдакцыяй Канстытуцыі яшчэ не азнаёмлены. Здавалася б, калі прэзідэнт хоча ўнесці ў Канстытуцыю змены, ды, мяркуючы па ўсім, істотныя, яму трэба было б звярнуцца перш за ўсё ў парламент, каб папрацаваць у гэтым накірунку разам, а потым ужо, калі яму так захацелася, ісці па кансультацыю да Прымакова. Разам з тым, я не хачу сказаць, што наша Канстытуцыя не мае хібаў. Відаць, няма такіх канстытуцый, якія б ва ўсім усіх задавальнялі...

**— Тым не менш, Канстытуцыі Злучаных Штатаў Амерыкі больш як дзвесце гадоў і за ўвесь гэты час у яе былі ўнесены лічаныя папраўкі...**

— Пры ўсіх хібах беларуская Канстытуцыя на сучасным этапе развіцця краіны задавальняе грамадства. Што тычыць многіх прыдзірак да яе, дык яны не маюць пад сабой грунту. Да прыкладу, прэзідэнт часта паўтарае, што наша Канстытуцыя з'яўляецца тормазам на шляху правядзення рынкавых рэформ. Я хацеў бы спытаць: дзе, у якім месцы Асноўнага закона тояцца гэтыя перашкоды? Наадварот, наша Канстытуцыя не аддае перавагі ніводнай з форм уласнасці — ні дзяржаўнай, ні прыватнай. Усе формы маюць роўныя правы на існаванне і развіццё. І калі ў нас не "ідуць" рэформы, дык не Канстытуцыя тут вінавата.

**— Вы кажаце, Мечаслаў Іванавіч, што прэзідэнт павінен быў звярнуцца з праектам новай рэдакцыі Канстытуцыі ў парламент. Але ж на згаданай сустрэчы ў Гродне ён заявіў літаральна наступнае: "Я лічу за лепшае размаўляць з народам, а не з тымі, хто ўзяў моду гаварыць ад імя народа". Гэта трэба разумець так, што такую "моду" ўзялі на ўзбраенне вы, прадстаўнікі заканадаўчай улады, і што з вамі прэзідэнт размаўляць не збіраецца.**

— Не першы раз ён спекулюе імем народа. Маўляў, як скажа народ, так і будзе. Але ці так ужо яму дарагая думка народа? Сапраўды, у другім артыкуле Канстытуцыі запісана, што ўся ўлада ў краіне належыць народу і ён можа яе выяўляць непасрэдна праз рэферэндумы, або сваіх прадстаўнікоў у заканадаўчай і выканаўчай уладах. Але калі ў нас народ галоўны суб'ект улады...

**— Даруйце, што перапыняю, але спадар Лукашэнка нядаўна выказаўся ў тым сэнсе, што народ Беларусі ператвораны з суб'екта ўлады ў яе аб'ект...**

— Яму сёння так выгадна гаварыць... Але вярнуся да сваёй думкі. Калі ў нас народ галоўны суб'ект улады, дык яго слова павінна быць апошнім ва ўсім, што датычыць усіх галін улады, у тым ліку і прэзідэнцкай. Што ж атрымалася на самай справе? Калі мы прымалі закон аб прэзідэнце, дык згаданая вышэй думка знайшла там сваё адлюстраванне — быў запісаны артыкул, паводле якога выбаршчыкі маюць права пазбаўляць прэзідэнта яго пасады, калі ён з ёю не спраўляецца. Аляксандр Рыгоравіч яго не падпісаў і вярнуў з заўвагамі. Тады, згодна з рэгламентам, Вярхоўны Савет канстытуцыйнай большасцю адхіліў заўвагі прэзідэнта, і закон быў прыняты канчаткова. Здавалася, чаго Лукашэнку, які лічыць сябе ўсенародна абраным прэзідэнтам, што ён карыстаецца неабмежаваным даверам выбаршчыкаў, баяцца такой фармулёўкі? Не, там, дзе гэта тычылася заканадаўчай улады, ён без роздуму яе падпісаў, а вось там, дзе яго асабіста... Карацей кажучы, прэзідэнт, даведаўшыся, што парламент у гэтым пытанні пераадолеў яго вета, звярнуўся ў Канстытуцыйны суд, які стаў на яго бок, матывуючы гэта тым, што у Канстытуцыі прама не запісана, што прэзідэнт можа быць адкліканы з пасады на ўсенародным рэферэндуме.

**— Ну вось, кажуць, што Канстытуцыйны суд ці не галоўны апанент прэзідэнта, ды і ён сам пры кожным зручным выпадку гэта падкрэслівае. Невыпадкова ж "лукашэнкаўская канстытуцыя" прадугледжвае карэнныя змены ў фарміраванні Канстытуцыйнага суда, які дагэтуль выбіраўся Вярхоўным Саветам. Цяпер палова яго членаў павінна будзе абірацца парламентам, а палова прызначацца самім прэзідэнтам.**

— Гэта прывядзе да паралiча суда, а, фактычна, да яго скасавання.

**— У тым сэнсе, што палова суддзяў будзе цягнуць у адзін бок, а палова ў другі? А раптам знойдуцца і сярод прэзідэнцкіх прызначэнцаў сумленныя юрысты, якія будуць дзейнічаць у імя закона? Вось жа і ў парламенце, аказваецца, некаторыя дэпутаты прапрэзідэнцкай фракцыі "Згода", калі застаюцца сам-насам з кнопкай галасавання, выказваюць сваю нязгоду з прэзідэнтам, за што ён у сваім нядаўнім інтэрв'ю "Народнай газеце" "паабяцаў" павыганяць іх з працы. Большасць жа "згодцаў" працуе ў выканаўчых структурах.**

— Вы правільна заўважылі, што нават яны пачынаюць разумець абсурднасць многіх аспектаў прэзідэнцкай палітыкі. Што тычыць пагроз Лукашэнкі, што ён іх за гэта "павыганяе", дык ён гэта зрабіць не мае права — без згоды парламента дэпутата ніхто не мае права пазбавіць працы, прыцягнуць да крымінальнай адказнасці і г. д. Усё гэта прадугледжана законам аб дэпутацкім статусе.

**— Ці мала было законаў, якія спадар Лукашэнка з лёгкасцю парушаў? Але давайце, Мечаслаў Іванавіч, пагаворым і пра іншыя пытанні рэферэндуму. Вось пытанне аб пераносе Дня незалежнасці з 27 ліпеня на 3-е чысло таго ж месяца, на якое, дарэчы, прыпадае свята вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай айчыннай вайны. Абсурднасць такога рашэння відавочная. Праўда, прэзідэнт матывуе яго тым, што нібыта 27 ліпеня 1942 года гітлераўскі гаўляйтар Беларусі Кубэ падпісаў нейкі дакумент, які нібыта абвяшчаў незалежнасць Беларутэніі. Вядома, пад фашысцкім ботам. Дык вось, каб не ствараласся такіх асацыяцый...**

— Прычым тут Кубэ? Няўжо Аляксандр Рыгоравіч не разумее, што Вярхоўны Савет мог прыняць Дэкларацыю незалежнасці ў любы іншы дзень, але так выпала, так атрымалася. І ніхто, упэўнены, ніхто ў Авальнай зале тады і ў галаве не трымаў, што ў гэты дзень у далёкія гады вайны гітлераўцы прадпрынялі нейкі свой прапагандысцкі манеўр.

**— Перанос Дня незалежнасці — таксама пэўны палітычны манеўр, імкненне патрафіць пэўнай частцы ветэранаў вайны, з іх пастаянным пачуццём настальгіі па былым СССР і варожым стаўленнем да самога паняцця — суверэнная Беларусь. Але гэтыя людзі — касцяк прэзідэнцкага электарату, і гэта ён улічвае.**

— Я з вамі абсалютна згодны. А ўвогуле, перанос святкавання Дня незалежнасці супярэчыць Канстытуцыі, бо менавіта 27 ліпеня Вярхоўным Саветам была прынята дэкларацыя аб незалежнасці, суверэнітэце краіны. Ва ўсім свеце — ад Злучаных Штатаў Амерыкі да Ізраіля — дзень прыняцця такога дакумента лічыцца нацыянальным святам.

**— Прэзідэнт выносіць на рэферэндум і пытанне аб свабодных неабмежаваных і не кантралюемых куплі - продажу зямлі. Мяркуючы па многіх яго выступленнях, сам ён супраць прыватнай уласнасці на зямлю, тым больш ператварэння яе ў прадмет куплі-продажу. Там, у Гродне, ён вырашыў падмацаваць сваю пазіцыю "забойным", на яго думку, аргументам. Дарэчы, з арсеналу самых зацятых прыхільнікаў калгасна-саўгаснага ладу. Дык вось, мала таго, што зямлю скупяць свае багацеі, на яе паквапяцца і замежныя буржуі. Купіць які амерыканец гектараў сто зямлі і аб'явіць яе амерыканскай тэрыторыяй. А ў ЗША якая завядзёнка — дзе б у свеце ні пакрыўдзілі яе грамадзян, яны тут, як тут — высаджваюць дэсант.**

— Усё гэта глупства. Наогул ва ўсім свеце некантралюемага продажу якога-небудзь тавару, тым больш зямлі. А наогул, прэзідэнт, выносячы на рэферэндум гэтае пытанне аб зямлі, пярэчыць сам сабе. Як вядома, Вярхоўны Савет 13-га склікання на першай сваёй сесіі прыняў з падачы Аляксандра Лукашэнкі дапаўненне да закона аб уласнасці на зямлю, паводле якога дазваляецца продаж зямлі замежным інвестарам. Чаго ж ён цяпер нешта выдумляе наконт небяспекі, якую тоіць у сабе дазвол прадаваць зямлю замежным грамадзянам? Калі маецца на ўвазе скасаванне згаданага дапаўнення, дык нам трэба будзе забыцца пра замежныя інвестыцыі. Дзе ж знойдуцца дурні, якія стануць будаваць той жа завод ці птушкафабрыку на арандаванай зямлі?

**— Цікава, што, дэкларуючы пастаянна сваю павагу і прыязь да прэзідэнта Расіі ("Борис Ельцын подарил мне, Александру Лукашенко, один миллиард триста миллионов долларов", — пахваліўся ён у Гродне), у многіх пытаннях палітыкі і эканомікі Аляксандр Рыгоравіч стаіць на пазіцыях палітычных ворагаў Ельцына — расійскіх камуністаў і аграрыяў. У тым ліку і ў пытанні куплі-продажу зямлі, што, дарэчы, нядаўнім указам прэзідэнта Расіі там дазволена.**

**А наогул заўважана, што асабліва любяць і паважаюць нашага прэзідэнта антыельцынскія сілы ў Расіі. Ад камуністаў-анпілаўцаў і жырыноўцаў да нацыянал-патрыётаў, славянафілаў сучаснага гарту і т. п. Прыблізна такая публіка, асабліва з ліку інтэлігенцыі, гарача падтрымлівае спадара Лукашэнку ў самой Беларусі. Літаральна днямі ў "Народнай газеце", якая апошнім часам стала ці не самым гучным рупарам прэзідэнцкай каманды, была змешчана заява т. зв. Беларускага рэспубліканскага і Мінскага гарадскога навуковага аб'яднання "Исторические знания", сярод падпісантаў якой — некалькі чалавек з прафесарскімі званнямі (сталым чытачам "ЛіМа" адно з тых іменаў мабыць добра знаёма — тэатразнаўца Уладзімір Няфёд). Дык вось што пішуць У. Няфёд со товарищи: "Реакционно-националистическим силам удалось добиться принятия 15 марта 1994 года буржуазной Конституции Республики Беларусь". І яшчэ: "В нынешней сложнейшей обстановке единственным реальным противовесом возрастающим реакционным силам в Верховном Совете и в обществе является власть Президента А. Лукашенко". Далей аўтары заклікаюць змагацца супраць правых антыпрэзідэнцкіх сіл, што стаяць на пазіцыях абароны капіталізму. Самае пікантнае, што сярод лідэраў гэтых "правых сіл" названы першы сакратар ЦК ПКБ С. Калякін і старшыня Аграрнай партыі Беларусі С. Шарэцкі.**

**А і сапраўды ж, сёння камуністычная і аграрная фракцыі парламента па многіх пытаннях трымаюцца аднолькавых з дэмакратамі пазіцый, што выклікае асаблівае абурэнне прэзідэнта. У сваім выступе перад гарадзенскай грамадскасцю ён недвухсэнсоўна заклікаў радавых камуністаў выступіць супраць ЦК ПКБ, асабліва супраць лідэраў партыі, што "акапаліся" ў парламенце. Ён нават падзякаваў членам гродзенскай арганізацыі партыі камуністаў за тое, што яны вырашылі ініцыяваць скліканне пазачарговага з'езда партыі, каб абмеркаваць на ім "здрадніцкую" ў адносінах да прэзідэнта палітыку лідэраў ПКБ. Прамільгнула на старонках газет і такая інфармацыя — многія радавыя камуністы пачалі выходзіць з ПКБ і далучаюцца да беларускіх жырыноўцаў.**

— Атрымалася тое, што павінна было атрымацца. Партыя камуністаў увабрала ў сябе ў асноўным людзей сталага пакалення, ветэранаў вайны і працы, былую партнаменклатуру. Сярод жа кіраўнікоў партыі, членаў камуністычнай фракцыі ў парламенце — людзі больш маладыя і менш зашораныя. І калі для іх старэйшых таварышаў, выхаваных у нетрах КПСС з яе строгай партыйнай іерархіяй і безумоўным падначаленнем першаму сакратару ЦК, які для іх з'яўляўся паўбогам, такім жа ўяўляецца і прэзідэнт

*(Працяг на стар. 12)*

# СЦЕЖКАМІ ВЯЛІКАГА МІЦКЕВІЧА

Гётэ пісаў: “Каб паказаць паэта, трэба ісці ў яго край!” Значыць, каб спазнаць творчасць Адама Міцкевіча, трэба наведаць Навагрудчыну, край яго дзяцінства і юнацтва, тым больш, што для гэтага ёсць падстава: засталося менш за тры гады да юбілею — 200-годдзя з дня нараджэння нашага славутага земляка, класіка сусветнай літаратуры.

У Навагрудку адноўлена сядзіба сям'і паэта, а ў верасні 1992 года адкрыта новая экспазіцыя. Супрацоўнікі музея прапануюць наведвальнікам экскурсіі не толькі па музеі і па горадзе, але і па мясцінах, звязаных з яго жыццём і творчасцю.

Запрашаю і я вас, шаноўныя чытачы, у падарожжа, няхай і завочнае.

Пачнём з Завосся, дзе ў марозную калядную ноч 24 снежня 1788 года з'явіўся на свет хлопчык, якому было наканавана лёсам праславіць гэты край ва ўсім свеце. Цяпер на гэтым месцы стаіць абеліск, пастаўлены ў 1927 годзе, а ў 50-ыя гады адноўлены. Мяркуецца да юбілею хутар аднавіць.

За 8 км ад Завосся знаходзіўся маёнтак Туганавічы, дзе жыла каханая паэта — Марыля Верашчака, якой ён прысвяціў свае найлепшыя вершы, балады. Калісьці Туганавічы належалі князям Туганам, тым самым Туганам, якім, паводле легенды А. Міцкевіча, належаў і горад Свіцязь. Маёнтак знішчаны ў 1915 годзе. Да нашых дзён захаваўся парк і альтанка з 6 ліп, дзе сустракаўся паэт з Марыляй.

Побач з Туганавічамі, на месцы хутара Кут — вялізны камень-валун, які ўвайшоў у гісторыю як “камень філарэтаў”. Тут сустракаліся А. Міцкевіч, Я. Чачот, Т. Зан, Ф. Малеўскі і іншыя, праводзілі дыспуты, чыталі ўласныя творы, марылі аб незалежнасці бацькаўшчыны.

За 25 км да Навагрудка знаходзіцца возера Свіцязь. Па прыгажосці яно можа сапернічаць з вядомымі еўрапейскімі азёрамі — Рыца, Жэнеўскае. У 1970 годзе гэта тэрыторыя аб'яўлена запаведнікам. Прыгажосць возера А. Міцкевіч апеў у сваіх баладах “Свіцязь”, “Свіцязянка”, “Рыбка”.

Наведаем яшчэ Шчорсы, якія ад Навагрудка таксама за 25 км. Гэта — колішні маёнтак князёў Храптовічаў XVI ст. Палац быў пабудаваны ў 1770—1776 гг. па праекце Джузепе дэ Саца і Карла Шампані і архітэктара Якуба Габрыэля ў стылі позняга барока. У Шчорсах А. Міцкевіч быў некалькі разоў — у 1819, 1820, 1821, 1822 гадах. Бываў тут і Ян Чачот, а пазней, пасля вяртання з ссылкі ў 1841 годзе, працаваў бібліятэкарам. У Шчорсах у паэта нарадзілася думка паэмы “Гражына”, якую пачаў пісаць пад векавечным дубам. Тут жа стварыў байку “Сабака і воўк”, санет “Да Нёмана”.

Закончым падарожжам у Навагрудку, тысячагадовая гісторыя якога шмат можа расказаць. Горад раскінуўся на высокіх пагорках. На фоне блакітнага неба выразна відаць руіны старажытнага замка і стромкія вежы святынь. Навагрудак вядомы ўсяму свету найперш тым, што тут жыў, рос, вучыўся А. Міцкевіч. І хоць большую частку свайго жыцця паэт пражыў у эміграцыі, у палітычным выгнанні, ён ніколі не забываў пра самае дарагое і запаветнае — пра край дзяцінства, пра Навагрудчыну.

Дзяцінства край! Ты з намі да скanання
Чысты, святы, як першае каханне.

У 1834 годзе ў Парыжы А. Міцкевіч напісаў паэму “Пан Тадэвуш”, якая з'яўляецца развітальным гімнам роднаму краю, яе маляўнічым сядзібам і вёскам, сумленным і працавітым людзям:

Літва! Бацькоўскі край!
Ты як здароўе тое,

Не цэнім маючы, а страцім — залатое...

Адам Міцкевіч гаварыў свайму сябру Ігнату Дамейку: “Калі за што, то за “Пана Тадэвуша” мусяць навагрудчане паставіць мне помнік на плошчы!”

Мара паэта збылася. У верасні 1992 г. на Замкавай гары, на самым высокім месцы Навагрудка, адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка паэту-патрыёту, як даніна любові і павагі ад яго ўдзячных землякоў.

**Соф'я АНІСІМАВА,**
старшы навуковы супрацоўнік
Дома-музея А. Міцкевіча

Віншуем!

# Генадзю БУРАЎКІНУ — 60

*Прысутнасць у беларускай літаратуры, у нацыянальным жыцці Генадзя Бураўкіна асабліва відочная. Ён з творцаў, якія не цураюцца і актыўнай грамадскай дзейнасці, якія не проста пішуць, а надзіва поўна выяўляюць сваю пазіцыю чалавека і грамадзяніна. Талент Генадзя Мікалаевіча ярка і шматгранна раскрыўся ў яго кнігах паэзіі “Майская просінь”, “З любоўю і нянавісцю зямною”, “Дыханне”, “Жніво”, “Выток”, “Варта вернасці”, “Пяшчота”, “Гняздо для птушкі радасці” і іншых, аповесці “Тры старонкі з легенды”, кніжках для дзяцей “Тры казкі пра Зая”, “Сінія арэлі”... Разам з У. Халіпам і Ф. Коневым ён з'яўляецца аўтарам сцэнарыя двухсерыйнага фільма “Полымя”, напісаў сцэнарыі дакументальных стужак “Апаленая памяць”, “Падарожжа па Беларусі”. Плённа працуе Г. Бураўкін і як перакладчык... А яшчэ мільёны ўдзячных прыхільнікаў таленту Генадзя Мікалаевіча цудоўна ведаюць яго як аўтара дзесяткаў надзвычай папулярных песень... Грамадзянская ж пазіцыя Г. Бураўкіна, яго прынцыповасць, бескампраміснасць у адстойванні праўды, змаганні — без перабольшання — за беларускасць асабліва праявіліся падчас працы старшынёй Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні і пастаянным прадстаўніком Беларускай ССР пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы сустрэў сваё 60-годдзе. Сустрэў важкімі творчымі здабыткамі. Сустрэў з непахісным жаданнем рабіць усё дзеля таго, каб квітнела родная Бацькаўшчына.*

*Ад шчырага сэрца віншуем Генадзя Мікалаевіча, дарэчы, колішняга намесніка галоўнага рэдактара “ЛіМа”, з 60-годдзем! Зычым яму моцнага здароўя, шчасця, вялікага творчага плёну!*



# СЛОВА СУМЛЕННАЕ І МУЖНАЕ

Так сталася, што пакаленне паэтаў і празаікаў, да якога належыць Генадзь Бураўкін, прыйшло ў айчынную літаратуру надзвычай шматгалоса, дружна і напорыста, нібыта само непераможнае і трывушчае жыццё, якое не любіць пустаты, спяшалася запоўніць у пісьменніцкай грамадзе скразныя прагалы — сляды татальнай сталінскай вайны з народам (і ў першую чаргу з народам думаючым, творчым) і фашысцкай навалы, якая не пашкадавала тых, хто яшчэ заставаўся. З пісьменнікаў, якія ваявалі на фронце, у партызанах, выжылі толькі адзінкі. Вышэйшая воля аберагла не ўсіх, але частку дзяцей вайны, што гадаваліся пад варожым прыцэлам у акупацыі, і сярод іх былі тыя, каму потым выпаў лёс заручыцца са словам. Часта гэтае пакаленне называюць “апаленым вайной” або “філалагічным”.

Пішучы пра творчасць Генадзя Бураўкіна, яго сябра Рыгор Барадулін, сам прадстаўнік гэтай выдатнай пісьменніцкай кагорты, мудра, трапна і вобразна сказаў пра істотныя недакладнасць і звужанасць такіх азначэнняў: “...відаць, дакладней было б назваць яго пакаленне не спаленым вайной, якое цудам ацалела, каб быць маладымі вачыма памяці і прысуду, напаміну і перасцярогі. ...гэтаму пакаленню не столькі філфакі універсітэтаў і педінстытутаў далі веданне слова, прышчапілі любоў да роднага слова, колькі вёска і пасёлак, маці і суседзі перадалі ў спадчыну праз вякі пранесенае і затуленае ад лютавеяў часу слова, — каб бераглі, каб шанавалі, каб гранілі”.

Хлапчукі, хоць і рана пасталелыя, прывучаныя да дарослай працы, да суровага, галоднага і халоднага, акупацыйнага і пасляваеннага быту, відаць, не задумваліся тады над сваім лёсам, але абвостранае, пранізлівае адчуванне красы і каштоўнасці чалавечага жыцця, радасць ад існасці ў гэтым свеце, пачуццё неабходнасці шанаваць і аберагаць сваю маці і маці-Айчыну, усё тое роднае, крэўнае, чым яны адорваюць, іхнія душы набылі там — у маленстве.

У гэтым шчодра таленавітым пакаленні, якое сёння грунтоўна і поўна сцвердзіла сябе ў літаратуры, Генадзь Бураўкін крочыць сваім шляхам, які ніхто не паўторыць, мае творчую тэрыторыю, мастацкі абсяг, якія належаць толькі яму аднаму.

У канцы пяцідзесятых і на пачатку шасцідзесятых гадоў, калі ён пачаў пісаць і друкавацца, творчая індывідуальнасць не была ў цане. Гэта потым ужо ў смялейшых і разумнейшых крытыкаў знойдзецца слова ўхвалы і падтрымкі мастацкай непадобнасці, самастойнасці. А тады ўсё зводзілася да ўнармаванай ідэалагічным “пракруставым ложам” пафасна-рытарычнай шэрасці, якая запаланіла нават хрэстаматыі. Выключэннем з гэтага правіла былі таленавітыя, арыгінальныя творы Пімена Панчанкі, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, на якіх вучыліся маладыя. Абнаўленне, высокую хвалю сапраўдных пачуццяў, творчую самабытнасць, калі гаварыць толькі пра паэзію, якраз і неслі ў літаратуру рамантычны, патрыятычны, улюбёны ўсім сэрцам у гісторыю роднай зямлі і свой народ, энцыклапедычна-падрыхтаваны Уладзімір Караткевіч, метафарычны, вобразны, непаўторны чараўнік айчыннага слова Рыгор Барадулін, інтэлектуальна, гуманістычна-скіраваны, сацыяльна-чуйны Анатоль Вярцінскі, духоўна-заглыблены ў жыццё, лірычны і разам з тым іранічны, саркастычны Ніл Гілевіч, канкрэтна-спавядальны, зямны, непасрэдны Васіль Зуёнак, размашысты, глабальны ва ўспрыманні з'яў і падзей Сцяпан Гаўрусёў (усіх пералічыць не дазваляе газетная плошча), і разам з імі “шчыры, прынцыповы, па-грамадзянску мужны” Генадзь Бураўкін. Гэтая характарыстыка, якую даў яго творчасці выдатны паэт Айчыны Пімен Панчанка, відаць, няпоўная, бо артыкул той у кнізе “На паэтычным небасхіле”, прысвечаны не аднаму Генадзю, але асноўныя рысы схоплены дакладна. Сапраўды, з першых вершаў Бураўкін выявіўся як паэт, адкрыты душою да свету, апантаны жыццём, энергічны, баявіты, палемічны, непасрэдны ў сваіх пачуццях і развагах, непрымірымы да любой несправядлівасці:

**Не скруціць ніякай чорнай скрусе**
**Маладосць крылатую маю.**

**Я іду з усімі**
**і смяюся,**
**Я іду з усімі**
**і пяю.**

**І калі каго бяда агорне,**
**Трапіцца журботны хтосьці нам, —**
**Я вазьму ў яго часціну гора,**
**Частку сваёй радасці — аддам.**

Чыстыя і шчырыя ў думках і намерах, захмялелыя ад веснавога глытка свабоды, які прынесла “хрушчоўская адліга”, беларускія паэты-”шасцідзесятнікі”, як і іхнія пабрацімы ў Расіі, на Украіне, у Грузіі, Літве, Латвіі, Эстоніі, паверылі, што пачынаецца новае жыццё, вольнае ад страху і дыктату, справядлівае і разумнае, калі на першае месца ставіцца чалавечая асоба. З гэтым яны жылі і пісалі:

**Адышлі ў нябыт панегірыкі**
**Сціплым вінцікам,**
**спешнай сяўбе.**
**Людзям хочацца шчырай лірыкі**
**Не пра вінцікаў,**
**пра сябе.**

**Людзям хочацца**
**песні звонкай**
**Не пра мудрасць высокіх пасад,**
**А пра сінія матчыны вокны,**
**І пра раніцу, і пра сад.**

Але хутка наступіў перыяд брэжнеўскай затхласці і маразму, калі ніхто ўжо не хацеў заглядаць у чалавечую душу, а з ім і горкае расчараванне. І ўсё ж Генадзь Бураўкін, як і некаторыя яго паплечнікі, парываўся сказаць пра самае набалелае, пра супярэчнасці, якія існуюць у грамадстве, пра тое, што жыццё не такое простае і вясёлае, як яго агучвалі газетныя перадоўкі і радыё. Гэтыя парыванні не заўсёды заканчваліся прарывамі, але паэт не здраджваў сваім ідэалам — гаварыць праўду. У паэзіі Генадзя Бураўкіна ніколі не было зацішна. Тут заўсёды трывожна і ветрана. Лепшыя вершы і паэмы з кніг “З любоўю і нянавісцю зямною”, “Дыханне”, “Жніво”, “Выток”, “Варта вернасці”, “Гняздо для птушкі радасці” яскрава пацвярджаюць гэта.

Васіль МАКАРЭВІЧ

## ДЫПЛАМАТ

*Г. БУРАЎКІНУ*

**Знойдзецца**
**Хітрушчы мудразвон,**
**Што гатовы ўсюды гучна бомкаць,**
**Быццам братам стаў табе Гудзон,**
**І каціўся ледзьве**
**Не пад бокам.**

**Ці смачней**
**Там стравы за куцці,**
**І вада — без прысмаку карболкі?**
**Ды хлусня, што хваляй закаціў**
**Жэмчугу Гудзон табе**
**Ў скарбонку.**

**Быў ён друг**
**Альбо зусім не друг, —**
**Не адзін з ім выхадны ўходаў.**
**Бачыў: тая ж плынь**
**І дрэнь наўкруг,**
**Як і дома, на Дзвіне**
**Заходняй.**

**Ды ў нейтральных**
**Водах ідучы,**
**Вухкаючы пенай, пузырамі,**
**Плынь на плынь — абое мурзачы! —**
**Звысаку пры стрэчы**
**Пазіралі.**

**Ці ж не чуў**
**Ты з-за аблогі штор,**
**Як з густымі ліўнямі і градам,**
**Б'е у Белы дом стагоддзя шторм,**
**Як і ў наш каменны**
**Дом Ураду.**

**А услед,**
**Атросшы хлам і друз,**
**Грузна на плячо ўзваліўшы дыбу,**
**У вар'яцкім гневе землятрус**
**Тут па сушы, там па моры**
**Дыбаў.**

**Што дзеля такога**
**Круглы стол!**
**Бойся ты яго а ці не бойся, —**
**Ён шпурне і стол ажно пад столь,**
**А пасля закіне**
**І ў нябёсы.**

**І пакуль**
**Сярод густой начы,**
**Будзе ён стагнаць**
**І вохкаць з крэктам,**
**Падбяры надзейныя ключы,**
**Адгадай усе яго**
**Сакрэты!**

**Каб да ног**
**Разбежыстага дня,**
**Прыкаціўшыся атавай мяккай,**
**Лёг слухмяна гул, бы кацяня,**
**І з лагодай сцішанай**
**Замяўкаў.**

**2**
**Клопатаў —**
**Ля цаліка — цалік!**
**Праглі ўсе: арыце і дыскуйце**
**Іх, да аднаго наперолік,**
**Лемяшамі спрэчак**
**І дыскусій.**

**Скаргаў**
**І пратэстаў, бы снапоў!**
**Дыпламаты, як народ бывалы,**
**З-за пляча у колькі пар цапоў**
**Малацілі іх ды абівалі.**

## "РОДНАЕ СЛОВА", N 7

**Адкрывае нумар літаратурны партрэт Цёткі (змешчаны пачатак артыкула) "Дух народу я абняла б...", напісаны І. Багдановіч. Пра творчасць Я. Чачота разважае У. Мархель — "Служэнне ідэалам маладосці". У яго ж перакладзе прапануюцца некаторыя творы гэтага слыннага пісьменніка. Святар і літаратар Я. Германовіч у цэнтры ўвагі А. Марціновіча. Артыкул "З Богам і людзьмі — па-беларуску" працягвае рубрыку "Літаратура беларускага замежжа". Дапаўненне да яго асобныя байкі Я. Германовіча, якія ён падпісваў псеўданімам В. Адважны.**

**Публікуюцца заканчэнне артыкула А. Бельскага "Прыроды вечны калаўрот...", а таксама артыкулы А. Аксамітава "Функцыянаванне і ўспрыманне фразеалагізмаў у тэксце Якуба Коласа", В. Краснея "Мастацка-выяўленчыя сродкі паэтычнага сінтаксісу", М. Лазарука "Напоўніць "куфар жыцця" (раздзел "Мастацкая літаратура і публіцыстыка ў падручніку "Родная літаратура" для VI класа), Ц. Ліякумовіча "...І зброя нескаронага народа" вывучэнне тэмы "Патрыятычная дзейнасць Янкі Купалы ў часы Вялікай Айчыннай вайны" ў XI класе (дарэчы, гэтых аўтараў "РС" віншуе з юбілеямі).**

**Знакамітаму мовазнаўцу Ю. Мацкевіч споўнілася 85 гадоў. З Юзэфай Фларыянаўнай гутарыць загадчык кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта П. Міхайлаў — "Тады слова серабро, калі справы — золата".**

**В. Скорабагатаў працягвае рубрыку "Анталогія беларускага раманса". Гэтым разам гаворка ідзе пра кампазітара А. Абрамовіча, прапануюцца яго творы з нотамі. Шырока адзначана 50-годдзе У. Някляева — змешчаны яго вершы, прадстаўлены песні на яго словы, ёсць гутарка Н. Фядотавай з юбілярам "Перастварацъ, каб тварыць", у якой асноўная ўвага скіравана на дзейнасць У. Някляева на пасадзе галоўнага рэдактара часопіса "Крыніца".**

**Чытач пазнаёміцца з заканчэннем артыкула В. Куляшовай "З радаводу Аркадзя Куляшова", артыкулам Т. Шамякінай "Функцыі культуры і асноўныя этапы яе развіцця", рэцэнзіяй А. Карлюкевіча на кнігу В. Локун "Маральна-філасофскія пошукі беларускай ваеннай і гістарычнай прозы: 1950—60-я гады", працягам "Календара знамянальных датаў і падзей на 1996 год", складзенага Я. Саламевічам, вершам А. Таболіч і яе перакладам англійскіх паэтаў — рубрыка "Літаратурны вітраж", нязменны вядучы якой М. Скобла, развагамі Я. Содаля пра месца Я. Чачота ў біяграфіі Ф. Багушэвіча — "Знаць Чачота ўсе павінны..." і іншымі матэрыяламі.**

**І, несумненна, многім прыйдзецца даспадобы "Картатэка "Роднага слова": В. Раманцэвіч і А. Чэчат склалі бібліяграфічны даведнік, у які ўвойдуць усе матэрыялы, змешчаныя ў часопісе за 8 гадоў (1988—1995). У нумары пачатак гэтай вельмі патрэбнай публікацыі.**

## НАВІНКА ДЛЯ ГЕОГРАФАЎ

**У Магілёве выйшаў бібліяграфічны паказальнік "Прырода роднага краю", падрыхтаваны супрацоўнікамі абласной бібліятэкі і членамі Магілёўскага аддзела Беларускага геаграфічнага таварыства. Памер выдання — 4 друкаваныя аркушы. Прадстаўлены раздзелы: "Агульныя працы", "Карты", "Геалагічная будова", "Карысныя выкапні", "Рэльеф", "Клімат", "Водныя рэсурсы", "Глеба", "Раслінны свет", "Жывёльны свет", "Фізіка-геаграфічныя раёны", "Прырода гарадоў", "Ахова прыроды", "Анамальныя з'явы ў прыродзе". Звесткі дадзены па стане на 1 траўня 1996 года. Ёсць спадзяванне, што ў недалёкім будучым выйдзе і паказальнік літаратуры "Насельніцтва і гаспадарка Магілёўскай вобласці", а таксама з'явяцца штогадовыя дадаткі да паказальнікаў.**

**І. ШАРУХА,**
**вучоны сакратар Магілёўскага аддзела Беларускага геаграфічнага таварыства.**

Віншуем!

# Рыгору САКАЛОЎСКАМУ — 50



Паэтаў з не складаным лёсам не бывае. Няпросты лёс і ў Рыгора Сакалоўскага. Ён - чалавек з вайны. Вайны ў Афганістане.

Рыгор Сакалоўскі быў рэдактарам газеты славутай сто трэцяй Віцебскай дэсантнай дывізіі, якая была першай накіравана на чужую зямлю выконваць так званы інтэрнацыянальны доўг. У ёй служыў, дарэчы, і наш зямляк, Герой Савецкага Саюза Коля Чэпік. Колькі іх, герояў засталося там, а колькі вярнулася скалечаных целам і душою?! Хто адкажа за гэта, хто вінаваты ў тым? Пра гэта, пра салдацкую прасоленую і прастрэленую дружбу піша Рыгор Сакалоўскі.

Рыгор Сакалоўскі працуе рэдактарам галоўнай газеты беларускага войска "Во славу Родины". А яна, — у гады Вялікай Айчыннай вайны "Чырвонаармейская праўда", — мае найслаўныя традыцыі. У кастрычніку 1942 года на яе старонках пачаў друкаваць свайго "Васіля Цёркіна" вялікі Твардоўскі. Трэба сказаць, што газета працягвае добрыя традыцыі, даючы месца вершам, апавяданням, творам іншых літаратурных жанраў. І ў тым немалая роля яе рэдактара Рыгора Васільевіча Сакалоўскага, якому 2 верасня спаўняецца 50 гадоў.

Прапаную некалькі вершаў Рыгора Сакалоўскага ў маім перакладзе.

**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

Рыгор САКАЛОЎСКІ

# "МІННЫЯ ПАЛІ МАІХ ПРЫГАДАК"

•

**Каторы год ужо зіма**
**Усё навокал засыпае.**
**З трывогай зыбкаю яна**
**Нібы былое ўспамінае.**
**Аэрадром... Ракет хлапкі.**
**Салдацкіх ботаў мерны тупат.**
**Па ўзлётнай мчаць грузавікі.**
**Усход яшчэ святлее скупа.**
**Ссыпаюць знічкавы агмень**
**З магутных крылаў самалёты...**
**Палётны пачынаўся дзень**
**Работай, цяжкаю работай.**
**Мы з парашутамі скакаць**
**Былі гатовы ў тое ранне,**
**Хто ж мог сказаць, што расчахляць**
**Нам зброю прыдзецца ў Афгане?**
**Стаць па камандзе на пасты,**
**І аніякага насілля....**
**Былі і радасць, і кветы,**
**І чай, які прыняць прасілі**
**Афганцы браткаў-шураві,**
**Усмешкі, шчырыя прызнанні...**
**Пасля — азлоба да крыві**
**І маджахедаў заклінанні.**
**Баі ў Газні і за Герат,**
**І на Панджшэры аж пад небам...**
**Ну хто, скажыце, вінават,**
**Каму было ўсё гэта трэба?**
**І каб на ёту не салгаць**
**І адказаць непрадузята,**
**Спытаем згінуўшых салдат:**
**"За што палеглі вы, салдаты?**
**Ці боль яшчэ ўсё ваш баліць**
**І хто ад ран дачасна зляжа?"**
**Дрыжыць іх голас, нібы ніць...**
**Дык хто ж усё-ткі нам адкажа?**
**Яны маўчаць за нас усіх,**
**А час да вечнасці кіруе.**
**Давайце ж ушануем іх**
**Мінутай жальбы па краіне.**
**Хай будзе пухам ім зямля.**
**Яны навечна ў сэрцах з намі.**
**Каторы год ужо зіма**
**Навек разлучана з сынамі.**

•

**... А лейтэнант застаўся**
**Маладым —**
**На дваццаць год, —**
**Нібы ракіта, тонкі.**
**Клубіўся на світанні**
**Шызы дым**
**Ад выбухаў**
**На ўскраечку бетонкі.**
**Ва ўкрыцце побач**
**Ён не змог паспець.**
**Дрыжала неба**
**Самалётным гулам.**
**І ён ляжаў,**
**Сваю сустрэўшы смерць**
**У дваццаць год**
**Пад горадам Кабулам.**

•

**"Не пасылалі" —**
**Прамаўляюць хітра,**
**За спіны хто**
**Схавацца наравіў.**
**А хто ж паедзе**
**Самахоць на бітву,**
**Спякотна дзе**
**Ад сонца і крыві?..**
**І будуць нас**
**Заслужана**
**Нясдавіць**
**Там, у "Афгане",**
**Калі й прыдзе мір.**
**"Не пасылалі..." —**
**Здрыгваецца памяць,**
**Шурхоча ціха**
**На магілах жвір.**

•

**Ажно дзевяць**
**Доўгіх год —**
**За далёкім**
**Гіндукушам!**
**Колькі ж страціў**
**Наш народ**
**Маладых,**
**Нераўнадушных?**
**Колькі ім узнагарод**
**Раздалі? —**
**Не снілася!**
**Ды каб войнаў**
**І бядот**
**Больш**
**Не паўтарылася!**

•

**Я цябе нічым**
**Не папракну:**
**Драбязой**
**І, не дай Божа,**
**Здрадай.**
**Не даюць да позняга**
**Заснуць**
**Мінныя палі**
**Маіх прыгадак.**
**Часам**
**Ажно хочацца крычаць**
**І адводзіць насланнё**
**Рукамі.**
**Я пра шмат што**
**Не магу маўчаць,**
**Быць нямым,**
**Якім бывае**
**Камень.**
**Я з табой**
**Заўжды дзяліў,**
**Што мог:**
**Думы, сэрца**
**І акраец хлеба...**
**Будзь са мной,**
**Прашу цябе,**
**Мой Бог,**
**Пад высокім**
**Беларускім небам!**

БАЦЬКА МОЙ, цясляр знакаміты, рабіў, а лепш сказаць, майстраваў дамавіны для адышоўшых вяскоўцаў. Ладныя, выбераныя да сантыметра — цюцелька ў цюцельку. "...Ляжаць там што ў панскай пасцелі..."

Але памёр сам — і няма каму зрабіць апошні прытул. Урэшце, не згорш збілі на калгасным двары ў піларамe...

Кажуць, няма чалавека — няма праблемы, а тут — якраз наадварот, бо як чалавечна ні жыві, а хоць адну праблему пасля сваёй смерці ўскладваеш на людскія плечы...

•

Ёсць у эга-эсэ Дранько-Майсюка "Стомленасць Парыжам", дзе трохі адсвечвае нарцысізмам і такое: "...баюся застацца сярэднім паэтам..."

Я *застацца* не баюся, абы пашчасціла. Тым больш, што сярэдзіна мне не пагражае, бо як на мяне ні глядзі — я не свой, але й не чужы — заўжды крайні... А ўжо з якога боку той край — усё адно. Стоячы на краі пра тое не думаеш...

•

Быў у Алены Васілевіч. З усіх кутоў светлай кватэры цягнула шчырасцю і адкрытасцю, як скразнячком... і толькі пад крэслам, з накінутай квяцістай хусткай-канапляпкай, адзінока-сарамятлівa затаілася шпулька белых нітак...

Алена Сямёнаўна не без гонару паказвае мне кніжныя рарытэты: коласаўскую "Новую зямлю" дваццаць сёмага года выдання, пажоўклую, там-сям пашкуматаную, з мяккімі знакамі і "ня", ды некалькі томікаў Льва Талстога трынаццатага года, яшчэ дабротна захаваных... Дазваляе патрымацьпагартаць іх... Маўчым... Неабдумана і не да месца кажу ёй пра смерць Бродскага, пра словы Рэйна: "солнце русской поэзии закатилось...", тыя словы, што адрасаваліся Пушкіну...

Недаўменне ў яе вачах, лаўлю на сабе вострьі сонечны бляск акуляраў, адводжу позірк, — яна замілавана схіляецца над букіністычнымі томікамі Коласа і Талстога, і гладзіць іх па-мацярынску тонкімі яшчэ элегантнымі жаночымі пальцамі...

А ў галаве маёй круціцца радкі нобелеўскага лаўрэата-нябожчыка:

**Прощай Бобо, прекрасная Бобо.**
**Слеза к лицу разрезанному сыру.**
**Нам за тобой последовать слабо,**
**Но и стоять на месте не под силу.**
...

•

У той жа Васілевіч вычытаў пра модны шык маладых Крысько і Скрыгана — галіфэ, абшытае леямі, юхтавыя боты... Так напрыканцы дваццатых уваходзілі ў беларускую літаратуру нашы сённяшнія класікі.

А мне пры гэтым лезе ў вочы наш сучаснік Славамір Адамовіч — таксама галіфэ з падцяжкамі, хромавыя афіцэрскія боты...

Можа, у гэтым і прыхаваны ўвесь іх сённяшні маладзь "рэваншызм"? Не, кажуць, гэта сучасны бытавы постмадэрнізм... Мне няёмка распытваць, што гэта такое па сутнасці. Цёмны я ў гэтым сэнсе чалавек.

А вось Акудовіч ведае, не зважаючы на тое, што працуем мы разам і зарабляем на хлеб-соль пароўну...

•

Прыйшоў вечарам дахаты хай сабе і з не цяжкай працы, але — галодны. Такі, што пераапрануўся, памыў рукі, уключыў тэлевізар — і на кухню... Хоць гарачага чаю з батонам... І ўжо насыпаючы цукар у кубак, пачуў з пакоя вершы, рускія, але балючыя, і па радках помных і па голасе пазнаў Анатоля Жыгуліна...

І нечакана захапіла мяне да астатку і вершамі яго, і сібірыядай, і руднікамі, і холадам-голадам, і баландой, і злымі аўчаркамі... што неўпрыкмет прастаяў пры дзвярным вушаку хвілін пятнаццаць, да канца перадачы...

Вярнуўся на кухню і не адразу, ужо з нейкім прысаромленым пачуццём, выпіў той схаладзелы кубак чаю з пахучым свежым батонам...

•

Я ніколі нікому *не навязваў* сваіх ідэй, запаветных думак ці перакананняў. Спрачацца — спрачаўся, адстойваць — адстойваў, але нічога не навязваў, заўжды памятаючы навязаных азвярэлых сабак...

...Звяглівае, *навязлівае* — толькі таму, што *навязанае*...

•

Часам гаворыш, каб толькі не маўчаць, каб падтрымліваць самую гаворку, бо доўгае маўчанне тваё выклікае падазронасць: што ж ён задумаў, гэты маўчун?!

А нічога ён не задумаў ды і не думае нават... Проста стаміўся і вас слухае...

Зрэшты, магу што-небудзь сказаць, каб чаго-небудзь не падумалі...

Прыкладна такім уяўляецца мне сучасны літаратурны працэс...

•

Пачаў, але да канца так і не даглядзеў фільм, дыпломную рэжысёрскую работу артыста Кайданоўскага, добра вядомага па "Сталкеру" Таркоўскага. Па-першае, не тыя тэхнічныя і матэрыяльныя выдаткі, каб зрабіць нешта відовішчнае (а кіно — гэта ўсё-ткі відовішча). Па-другое, трэба быць Талстым, каб яшчэ раз перапісаць-пераждыць "Смерць Івана Ільіча"...

Зрэшты, заўчасны скон самога Кайданоўскага і ёсць найлепшая прыватная ілюстрацыя да талстоўскай трагедыі...

•

Вось і прэзідэнт стаў коўзацца... Мароз? У кватэрах халадна? Падтрымлівайце здаровы вобраз жыцця! Усе — на канькі! Дагонім і перагонім Жалязоўскага! Белая Алімпіяда як і прэзідэнцкія выбары — не за гарамі!

Але пакуль будзем вучыцца бегаць-коўзацца па лёдзе — глядзіш! — і вясна надыдзе... І што ж — шынны бабруйскі камбінат пераводзіць на выраб гумовых ботаў і бахілаў?!.

банзавоз. Загарнулі ў брызент труп шафёра, паехалі назад. У бальнічным моргу згрузілі брызент з нябожчыкам на алюмініевы доўгі стол... Смурод той — даруй, Госпадзе — і па сёння, здаецца, не чую, а памятаю... Заснуць было ўжо немагчыма.

Скасцілі, праўда, толькі адныя суткі. Лягавыя, адно слова! Ім веры не давай...

І толькі прыехаўшы ў вёску пасля адсідкі, даведаўся я ад знаёмых, што пазаўчора пахавалі майго аднакласніка з суседняй вёскі Колю Архіпавага. Згарэў, заснуўшы за рулём бензавоза... Што тут казаць, калі мову адымае... Добры быў хлопец, свойскі, безадказны, ціхі, непітушчы...

Вось, і мне дапамог, чым мог... І я, хоць і зняволены, але ўсё ж па сваёй волі, падабраў яго, нямоглага, з вузкай і заезджанай дарогі жыцця...

Пухам яму зямля, па якой яшчэ хаджу я няспешна, але ўжо стомлена.

•

На вечарыне "Бум-бам-літа" ў Доме літаратара было нечакана многа публікі і дастаткова слоўнага маразму, але не было сумна.

мыслячы субяседнік. Такіх на Русі *мала*, таму ўвачавідкі *абмалела* сама Русь менавіта як нацыя руская.

Ён гаварыў скупа, пакутна, разумна, спатыкаючыся, губляючы і знаходзячы патрэбнае слова ў патрэбны момант... І самае галоўнае, што словы тыя для авангарднага мастака былі надзіва простымі і даходлівымі, на мой погляд, нават для непадрыхтаванага да падобнай гаворкі чалавека.

І ў тым пераканаўчая сіла Таленту, неўзіраючы, у якім мастацкім накірунку дзейсніцца яго Творчасць...

•

Зямны час змяніў свой рытм. Жыццё чалавека паскорылася. Такія, як я, людзі, якім пад пяцьдзесят, — стамляюцца, не паспяваючы за часам ні фізічна, ні духоўна...

Яшчэ дваццаць-трыццаць гадоў назад справы чалавечыя дзеіліся спакайней, размеранеи, надзейней, спагаднеи для самога чалавека. Амаль не было разліку на далёкую асабістую перспектыву, не было рызыкі ў дзеяннях і будзённых намаганнях.

дзіўным чынам штораз захоўваючы сваю цнатлівасць...

•

Мітынговасць зацягвае, як алкаголь. Кожны з нас пакутуе за Айчыну ў меру сваёй любові да яе. Іду ў шматтысячнай калоне пад бел-чырвона-белымі сцягамі і, пераадольваючы боль у страўніку, крычу разам з усімі "Жыве Беларусь!", ясна прытым усведамляючы, што не жывём ні я, ні яна, а — хварэем, што час не лечыць нас, а набліжае агонію.

Але мы ствараем міф, бо ведаем, што толькі ў міфе адраджаецца з попелу птушка Фенікс...

Што нам дае гэта, апроч надзеі? Адчуванне ўласнага дачынення да стварэння міфа — ілюзіі нашага зямнога існавання.

Таму, трываючы боль у страўніку, я крычу на ўвесь Сусвет "Жыве Беларусь!", укладваючы ў гэтыя словы адным-адзіны сэнс: Госпадзе, я — грэшны раб Твой, злітуйся — даруй мне грахі мае...

•

Прадвесне... Апатыя... Не ведаю, навошта жыву, пішу... Апатыя не да жыцця, а да смерці, не да жывога, а да мёртвага...

Апатыя да мокрага, бруднага, цяжкага снегу, што расце ў мяне на вачах... Апатыя да акаляючай сённяшняй рэчаіснасці...

Леанід ГАЛУБОВІЧ

# ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ



•

Студэнты спыталі прафесара-філолага, як гэта людзі складаюць анекдоты. Было тое за сталінскім часам.

"Сядзяць і *сачыняюць*, — коратка адказаў прафесар і як бы няўзнак дадаў, — сачыняюць і *сядзяць...*"

Мне падабаецца гэты трапны анекдот пра анекдоты. Ды ўжо й пры нашым часе, прыпамінаючы "рэваншыста" Адамовіча з яго вершам "Убей президента", за які ён вось цяпер і сядзіць... Анекдот!..

•

У нас па сутнасці адбываюцца банальныя "рэчы". А ляманту — на ўвесь свет! Такога розгаласу не заслугоўваюць ні той, хто творыць гэтыя "рэчы", ні той, хто прыдае ім такое значэнне...

Не дзяржава, а — край з *людзьмі на балоце...*

•

Дрэвы растуць крыва — гэта відавочна. Але паспрабуй выпрастаць...

•

Што б ні пісаў — усё гаворыць тваім голасам. Нічога нельга выказаць, апроч сябе.

І самы выдатны і самы няўдалы твор — гэта ТЫ...

•

...Укладваючы асфальт каля рэстарана "Бярозка" ў правінцыйным гарадку, я змушана адбываў дзесяць сутак пакарання. Мясцовы міліцэйскі ізалятар быў у самым цэнтры горада і меў цёмныя і занядбаны выгляд, як звонку, так і знутры. Камера была аб'ёмная, кубічная, затхлая, змрочная, з нізкімі дашчатымі нарамі. Сядзела нас там шасцёра і ўсе, як знарок, з суседніх вёсак. Знаёмыя яшчэ па школе...

Зрэшты, як я туды трапіў... Аказацца на сутках звыкла пітушчаму чалавеку па тым часе (1976 г.) не было аніякай праблемы. Пасля гранёнай шклянкі спірту, выпітай з сябрамі, што перапала нам у выніку нейкай матэрыяльнай авантуры, я ўздумаў ехаць дахаты ў вёску. Білет мне на аўтастанцыі купілі той, што і трэба было, ды пасадзілі зусім не ў той аўтобус. Адразу ж па выездзе са станцыі дзядок-кантралёр, як пасля высветлілася — паважаны пенсіянер раённага маштабу, правяраў пасажырскія квіткі. Квіт то ў мяне знайшоўся, ды не на гэты рэйс — сварка, лаянка... Ну, вядома, п'яны дундук. Не разумеў, што мне ў прынцыпе дабро робяць — ссаджваюць, каб не заехаў у супрацьлеглы бок. Дзядок прыпыніў аўтобус у горадзе насупраць пастарунка, гэта было якраз па дарозе, ды і здаў мяне савецкім беларускім міліцыянтам. Тыя надавалі кухталёў і кінулі на адсыпку ў цёмную камеру... Назаўтра суддзя за нейкія пяць хвілін і аформіў мне тыя дзесяць сутак арышту.

...І вось — сядзім... Праўдзівей сказаць, ляжым, хоць і мулка. Хлеб, соль, вада... Ніколі не думаў, што на трэція суткі гэта ўсё так смачна, так чакана і ўсяго гэтага так мала...

Пасля ўжо сталі выводзіць на работы ў горад, укладваць згаданы вышэй асфальт каля затрапезнага рэстарана. Хоць і цяжкая праца, але на волі — там і накурышся і пажуеш... Сяброў сноўдае процьма: той — гэта, гэты — тое... Дзень да вечара...

На пятыя суткі ноччу ў калідоры ізалятара затупалі, забразгалі замком... Дзверы адчыніліся, у асветленым іх праёме паўсталі два пакамечаныя начным дзяжурствам сяржанты, гарлаюць: "Ну, што, залётныя!? Два добраахвотнікі на гадзіну — і двое сутак адпісваем у крэдыт!.."

Добраахвотнікі — усе! Выбар быў за шустрэйшымі і менш заспанымі. Пасадзілі ў варанок, павезлі кудысьці за горад. Цемра беспрасветная. Аварыя на шашы. Згарэлы

Седзячы побач са мной, сакратар СП Алесь Пісьмянкоў усё хваляваўся, што няма Сыса, які сарваў бы, як заўжды, гэтую вечарыну. Я сказаў яму, што Сыс тут, а ён усё не мог паверыць.

Наіўны Алесь, хіба можа Сыс сарваць такую бедламную вечарыну!? Сваім з'яўленнем на сцэне ён толькі скрасіў бы яе. Але — не, дадаваць свой аўтарытэт у гэтай справе іншым Анатоль Ціханавіч і не думаў, хоць, пэўна ж, і "бум-бам-літаўцы", як і Пісьмянкоў, на тое падсвядома спадзяваліся...

Тым больш *гонар* Сысу. Так трымаць, Анатоль!..

•

У маім жыцці мяне нічога не задавальняе, апроч таго, што думаю і пішу... Маральна задавальняе і гэтага дастаткова, каб жыць...

•

Кожны ведае, што *ён жыве*, але пераважная большасць людзей гэтага не ведае. І ведаць не хоча, што *нейкі ты* недзе там нечым *жывеш...*

Ці не адсюль наш чалавечы эгаізм — імкненне да славы і вядомасці?

•

Нечакана зайшоў на кватэру Сыс. Цвярозы, элегантны, падкрэслена інтэлігентны... Павіншаваў жонку і дачку з жаночым святам, падараваў два аранжавыя апельсіны. Выпіў шклянку кока-колы. Акінуў вокам кватэру, упэўніўшыся, што, падараваная ім на ўваходзіны, карціна тэлевізійнай мастачкі Алены Каравай з выявай туманнай Каложы на месцы, спешна адкланяўся...

"Дурдом" — думаў я, самотна перажоўваючы яго экстравагантны цвярозапрыстойны візіт.

Зрэшты, на тое й Паэты, каб зрэдку здзіўляць сваёй неардынарнай прысутнасцю нашу празаічную будзённасць...

•

Я ведаю, што пасля зімы прыходзіць вясна, а пасля жыцця смерць... І ў прынцыпе гэтага дастаткова, каб мысліць насуперак веданню.

•

Літаратура — гэта яшчэ адна наіўная вера ў бессмяротнасць.

•

Слухаў і глядзеў па НТБ інтэрв'ю з А. Сакуравым перад паказам яго фільма "Усходняя элегія", знятага ў Японіі. Запалі яго словы, што Масква — самадастатковы горад-монстр са сваёй інтэлігенцыяй, прэсай, тэлебачаннем і т.п., што Масква непатрэбная Расіі, а Расія непатрэбная Маскве...

Гэта быў сучасна і неардынарна

Дзень быў роўны дню, а ноч — ночы, любоў — любові, а зло — злу, рубель — рублю, а беднасць — беднасці, чалавек — чалавеку, а Бог — Богу...

Цяпер дзень стаў карацейшым, а ноч даўжэйшай, любоў — меншаю, а зло — большым, рубель — роўным беднасці, а беднасць — нявартая рубля...

Чалавек імкнецца быць роўным Богу — і Бог паскарае рытм жыцця...

Я — адстаю, адстаю... Але — застаюся. У сваім часе. З сябе не выбежыш...

•

Трэба было б мне па свежай памяці занатаваць пра тое, як...

Але — не... Пакіну гэтую радасць іранічнага натхнення Леаніду Дранько-Майсюку, хоць ён і не быў сведкам таго, як... І ўсё ж ніхто іншы не зможа так напісаць "Пра тое, як пасварыліся Алесь Сцяпанавіч з Анатолем Ціханавічам"...

Вядома, адна справа, калі графаманка-палюбоўніца задушвае п'янага таленавітага Рубцова Мікалая Міхайлавіча, і зусім іншая, калі адзін магутны талент душыць другі не менш буйны талент... Праўда, у гэтым выпадку ўсё магло скончыцца на мінорнай трагічнай ноце...

Затое ўвайшло б у гістарычныя літаратурныя аналы! А так... невядома нават, ці захоча пісаць "пра тое..." Л. Д.-М.

•

Людзі хочуць наблізіцца да Бога, таму што палохаюцца духоўнай адзіноты, але ўсё яшчэ далёкія ад Яго, таму што баяцца адысці ад сябе...

•

Здавалася, вясна ўжо стаяла на парозе акалелага свету... А сёння зранку — зноў снег, вецер, макрэча...

Стыхія разгулялася паўсюль — у прыродзе, у грамадстве, у кожным асобным чалавеку...

Палітычныя вятры за апошнія дзесяць гадоў выдзьмулі з людскіх душаў адчуванне вечнай прыгажосці, пакінуўшы там пустку быційных расчараванняў.

Як загнаны звер, ужо змірыўшыся з гіблым выракам, убіраю ў сябе апошні водар жыцця...

•

Мастацтва — гэта не тое, што створана ці яшчэ творыцца, а тое, што *з табой* створана ці яшчэ створыцца...

•

Вось гэтыя мае зацемкі... Іх трэба альбо пісаць альбо чытаць... Мне, яму, ёй — няважна.

Я выбраў першы варыянт...

•

Што такое талент... Талент — гэта мужнасць бескарысна аддавацца іншым,

•

У гэтай краіне, дзе ты ні пасяліся, — хоць з якога боку апоек суседам будзе. У мяне цяпер, дзякаваць Богу, — знізу. Маці гадоў сямідзесяці пяці і сынок-бадзяга гадоў сарака пяці... Рэдка калі павіталіцца можна — напітыя да бязмоўя, толькі хрыплы мыкаюць ды брудна і неразборліва лаюцца. А вечарамі крычаць-грукочуць і б'юць посуд. Не ўяўляю — што ўжо там біць...

Хрушчоўка, перакрыцці блочныя, тонкія — усё чуваць, хоць вушы ватай затыкай. Асабліва ў ваннай. І вось сёння, на каталіцкі Вялікдзень, чышчу ранкам зубы — чую і вушам сваім веры не даю; адчуваецца, што яшчэ ў ложку, неапахмелены, перасохлымі губамі, іржава-выбачальным голасам: мама, ма-му-ля...

Я нават разгубіўся ад неспадзеўкі. Госпадзе, думаю, ну ёсць жа Ты, хоць і па вялікіх святах... Які Макаранка ці Сухамлінскі мог спадзявацца на падобнае?!

Ды за такую "пяшчоту", якую ён адшукаў на донцы сваёй спаскуджанай душы, я сам даў бы яму чарку для апахмелкі...

Няхай і не "home sapiens", але "беларусо-савецікус-чалавекус"...

•

Літаратура, як дарэчы і ўсякае высокае мастацтва, трымаецца на асобах неардынарных, нярэдка нават звыродлівых, як фізічна так і псіхічна, — гэта сведчыць пра тое і сцвярджае тое, што толькі чалавек, якому ўдаецца вырвацца за межы наглуха замкнутага кола *ўнармаванай* чалавечай цывілізацыі, можа ствараць суб'ектыўны мастацкі вобраз аб'ектыўнай рэчаіснасці.

Можна было б прыводзіць для "ілюстрацыі" сказанага многія прыклады і шмат якія імёны — яны ўсе на паверхні, а большасць на слыху сённяшніх інтэлектуалаў. Таму — не буду. Дадам хіба, што перачытваючы Эзру Паўнда, я фізічна адчуў, што мне не дастае ўнутранай духоўнай моцы, каб вырвацца з гэтага жалезнага кола *ўнармаванага* бытавання.

*Нармальна* нарадзіцца, *нармальна* жыць і *нармальна* памерці — гэта і ёсць *норма* (ЗАКОН) цывілізаванага чалавечага рабства. Змірыўшыся са светам, ты змірвешся з сабой — і ў гэтым твой скон як творцы...

Нездарма ж Бог і боскае з'яўляюцца сінонімамі Творцы і творчасці. Той Сілай, якая ўзвышаецца над звыклай мітуснёй свету...

•

На кінатэатры "Вільнюс" больш тыдня вісіць афішка. Чырвонымі колерам буйнымі літарамі: ПРИГЛАШАЕМ МОЛОДЕЖЬ НА РУССКОЯЗЫЧНУЮ ДИСКОТЕКУ!

"Nicht verstehen!" — коратка выстрэльвае з памяці школьны набытак з нямецкай...

*(Працяг на стар. 14-15)*

## АДЗІНАЯ І НЕПАЎТОРНАЯ...



**Яе ведаюць музыканты і дыпламаты, літаратары і медыкі, бізнесмены і мастакі. Неардынарная і незалежная, шчырая і таварыская. Свецкая дама і няўрымслівая працаўніца... Ну, хто ж не ведае Элеанору Язерскую! Яе мілыя імправізацыі ў "жывым" эфіры падчас трансляцый філарманічных канцэртаў; яе дасціпныя каментары ў кулуарах — з нагоды апошніх навін у культурным жыцці; яе музычна-асветніцкія тэлепраграмы; яе фірменны "Салон Элеаноры Язерскай" на канале БТ; яе экстравагантнае аблічча і непадказальныя "віражы" ў дыялогах з суразмоўцамі... У Элеаноры Язерскай сёлета — юбілейны год. Яна і не думае хаваць свой узрост, усміхаецца: "Усім расказваю, што ў мяне — юбілей. Ніхто не верыць!"**

**С. Б.**

*Фота Віт. АМІНАВА*

## СВЕТ ЗАХАПЛЕННЯЎ



**У кожнага чалавека, як вядома, у жыцці ёсць свае захапленні. Адны любяць падарожнічаць, другія чытаць кніжкі, трэція — маляваць і г.д. Свет захапленняў жыхаркі Драгічына Зоі Аляксандраўны Лавецкай — у мінулым выкладчыцы драгічынскага ПТВ N 63, затым галоўнага эканаміста калгаса "Драгічынскі", а цяпер пенсіянеркі — вышыўка. Яе кватэра — гэта своеасаблівы музей ручнікоў, сурвэтак, абрусаў, пано з вышытымі на іх разнастайнымі арнаментамі і ўзорамі.**

**Зоя Аляксандраўна — неаднаразовы ўдзельнік выстаў народнай творчасці, якія праводзяцца ў раёне.**

*Фота Сцяпана СУПРУНА*

*г. Драгічын*

## ЧАМУ Ж НАМ НЕ... ІГРАЦЬ!

**Вышэйшыя навучальныя ўстановы ўсё часцей самі клапоцяцца, каб мець, як кажуць, пад рукой неабходную літаратуру. Гэткім жа шляхам ідуць і ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка. Нядаўна тут з'явіўся вучэбна-метадычны дапаможнік "Падрыхтоўка настаўніка музыкі па класе баяна", аўтарамі якога з'яўляюцца А. Кавалёў, В. Карпуць, І. Сумар. Чаму ж у такім разе не... іграць!**

# ЗНАКАМІТАЕ І... "НЕВЯДОМАЕ" ТРЫО

Супер-ансамбль... Менавіта так было прадстаўлена "Трыо-Мінск" пад кіраўніцтвам Валянціны Пісарчык у праграмцы да канцэрта, які адбыўся не так даўно ў зале сталічнай філармоніі. Але перад тым, як падзяліцца ўражаннямі ад гэтага бліскучага і незабыўнага выступлення, прыгадаю некаторыя значныя падзеі з жыцця калектыву.

Яму толькі год з невялікім, калі не лічыць дзесяцігоддзя перадгісторыі, звязанай з дзейнасцю трыо баяністаў — выкладчыкаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Валянціны Пісарчык, Генадзя Мандруса і Тацціяны Брагінец. Упершыню яны выйшлі на сцэну роднай ВНУ ў 1980 годзе з Фантазіяй на тэмы песень І. Лучанка "Камсамольскае юнацтва", пасля чаго пачалі шмат выступаць у розных гарадах Беларусі і за яе межамі. Самым дарагім і ганаровым было прызнанне высокага прафесійнага майстэрства ўжо тады папулярнага трыо на двух міжнародных конкурсах — у Італіі і ў Францыі ў 1991 годзе, дзе ансамбль баяністаў узяў першыя прэміі і стаў уладальнікам залатых лаўрэацкіх медалёў. Аднак далейшым поспехам трыо перашкодзіла нечаканая смерць Г. Мандруса, выдатнага выканаўцы, адказнага педагога, ініцыятара стварэння калектыву, аўтара п'есы "Музычны момант" і транскрыпцыі знакамітага "Чардаша" В. Монці, якія ён напісаў для трыо. Да таго ж, пакінула ансамбль і Т. Брагінец па ўласных меркаваннях.

У памяць пра калегу, сябра і аднадумцу Валянціна Пісарчык і вырашыла адрадзіць былую вядомасць ансамбля баяністаў. Так з'явілася "Трыо-Мінск", у якое ўвайшлі нядаўнія выпускнікі Акадэміі музыкі Уладзімір Гудзей і Андрэй Перадзерый. Разам са сваім кіраўніком, ужо тройчы лаўрэатам міжнародных конкурсаў, дацэнтам кафедры баяна і акардэона В. Пісарчык яны далі новае жыццё бліскучай мастацкай выканальніцкай традыцыі беларускага трыо баяністаў і прадоўжылі ўзыходжанне нацыянальнай культуры да вяршынь сусветнай славы. І гэта не проста прыгожая фраза. Іх майстэрства і безумоўны талент былі высока ацэнены на V Міжнародным фестывалі "Баян і баяністы" ў Маскве. Падчас сольных канцэртаў на Міжнародным фестывалі ў Даніі выступленне і інтэрв'ю мінскіх музыкаў запісала Латвійскае нацыянальнае тэлебачанне для ўласнай перадачы і запрасіла на свой фестываль у Даўгаўпілс.

"Трыо-Мінск" пазнаёміла са сваім рэпертуарам і выканальніцкімі здольнасцямі многія навучальныя ўстановы і творчыя калектывы Мінска, Маладзечна, Мазыра, Кобрына і Брэста. Баяністы сталі жаданымі ўдзельнікамі юбілейных вечароў і канцэртаў, рэспубліканскіх фэстаў. Неверагодна, але такая папулярнасць ансамбля сталася вынікам усяго толькі аднаго года канцэртнай дзейнасці, кульмінацыя — атрыманне другой лаўрэацкай прэміі на Міжнародным конкурсе ў Італіі ў кастрычніку 1995 года. Відаць, не памылюся, калі скажу, што канцэрт-прэзентацыя, які адбыўся ў Беларускай Філармоніі праз нейкі час пасля гэтай падзеі, пацвердзіў нараджэнне новай "зоркі" нацыянальнай культуры — у галіне баяннага выканальніцкага мастацтва.

Я ўвогуле не прыгадаю, калі быў апошні сольны канцэрт баяніста ці ансамбля народных інструментаў. Пашчасціла, што ініцыятарам гэтай канцэртнай прэзентацыі было Міністэрства культуры, якое шмат у чым дапамагае трыо баяністаў. Здаецца, "невядомым" ансамбль аказаўся толькі для непасрэдных арганізатараў канцэрта, бо заканамерным быў поспех "Трыо-Мінск" у перапоўненай зале, дзе сабраліся пераважна даўнія сябры і калегі, прыхільнікі творчасці баяністаў, творчая моладзь, тыя, хто неаднойчы чуў пра іх поспехі і майстэрства.

Усяго толькі 50 праграмак (?), падрыхтаваных да гэтага канцэрта-прэзентацыі, разышліся вокамгненна. І "абдзеленая" публіка мусіла пазычаць у шчаслівых уладальнікаў анатацыю, цудоўна напісаную прафесарам Акадэміі музыкі М. Солапавым, якая ўключала і ўласна праграму выступлення трыо. Аднак добры кантакт паміж выканаўцамі і слухачамі ўзнік адразу ж, і ўсё выступленне трыо ўспрымалася як даверальны аповед, дзе сэнс кожнага выказвання, здавалася, даверваўся толькі табе і ў той жа час ператвараўся ў агульнадаступную думку, аформленую выразным і маляўнічым гукапісам шматтэмбравых баянаў. Менавіта такімі здаліся "Ронда-капрычыоза" В. Залатарова, "Сымон-музыка" Д. Смольскага, вядомая ў розных пералажэннях фартэпіянная "Астурыя" І. Альбеніса, "Гатычная сюіта" А. Бёльмана і іншыя творы, якія прагучалі ў першым аддзяленні канцэрта.

Да таго ж, упершыню трыо выступала не толькі ў якасці саліста. Вядомы оперны спявак Міхась Жылюк, які таксама браў удзел у канцэрце, выканаў у суправаджэнні баянаў знакамітыя "Аве Марыя" Качыні і "Серэнаду" Ф. Шуберта. Незвычайнае і даволі рэдкае вакальна-інструментальнае спалучэнне ўразіла слухачоў.

Калі наогул казаць пра рэпертуар гэтага "ансамбля-віртуоза", дык і тут ёсць чым захапляцца. Нават адзін з членаў журы італьянскага Міжнароднага конкурсу француз Фрэдэрык Дэшамп проста звёз з сабой ноты, прадстаўленыя "Трыо-Мінск", паводле конкурсных умоў, у чатырох экземплярах. Дый зазвычай пасля канцэртаў да выканаўцаў заўсёды падыходзяць музыканты з просьбамі перапісаць той ці іншы твор для ўласнага выканання. Беларускаму трыо баяністаў свае творы падаравалі вядомыя маскоўскія аўтары Ю. Шышакоў і М. Канаеў. Для былога складу ансамбля напісаў свой "Напеў" беларускі кампазітар Г. Вагнер. І вось цяпер, як мне вядома, яшчэ некаторыя з нашых аўтараў зацікавіліся перспектывамі супрацоўніцтва з "Трыо-Мінск". Шмат транскрыпцый для яго робіць П. Глушчук, таленавіты выканаўца і арыгінальны майстар пералажэнняў і аранжыровак для баяна.

Выканальніцкія магчымасці трыо без перабольшвання бязмежныя. Мастацкі кіраўнік В. Пісарчык набыла вядомасць як выканаўца яшчэ ў час навучэння ў Інстытуце імя Гнесіных, а потым у Тамбове, дзе працавала пасля размеркавання. Як салістка яна бесперапынна выступала да таго часу, пакуль не ўтварылася трыо. Сярод яе былых вучняў — заслужаныя работнікі культуры, дырыжоры, кампазітары, шматлікія педагогі музычных вучылішчаў і дзіцячых школ. Выпускнік класа В. Пісарчык і У. Гудзей, які цяпер выступае ў складзе "Трыо-Мінск". Трэці ўдзельнік ансамбля, А. Перадзерый працуе яшчэ і ў аркестравай групе знакамітых "Харошак".

Казаць пра тэхнічныя і мастацкія выканальніцкія здольнасці кожнага з артыстаў трыо амаль немагчыма, бо яны вызначаюцца гарманічным суладдзем і адзінствам ансамблевага гучання. Хутчэй гэта могуць быць нейкія асобныя характарныя партрэты валявой і ўнутрана сабранай Валянціны Пісарчык — вядучага першага баяна ў трыо, абаяльнага і загадкавага Андрэя Перадзерыя, упэўненага і стрыманага Уладзіміра Гудзея, якія, дапаўняючы адно аднаго, утвараюць выразнае і непаўторнае аблічча творчага калектыву. Яны валодаюць сакрэтам ідэальнага ўзаемаразумення і амаль растварэння адно ў адным, мілагучным унутрана паглыбленым вядзеннем дыялога, бліскучай і выразнай тэхнікай у самых неверагодных тэмпах, імправізацыйнай лёгкасцю, па-майстэрску прафесійным акадэмічным адчуваннем кампазіцыйнай драматургіі. Але ж і гэта не ўсё!

"Варонежскія найгрышы" Ю. Раманава, якімі пачыналася другое аддзяленне таго знамянальнага канцэрта, быццам бы вымагалі тэатралізаванага выканання. І вось на сцэну па чарзе, бы ў тых маладзёжных вячорках ці гульнях, выйшлі гарманісты, кожны са сваім найгрышам. Адыграўшы агульную частку танцавальных "каленцаў", гэтаксама ж і пакінулі вясёлы збор. Толькі адзін лавелас затрымаўся каля прыгажуні-гарэзы, якую без цяжкасцей знайшоў у зале (вядома ж, спантанна). Імправізацыйная музычная сцэнка высвеціла выразны акцёрскі штрых, якім было пазначана выкананне і наступных твораў. Гэта "Кумпарсіта" Г. Радрыгеса, "Святочны вальс" і "Клаунада" Я. Глебава, "Цыганскія матывы" М. Канаева... Кожны падаваўся так ярка і па-тэатральнаму характарна, што здаваўся замалёўкай, народжанай імгненнай фантазіяй выканаўцаў. Гэтая частка канцэрта прайшла на адзіным уздыме, калі ўжо не змаўкала "брава" і няспынна дарыліся кветкі.

Без "бісаў" гэты ансамбль ніколі не пакідаў сцэны. Але здавалася, што пасля такой складанай і вельмі насычанай праграмы ні ў слухачоў, ні ў выканаўцаў не стане моцы на працяг канцэрта. Ды й вядома ж, сапраўднае мастацтва робіць цуды. Узрушаная, усхваляваная і ўдзячная зала наладзіла сапраўдны трыумф. На жаль, ніхто не паклапаціўся, каб быў зроблены відэа- або аўдыа запіс гэтага гістарычнага, як я лічу, выступлення. Праўда, у час канцэрта можна было прыкмеціць некалькі рук, што трымалі ўласныя магнітафоны тых шчаслівіцаў, якія захаваюць жывыя ўспаміны пра непаўторны канцэрт "Трыо-Мінск". Буклеты, афішы, запісы адсутнічаюць ва ўдзельнікаў трыо цяпер, як і раней, затое захоўваецца энтузіязм, які нязменна дапамагае творчасці гэтага знакамітага і "невядомага" калектыву. Вось і жыве традыцыя беларускага трыо баяністаў, якіх любяць, паважаюць, высока ацэньваюць, ад якіх чакаюць новых поспехаў і творчых сустрэч.

**Люба КУЧАРОЎСКАЯ**



*На здымку: "Трыо-Мінск": Андрэй Перадзерый, Валянціна Пісарчык, Уладзімір Гудзей.*

Тэатр

# "СЦЭНА ДАСТАВАЛАСЯ ЦЯЖКА..."

***Самыя размаітыя спектаклі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы злучыла ЗОЯ БЕЛАХВОСЦІК, існая вядучая актрыса, актрыса першая сярод роўных. "Тутэйшыя", "Ідылія", "Дракон", "Памінальная малітва", "Паўлінка", "Блакітная ружа" пазначаны і асветлены пяшчотнаю жаноцкасцю, розумам ды адметным гумарам яе гераінь.***



**— Зоя, чым мусіць ахвяраваць жанчына, каб заставацца на першай сцэне Беларусі адною з першых?**

— Шмат чым. Нават пры тым, што тэатр — усё адно самае галоўнае: жыццё. У мяне няма патрэбы шкадаваць сябе, хіба толькі тады, калі работы мала. Мяркую, што пасля ўсяго сыгранага мне яшчэ варта вучыцца — "на актрысу"...

**— Творчасць — рэч пэўна асабістая, інтымная. Між тым сцэна аб'ектыўна вымагае, каб нават самыя інтымныя бакі жыцця (псіхіка, фізіялогія) падпарадкаваліся ёй і толькі ёй...**

— О, нашы жаночыя інтымнасці ў тэатры звыкла вядомыя, а рэжысёру дык абавязкова, ад гэтага ж часам залежыць якасць спектакля. Але асабліва ніхто на іх не зважае, у рахубу не ставіць, пад увагу не бярэ.

**— Зоя, першы і апошні вэрхал, звязаны з тваім імем, надарыўся ў тэатры год таму: маўляў, Зоя Белахвосцік адмаўляецца іграць у "Ідыліі". Пачуўшы, не паверыла, бо ведаю, што ты і з тэмпературай на сцэну выходзіла, і з незмыканнем звязак працавала.**

— Ну-ну, цікава, чаго толькі пра сябе не пачуеш... Хоць магу меркаваць, скуль той вэрхал узнік. Аднаго разу (а "Ідыліі", дзе трэба шмат спяваць, танчыць, рухацца, звычайна ставяць у афішу абоймай, адну за адной, так што аднаўляцца-адпачываць не выпадае) навезлі нейкіх дзетак... Спектаклі глядзяць рознага кшталту гледачы, кожнага мы перацягваем на свой бок... толькі не гэтых дзетак. Прыехалі яны адкульсьці здаля, тэатр, здаецца, бачылі ўпершыню і надта хацелі, каб і на іх у тэатры звярнулі ўвагу. Наступнаю раніцай я зразумела, што без тэрміновай медыцынскай дапамогі на сцэну ўвечары мне не выйсці (ды яшчэ з нашай прымітыўнай гукавой тэхнікай!). Горла мне не падпарадкавалася. Пабегла да доктара на Сухую (там месцяцца спецыялісты-фаніятары — **Ж. Л.**), — трэба накіраванне. Разгубілася да такой ступені, што заплакала. У сваёй паліклініцы — чарга, усім баліць, нікому не патлумачыць, што спектакль вымагае... Давялося яго адмяняць. Я ж ніколі не зрывала спектаклі, ніколі! Божа, колькі размоў пра тое, што ў артыстаў — прафесійныя хваробы, а спектаклі — штовечар; што артыстам да доктара трэба не па бальнічны ліст, а па вокамгненную дапамогу! Я хвараю — як усе, але не лекуюся. Бо калі даводзіцца зрэдчас са звязкамі (што горла, што ног) — дык... расклад доктара проста па гадзінах паўтарае расклад нашых рэпетыцый. А я не магу і не хачу нічога прапускаць, я ж прафесійная актрыса...

**— Зоя, мы — жанчыны-раўналеткі, хутка перасунемся за мяжу трыццаці пяці гадоў. Пачувацца дзеўчынёхамі насуперак прыродзе — не з нашым веданнем жыцця. З узростам актрысе прапануюць новыя ролі — Афелія пераўвасабляецца ў Гертруду, Паўлінка — у Альжбэту, Герда — у Снежную каралеву...**

— Прыемна, калі больш за дваццаць пяць гадоў удзячныя гледачы мне не даюць нават пасля спектакля. Не ўсё залежыць ад трэнінгу ды заняткаў спортам; унутраны стан напісаны, адбіты на тварах. Шчыра раю не рабіць адзін аднаму паскудстваў — сцэна іх толькі ўзбуйніць у асобе. З цягам часу сябе можна і рабіць, і перарабляць. У які бок будуць глядзець ражкі вуснаў, як зморшчынкі па твары разбягуцца — ад самой жанчыны залежыць. Трэба толькі працаваць, не спыняцца. А што да новых якасцяў... Мо я ўжо і падышла да скрутных перамен: два гады без аніводнае новае ролі. Два гады. Рэпецірую нештачкі ...сама з сабой. Мару сыграць у дзіцячай казцы. Але жаночыя праблемы актрысы выходзяць за межы тэатра, яны глыбейшыя. У тэатры, як і ў жыцці, мяне крыўдзяць адны і тыя ж з'явы, праявы, словы, стаўленне... Мы... захраслі ў старой эстэтыцы, у старых стасунках са сцэнай, у старых дачыненнях (апошняе, праўда, не такое драматычнае для нашага мастацтва). Час вымагае перамен і самых тых, хто на сцэне драматычнай, перафразуючы Пушкіна.

**— Ці знаходзіўся драматург, які хацеў бы напісаць для цябе п'есу?**

— Хіба У. Савуліч. Пасля прэм'еры свайго "Сабакі з залатым зубам" на "Вольнай сцэне", — яна тады месцілася на нашай малой сцэне. Спадзяюся, што піша...

**— Твой дзед, бабуля, бацька, муж — усе зазналі купалаўскай сцэны. Нават дачушка ўжо выходзіць у дзіцячых ролях. Смяюцца: ты, маўляў, нарадзілася, умеючы па сцэне хадзіць. Два гады без роляў — гэта трывожны званок?**

— Усім маім сцэна даставалася цяжка. Усе мусілі вычэкваць шанцунак, выпадак, лёс. Але — з вонкавай лёгкасцю, спрытам, радасцю, нават з шыкам. Я сама дрэнчуся над пытаннем — чаму без роляў. Або не магу змяніцца? Або ўжо прызвычаіліся да мяне і не бачаць? Больш прыемна, вядома, засведчыць, што досвед маю ўжо вялікі, а старэчаў іграць яшчэ не патраплю. Бо рана. Баюся, аднак, што акцёрская занятасць... рупіць тэатру ўсё менш і менш. Бо менш і менш (з розных прычын) увасабляецца на сцэне.

**— А кіно, тэлебачанне?**

— Працавала і працавала б з двума беларускімі рэжысёрамі. З Віктарам Шавялевічам і Уладзімірам Бокунам. Яны ведаюць мяне, бяруць без так званых папярэдніх спробаў (пасля якіх, трэба сказаць, я гублю веру ў сябе, — прытым, што і так не надта добра да сябе стаўлюся і мне гэта замінае жыць). Але... Працаваць з Шавялевічам перашкодзіў побыт, дакладней, не дужа дысцыплінаваная адміністрацыя здымачнае групы, а Бокун апошнім часам не ў Беларусі працуе. Але ж абодва — вельмі тэатральныя людзі. Не толькі таму, што няблага ведаюць тэатр, вучыліся тэатральнай рэжысуры і, здаецца, маглі б спраўдзіцца і на сцэне. Яны акцёраў любяць і вызначаюць — праз тэатр...

**З Зояй БЕЛАХВОСЦІК гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея ІЛЛІНА*

Тэлебачанне

# ПРАВА АЦАНІЦЬ ПАДЗЕЮ

***Кіраўнік курса тэлерэжысёраў Беларускай акадэміі мастацтваў спытаўся ў студэнткі Тацяны СОКАВАЙ, дзе б яна хацела працаваць і яна адказала, што хоча... рабіць навіны. Запала маўчанне. Маўчанне, у якім чулася яшчэ колькі пытанняў — пра жаночыя дзёвацтвы, досвед, жыццёвыя і вытворчыя варункі... На выпуску пытанняў не было, бо як вядучая і шэф-рэдактар Сокава адметна вызначылася разам са сваёй праграмай "Эканамікст" незалежнай тэлекампаніі "ФІТ". Перадача ўжо атрымала і грант Фонду Сораса як адна з пераможцаў конкурсу недзяржаўных тэлевізійных праграм.***

**— Тацяна, усе навіны свету, у тым ліку і эканамічныя, аддаюць перавагу наўпроставаму эфіру...**

— Мы, на жаль, пакуль што не маем магчымасці так працаваць, хоць і стараемся не пазніцца. Былі выпадкі, калі замест перабіўкі цітрамі падавалі канец якой-небудзь гісторыі, сюжэта. Часам, і гэта ўжо заўважылі, я працую не ў студыі, а, скажам, у аэрапорце, на вакзале, на асамблеі дзелавых колаў... Ашчаджаю час. Бо для практычнага карыстання ведамі і новага досведу ў галіне эканомікі (а перадача прызначана менавіта для гэтага) перадусім трэба ўмець яго, час, цаніць.

**— А што ўяўляе сабой "Эканамікст", мовім так, па-за эфірным ды мантажным (жорстка абмежаваным) часам?**

— "Эканамікст" — гэта каманда, хоць апошнае слова і застаецца за мною. Рэжысёр — Віталь Кінчак, выпускнік, дарэчы, Універсітэта культуры, — першы сядае за мантаж і апошні падымаецца. Разам мы думаем, што да дасканаласці нам яшчэ далёка, затое вызначана, да чаго трэба імкнуцца. Я ўжо казала, што любую навіну можна падаваць з двух пунктаў гледжання (сама меней). Наша задача — давесці іх да гледача, звёўшы на нішто свой каментар. Дарэчы, ён у навінавай праграме часцей за ўсё проста залішні. Хочам пакінуць гледачу права самому ацаніць падзею. Вядома, свой пункт гледжання на любую падзею ды з'яву, свае ацэнкі ў мяне ёсць, але... Я не маю права даводзіць іх да гледача. І калі ацэньваць адваротную сувязь перадачы, дык людзі, якія пазбягалі раней з ёй (са мной) кантактаваць, здаецца, зразумелі: калі пра падзею, з'яву, здарэнне маўчаць, дык людзі (грамадства) самі дадумаюць, самі пракаменціруюць яе — з чуткамі, плёткамі, прыблізна або фантастычна. Бо гэта — натуральная чалавечая ўласцівасць. Балазе, адказныя асобы цяпер... адказваюць "Эканамiксту". І вялікай праблемы выцягнуць кагосьці на інтэрв'ю ўжо няма.

**— Хто адказвае за дакладнасць звестак у вашай праграме?**

— У газетах часам пішуць: адказнасць нясе аўтар. Той, хто пісаў артыкул, нарыс, нататку. Друкаваны тэкст аўтар можа і аспрэчыць (маўляў, рэдагаванне, карэктарскі недагляд), а на экране ўжо не памылішся — з чыіх вуснаў вылятаюць слоўцы. Мая адказнасць — перш-наперш за тое, наколькі трапна (карэктна) я задам пытанне. Бо пытанні ж, бывае, і правакуюць, і крыўдзяць...

**— Вось сітуацыя: раптам на мантажы вынікае... адно-адзінае, не зададзенае пытанне, адзін-адзінюткі недаатрыманы адказ, які сам просіцца на экран. Вы можаце ўзяць на сябе адказнасць і даць яго ў эфір?**

— Не. Нам вельмі дарагія ўсе, хто супрацоўнічае з перадачай. Як я стаўлюся да кожнага з іх, паверце, няважна. Самае важнае — іхні давер. Ён гарантуе інфармацыю.

**— "Эканамікст" — не пастановачная праграма. Як вы змагаецеся з аднастайнасцю відэашэрагу? Падзеі ў свеце людзей справы заўжды вонкава падобныя; інтэрв'ю — чалавек у кадры, не больш...**

— Ёсць міжнародныя стандарты навінавых праграм (наколькі буйным планам мусіць быць паказаны той, каму задаюць пытанні і да т.п.). А чалавек у кадры сам па сабе заўжды цікавы: ён можа казаць адно, а вочы — іншае... Задача апаратара ўсё гэта не прапусціць, заўважыць, але зважаючы, мовім так, на пратакол: як пасадзіць чалавека, як асвятліць... Што да паказу дакументаў (гэтага асабліва вымагае гаворка пра міжнародныя сувязі), тут наш рэжысёр мудруе... Ёсць і фотатэка, і відэа.

**— Да якой ступені "Эканамікст" карыстаецца дапаможнай — не арыгінальнай — інфармацыяй з самых разнастайных крыніц?**

— Цяпер — амаль не карыстаецца. Праграма амаль арыгінальная. Тое, што навіны — аблічча тэлекампаніі, не намі вызначана. "ФІТ" — тэлекампанія маленькая, мы — у раскошы сяброўскіх дачыненняў. Наша перавага, радасць працы яшчэ і ў тым, што мы, напэўна, маем права памыляцца. Бо... вельмі й вельмі маладыя. Сваю дзейнасць разглядаем не як вынік, не як фінал, а як працэс, шлях, каляіну...

**— Тацяна, вы ў свой час былі студэнткай архітэктуры Політэхнічнай акадэміі. Падагульнена кажучы, "архітэктурныя мазгі" — налаўчонасць, спанатранасць, — вялікая дапамога для тэлебачання?**

— "Архітэктурныя мазгі" — гэта комплексны падыход да ўсяго з улікам... усяго: адкуль дзьме вецер, адкуль падымаецца сонца, якога колеру сцены ў пакоі, дзе — кафля, дзе — масніцы... Калі б я не мела падрыхтоўкі архітэктурнага факультэта, дык Акадэміі мастацтваў, напэўна б, не скончыла... Навіны, заўважым, таксама фармуюцца з асобных сюжэтаў ды вымагаюць комплекснага падыходу. Асабліва навіны эканамічныя. Драматургія сюжэта зусім неабавязкова мусіць грунтавацца на канфлікце... недраматургічным. Двух пунктаў гледжання, пытання ў цітрах або проста ўсмешкі вядучай абсалютна дастаткова для вобраза перадачы...

**— Усмешкі вядучай? Часам усміхнуцца ў кадры — самае складанае, па сабе мяркую...**



— Нас наведвалі заходнія калегі, і асноўным пытаннем да мяне было "чаму вы так мала ўсміхаецеся?". Я намагалася ім патлумачыць, маўляў, усё, пра што вяду гаворку з экрана, не дужа смешнае, альбо зусім не вымагае ўсмешкі... Але задумалася. І... стала ўсміхацца часцей. Бо не ўсё ў нашым жыцці гэтак блага ды дрэнна як часам здаецца. Рынкавая эканоміка — зусім неабавязкова хаос ды рэзрух, а бізнесоўцы — часцей за ўсё не злодзеі і не жулікі. Калі б мы больш зважалі на эканамічную гісторыю, мы б усведамлялі, што сённяшні наш стан — натуральны, бо... адпаведнае нам самім сённяшнім. Праблемы ёсць і будуць, але ж у кадры... трэба трымацца. Як у жыцці. А на канец кожнай перадачы стараюся прыберагчы што-небудзь станоўчае, радаснае. І толькі тады... радуюся сама.

**З Тацянай СОКАВАЙ гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Віт. АМІНАВА*

## ЯК СУСЕДЗІ З СУСЕДЗЯМІ

**Творчыя сувязі паміж смаленскімі і віцебскімі пісьменнікамі былі некалі цеснымі і плённымі. Дастаткова нагадаць, што яны перакладалі адзін аднаго. Пераклады з беларускай на рускую мову друкаваліся ў перыядычных выданнях Смаленшчыны, а з рускай на беларускую — на Віцебшчыне. І калісьці цэлы нумар часопіса "Братэрства", які выходзіў у выдавецтве "Мастацкая літаратура", быў аддадзены перакладам вершаў смаленскіх паэтаў і празаікаў. У гэтым творчым працэсе прымалі ўдзел Уладзімір Папковіч, Алесь Жыгуноў, Анатоль Канапелька, Пятро Ламан, Барыс Беляжэнка і многія іншыя літаратары Віцебшчыны.**

**І ці не ўсе яны ў свой час гасцявалі на зямлі суседзяў. А ў Віцебску, Полацку, Наваполацку добра адчувалі сябе смаляне Уладзімір Прастакоў, Аляксей Мішын, Ніна Сямёнава, Віктар Смірноў, Юрый Пашкоў...**

**Нядаўна ў рамках гарадскога свята творчай інтэлігенцыі Віцебска "Сузор'е муз-96" тут гасцявалі празаік, сакратар смаленскай арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі Ніна Сямёнава і паэт, дырэктар тамашняга выдавецтва Аляксей Мішын. У час сустрэчы Н. Сямёнава і сакратар Віцебскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў А. Салтук абмеркавалі планы далейшага творчага супрацоўніцтва. Першай пазнакай ажыццяўлення іх стала паездка віцебскага празаіка Франца Сіўко на святкаванне 86-х угодкаў з дня нараджэння Аляксандра Твардоўскага.**

**А. САКАЛОЎСКІ**

## З ЛЮБОЎЮ ДА ТВОРЧАСЦІ



**Сельскія майстрыхі, яны ж настаўнікі ў школе народнай творчасці, што створана ў вёсцы Ставок Пінскага раёна, навучаюць дзетак старадаўнім рамёствам — ткацтву, вышыванню, вязанню, вырабу дываноў метадам выбівання. З 30 вучняў, якія наведваюць заняткі ў школе, многія ўжо выступаюць са сваімі працамі на выставах, абяцаюць стаць сапраўднымі майстрамі.**

*На здымку: настаўнікам у класе вышыўкі работніца мясцовага медпункта Валянціна Іванаўна Барысевіч стала невыпадкова. Яна любіць вышываць сама і вучыць гэтаму сельскіх дзяцей.*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## ЯЕ ВУЧЫЎ ЯКУБ КОЛАС



**На традыцыйнвй выстаўцы народнай творчасці ў Ганцавічах прадстаўлена 29 ручнікоў, выробленых у першай палове стагоддзя, самаму старому з якіх 100 гадоў. А ткала яго былая вучаніца Якуба Коласа Тэкля Зянько з вёскі Люсіна. Прынесла ручнік на выставу яе праправнучка Марыя Літвіновіч. Далейшы лёс экспазіцыі ў руках работніц раённай бібліятэкі (на здымку) Соф'і Піваварчык, Алены Ленес і Святланы Курылік.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

# М. ГРЫБ: "УЛАДЫ ПРЭЗІДЭНТУ ХАПАЕ..."

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

краіны, дык для маладзейшых — сакратароў ЦК ПКБ Калякіна, Новікава, Чыкіна і некаторых іншых — дыктатарскія манеры Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі — нож востры...

**— І ўсё-такі знамянальна, што сярод падпісантаў так званай "заявы сямі", аўтары якой — прадстаўнікі шэрагу палітычных партый і рухаў краіны звяртаюцца да прэзідэнта з прапановай сабрацца за "круглым сталом", каб разам абмеркаваць шляхі вываду краіны з палітычнага і эканамічнага крызісу, стаяць прозвішчы першага сакратара ЦК КПБ Сяргея Калякіна, старшыні Аграрнай партыі Сямёна Шарэцкага і аднаго з лідэраў БНФ Юрыя Хадыкі. Праўда, спадар Лукашэнка сказаў, што ні за "круглым", ні за "квадратным", ні за якім іншым сталом ён ні з кім сустракацца не збіраецца...**

— Гэта яшчэ адно сведчанне палітычных амбіцый прэзідэнта, які трымае курс на канфрантацыю ў грамадстве, падаўленне ўсялякага іншадумства. Але "круглы стол" адбыўся і без Аляксандра Лукашэнкі. І ўсяму свету стала ясна — хто дбае аб паразуменні ўсіх галін улады, а хто выступае супраць гэтага.

Днямі на маё імя прыйшоў адзін дакумент, спрацаваны ў нетрах адміністрацыі прэзідэнта. Прысвечаны ён скліканню задуманага камандай Лукашэнкі так званага Беларускага нацыянальнага кангрэса.

**— У піку "кругламу сталу"?**

— У "піку", як вы кажаце, не толькі "кругламу сталу", а і Канстытуцыі краіны, існуючаму заканадаўству.

**— Што гэты кангрэс будзе сабой уяўляць?**

— На яго мяркуецца запрасіць ні многа, ні мала — 5—6 тысяч чалавек.

**— Кангрэс-мітынг?**

— Амаль што. Фарміравацца кангрэс будзе наступным чынам: тысяча дэлегатаў будзе прадстаўляць працоўныя калектывы Мінска, па васемсот ад кожнай вобласці, плюс прадстаўнікі грамадскіх арганізацый ветэранаў, жанчын, моладзі, плюс прэса, плюс госці... Цэнтральная падзея кангрэса — выступленне на ім са зваротам да народа прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі. Натуральна, зварот будзе прысвечаны маючаму адбыцца рэферэндуму. Як і выступленні дэлегатаў. І, вядома, усе падрыхтаваныя прамоўцы выкажуцца за правядзенне рэферэндуму. Але яго арганізатарам гэтага будзе мала, яны мяркуюць перавесці працу кангрэса ў чыста практычнае рэчышча. На ім будуць сфарміраваны абласныя, гарадскія і раённыя структуры, якія пад кіраўніцтвам выканаўчай улады і зоймуцца арганізацыяй усенароднага рэферэндуму.

**— Але ж па Канстытуцыі арганізацыяй выбараў і рэферэндумаў павінна займацца Цэнтральная выбарчая камісія і яе падраздзяленні на месцах...**

— У дакуменце, пра які я апавядаю, пра Цэнтрвыбаркам не сказана ні слова.

**— Хто ж тады будзе сачыць за тым, каб вынікі рэферэндуму не былі сфальсіфікаваны?**

— Мабыць тыя, хто яго праводзіць... Цяпер паслухайце далей. У артыкуле 149, часткі 2 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь запісана, што "Змяненні і дапаўненні Канстытуцыі могуць быць праведзены праз усенародны рэферэндум, калі за іх прагаласуе большасць грамадзян, якія ўнесены ў спіс для галасавання". Зараз прэзідэнцкая каманда прадпрымае захады, каб гэтую норму змяніць: лічыць унесеныя ў рэферэндум пытанні прынятымі, калі за іх прагаласуе больш паловы (50 працэнтаў плюс адзін голас) грамадзян, што прынялі ўдзел у выбарах. Але ж каб увесці такую норму, трэба спачатку ўнесці змены ў згаданы вышэй артыкул 149 Канстытуцыі. А ў нас што атрымліваецца — спачатку прымаюць закон, а потым прыводзяць у адпаведнасць з ім Канстытуцыю.

**— Я перакананы, што лістападаўскі рэферэндум задуманы з адзінай мэтай — "адрэдагаваць" Канстытуцыю так, каб яна забяспечвала неабмежаваную ўладу прэзідэнта. Астатнія пытанні, унесеныя ў яго, нешта накшталт гарніра. Адразу кідаецца ў вочы іх выпадковасць, ва ўсякім разе — гэта не праблемы, якія трывожаць грамадства ў першую чаргу. Згадаем, што напачатку прэзідэнт меркаваў паставіць на рэферэндуме і пытанне аб адносінах да прасоўвання НАТА на ўсход, ды потым, відаць, яму падказалі, што пытанне штучнае, надуманае. Што пытацца ў той жа бабулі, як яна ставіцца да паводзін таго НАТА, пра якое яна ніколі не чула? Здзек са здаровага сэнсу. Затое мяркуецца зрабіць апытан-не насельніцтва на прадмет яго адносін да смяротнага пакарання. І без рэферэндуму зразумела, што пры цяперашнім разгуле злачыннасці, калі ад рук забойцаў гінуць сотні людзей, большасць грамадзян будзе супраць адмены смяротнага пакарання. Як і сам прэзідэнт, пра што ён неаднойчы заяўляў. Але, паставіўшы гэтае пытанне, Аляксандр Рыгоравіч зрабіў, мне здаецца, адзін хітры манеўр. У тым жа выступе ў Гродне, гаворачы пра рост злачыннасці, ён, як бы між іншым, сказаў, што такая ўплывовая міжнародная арганізацыя, як Савет Еўропы, абумоўлівае прыём новых краін адменай у іх смяротнага пакарання. Як вядома, дасюль дзверы Савета Еўропы перад Беларуссю былі моцна зачынены, і няма ніякіх прыкмет, што сітуацыя з гэтым у бліжэйшы час зменіцца, што моцна б'е па міжнародным аўтарытэце нашай краіны. Дык вось, ці не разлічвае прэзідэнт, атрымаўшы падтрымку народа ў захаванні і надалей смяротнага пакарання, заткнуць раты сваім апанентам, парываць крытыку сваёй знешнепалітычнай палітыкі? Маўляў, так, гэта дрэнна, што нас не прымаюць у Савет Еўропы, але я тут ні пры чым — народ наш супраць адмены смяротнага пакарання, а апошняе слова заўсёды за народам.**

— З вамі, Міхась Маісеевіч, можна пагадзіцца. Сапраўды, адна з умоў прыёму краін у Савет Еўропы — адмена ў іх смяротнага пакарання. Але, падкрэслю — адна з умоў. Прытым, не самых галоўных. Я прысутнічаў на пасяджэнні Савета Еўропы ў Страсбургу ў час прыёму туды Расійскай Федэрацыі, дзе, як вядома, смяротнае пакаранне ўжываецца. І нічога, прынялі, праўда, запісаўшы, што пры наяўнасці спрыяльных умоў расіяне абавязваюцца смяротнае пакаранне адмяніць. Не адменена смяротнае пакаранне і на Украіне, якая таксама прынята ў гэтую міжнародную арганізацыю. А прынята таму, што тут захоўваюцца асноўныя дэмакратычныя свабоды і правы грамадзян, што і з'яўляецца галоўнай умовай прыёму ў Савет Еўропы.

**— Цэнтральнае пытанне рэферэндуму сфармулявана так: "Ці падтрымліваеце Вы Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь у новай рэдакцыі?" Відаць, лічыцца, што насельніцтва краіны ведае гэтую "новую рэдакцыю" на зубок? Ну, добра, ухваліла яе? Што далей?**

— Што далей, я не ведаю. Вярхоўны Савет прымаў Канстытуцыю не ў цэлым, не гамузам, а паартыкульна. І часта спрэчкі і дыскусіі па асобных артыкулах працягваліся не адзін дзень. А як цяпер? І што будзе, калі паасобныя артыкулы ў новай рэдакцыі не знойдуць падтрымкі большасці дэпутатаў? А, між тым, зараз ідзе беспрэцэдэнтная апрацоўка дэпутатаў па абласцях з мэтай схіліць іх да падтрымкі рэферэндуму. Праводзяцца з гэтай мэтай розныя нарады, "накачкі", людзей запалохваюць і да т. п.

**— Новая рэдакцыя Канстытуцыі прадугледжвае і стварэнне двухпалатнага парламента. Калі я не памыляюся, ніжняя палата будзе складацца з цяперашніх дэпутатаў Вярхоўнага Савета, а верхняя — з прадстаўнікоў выканаўчай улады на месцах. Гэта значыць, з прызначаных самім прэзідэнтам.**

— Адразу скажу, што двухпалатны парламент для нашай невялікай краіны — недазвальяльная раскоша. У той жа час прэзідэнт увесь час паўтарае, што і 260 дэпутатаў, якія, паводле Асноўнага закона, павінны ўтвараць Вярхоўны Савет, для нас замнога. Можна абысціся і меншай колькасцю, хопіць і двухсот (цяпер у нашым парламенце 199 дэпутатаў і неабходна давыбраць неабходную колькасць).

**— Але ж спадар Лукашэнка "паабяцаў", што ніякіх давыбараў не дапусціць...**

— Але ж і гэта з'яўляецца грубым парушэннем Канстытуцыі, паводле якой кожны дэпутат вышэйшага органа заканадаўчай улады павінен прадстаўляць у ім пэўную частку выбаршчыкаў. Я, да прыкладу, абраны ад 30 тысяч выбаршчыкаў Дзятлаўскай выбарчай акругі. Г. зн., што я іх прадстаўнік у Вярхоўным Савеце, дэлегую тут іх інтарэсы. У той жа час я не магу несці ніякай адказнасці перад выбаршчыкамі, скажам, горада Мінска, дзе больш як 20 выбарчых акруг не абралі сваіх прадстаўнікоў у Вярхоўны Савет. Гэта значыць, што іх канстытуцыйныя правы праігнараваны.

Што датычыцца двухпалатнага парламента, пра які мы завялі гаворку, дык ён патрэбны толькі прэзідэнцкай уладзе, каб лягчэй было дыктаваць сваю волю заканадаўцам. Яго ж выказванні наконт таго, што пасля рэферэндуму стары, але рэарганізаваны Вярхоўны Савет будзе захаваны, не больш як чарговы падман. Упэўнены, што пасля рэферэндуму Вярхоўны Савет 13-га склікання будзе распушчаны, як неадпавядаючы новай Канстытуцыі. Па сутнасці, скасоўваецца і пасада Старшыні Вярхоўнага Савета, г. зн. чалавека, які па Канстытуцыі пры пэўных абставінах павінен браць на сябе паўнамоцтвы кіраўніка краіны. А наогул, я павінен сказаць, што вялікай марай прэзідэнта з'яўляецца мець толькі парламент дэ-юрэ, а не дэ-факта.

**— Як раней пры савецкім часе...**

— Так, як пры савецкім часе. Каб дэпутаты два разы ў год на некалькі дзён з'язджаліся на сесіі, паслухмяна, аднагалосна праштампоўвалі ўказы прэзідэнта і раз'язджаліся па дамах.

**— Я баюся, што так яно і будзе...**

— І я баюся. Бо ўсё робіцца ў гэтым напрамку. Усё ставіцца з ног на галаву. І як гэтаму процістаяць, я не ведаю. Мы ж, фактычна, адрэзаны ад самых тыражных дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, не кажучы ўжо пра тэлебачанне і радыё.

**— Апошні двухгадзінны выступ прэзідэнта ў Гродне Беларускае радыё паўтарала тры дні запар. Не кажучы ўжо пра тое, што яго перадавала цалкам наша тэлебачанне.**

— А я, калі помніце, падчас свайго спікерства ў парламенце, будучы пазбаўлены айчыннага тэле- і радыёэфіру, вымушаны быў звяртацца да расійскага тэлебачання, каб з яго дапамогай мой голас быў пачуты ў нас, на Беларусі. Ці прадпрымуць такія крокі цяперашнія кіраўнікі Вярхоўнага Савета, я не ведаю.

Перад другім турам апошніх выбараў у Вярхоўны Савет я зноў зрабіў спробу выступіць на расійскім тэлебачанні, але расійскія тэлеканалы, якія запісалі маё выступленне, па загадзе прэзідэнцкай улады на гэтыя дні былі адключаны "для проведения профилактических работ".

**— Тое самае можа здарыцца і зараз. У грамадстве, асабліва ў дэмакратычнай яго частцы, спее думка, што адзіным выратаваннем ад надыходзячай дыктатуры можа стаць аб'яўленне ў парламенце імпічмента прэзідэнту. Як вы на гэта глядзіце?**

— Зрабіць гэта не так проста.

**— Што зрабіць гэта не так проста, я чуў ад вас, паважаны Мечаслаў Іванавіч, яшчэ ў мінулым годзе, калі вы займалі пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета. Тады вы казалі, што расстаноўка палітычных сіл у парламенце такая, што імпічмент не набярэ неабходнай колькасці галасоў. Але ж цяпер абстаноўка ў Вярхоўным Савеце іншая...**

— Спроба аб'явіць прэзідэнту імпічмент дасць яму падставу адразу разагнаць Вярхоўны Савет.

**— Канстытуцыя яму гэта дазваляе?**

— Ні ў якім разе.

**— А хіба майскі мінулага года рэферэндум не даваў прэзідэнту на гэта карт-бланшу? Там, здаецца, было пытанне аб праве прэзідэнта распусціць парламент, калі той будзе сістэматычна парушаць Канстытуцыю краіны, і прызначыць новыя выбары?**

— Так, такое пытанне было там, але мела толькі дарадчы характар.

**— Можна не сумнявацца, што ў новай рэдакцыі Канстытуцыі такое права будзе прэзідэнту дадзена не ў дарадчай форме. І тады песенька Вярхоўнага Савета будзе спета.**

— Яна і так спетая.

**— А мо задаволіць усе патрабаванні прэзідэнта, даць яму ўлады, колькі ён хоча?**

— Разумею вашу іронію. Не, улады яму хапае, трэба толькі ўмець ёю распарадзіцца.

**— Дзякуй, Мечаслаў Іванавіч, за згоду сустрэцца і пагаварыць на такую балючую тэму.**

***"А што йта тамака ў Сцёпчыхі ў гародзе расцець такое?" — Што адбываецца ў суседніх з беларускаю літаратурах? Як гэта літаратурная рэальнасць выглядае зблізку і ці ёсць яна ў наяўнасці наогул? Пытанне не проста падаецца цікавым альбо цікаўнасцю пакліканым — час ад часу яно й карыснае таксама. Абагульнены (але тым больш трапны, аб'ектыўны), з густам зроблены крытычна-мастацкі эцюд Інэсэ Трэйманэ дае магчымасць не толькі на хвілю "зазірнуць праз плот", але й паспрабаваць зверыць гадзіннікі"; акрэсленая ж сітуацыя ў сучаснае латышскай прозе шмат у чым нагадвае стан усёй балтыйскае літаратуры сённяшняга дня.***

**ПЕРАКЛАДЧЫК**

Інэсэ ТРЭЙМАНЭ

# ШТО АДБЫВАЕЦЦА?

*"Дзе мастацтва? У якім месцы? Пакажыце мне яго! — Ён усхвалявана акідвае поглядам стол і акно і нават засоўвае нос за шафу. — Ведаеце — мастацтва няма! Нідзе не магу яго знайсці! Можа, нехта ўзяў і знёс? Дзе гэта вашае мастацтва, шаноўная?"*

Рычардас ГАВЕЛІС. "Віленскі покер"

Раніца. Я сяджу за сталом і праз кухоннае акно гляджу, як сонца асвятляе дахі касымі промнямі, як голуб лена ўзмахвае крыламі. Я бачу, што яшчэ халаднавата. Па чым я гэта бачу? Па промнях, па палёце голуба? Дзесьці так ясна азываецца дзіцячы голас, ляпаюць дзверы, у звужанасці двара гул б'ецца з падвоенай моцай, але, насуперак яму, я ўлоўліваю і далёкі свісток цягніка таксама. І немаведама чаму я раптам ведаю, што дзень будзе цёплым, апошнія рэшткі снегу засквырчаць бы тлушч на патэльні і пацякуць у Бастыённы канал, пакідаючы зігзагамі нарытыя разоркі на ўсіх схілах, і мне ўсё будзе ўдавацца. Адкуль я гэта ведаю? Адзінае вытлумачэнне — акно. Яно пасылае мне свае знакі, сваіх вестуноў, я складаю іх разам і так праз акно ахопліваю ўвесь свет, "разумею" яго парадак і, можа, нават "сваё месца". Гэтаксама я шукаю сутыкненняў, сувязяў са светам і ў кнігах. І там таксама — галубы, дзеці, снег, водары, смуроды, лілеі, брудныя двары, ясныя нябёсы, п'яніцы, алавянныя салдацікі, пацукі, цішыня, жабракі, і так бясконца. Знак за знакам, знакамі поўнае паветра. Я іх удыхаю, хапаю рукамі як слізкіх рыб, спрабую смакаваць па адной і глытаць міскамі, але так і гэтак не прыкладу розуму, якую вестку шле мне гэты свет. Што адбываецца? Я спрабую адгадаць.

В е с т к а  п е р ш а я. Свет сцягваецца. Свет змяншаецца і крышыцца. Перавагу атрымліваюць малыя жанры — кароткая проза, мінірэцэнзія, верш адной фразы. У латышскіх раманах апошніх гадоў бракуе эпічнага кірунку, эпічнага мыслення; дый раманы крышацца на эпізоды, творацца як мантаж асобных апавяданняў. У апавяданнях маладых аўтараў надзвычай павялічваецца шчыльнасць вобразаў. У прозе Яніса Эйнфелдса, напрыклад, межы вобраза часта супадаюць з межамі сказа, у якіх вобраз і нараджаецца, і выходзіць замуж, і памірае, нашчадкаў зусім не пакінуўшы. Па сутнасці, гэта мікравобразы. Ідэалогія пяцелькі, апакаліпсіс шпількі. Гэты свет, можа, вястуе такім чынам пра нявер'е ні ўва што, што большае за чалавека, што абстрактнае. Гэты свет больш давярае рэчам, чым ідэям, больш целу, чым духу. Магчыма, гэта кампенсуе пачуццё бездапаможнасці — перад гвалтам, смерцямі мільёнаў, прыроднымі катастрофамі і спрадвечным глупствам. Але магчыма, што людзі проста стараюцца жыць у гэтае імгненне, цяпер, зараз і ва ўсёй паўнаце, з жаданнем адчуць кожнае імгненне, атрымаць ад яго асалоду. Бо спадчына мінуласці — разарваная і няпэўная, наперадзе — яшчэ больш цёмны змрок невядомасці. Святло сёння свеціць у пяцельку ды грае на вастрыі шпількі. Гэта — рэальнасць. А чаму б і не?

В е с т к а  д р у г а я. Ухіл ад ідэнтычнасці. Зараз проза надзвычай адчувальна палярызуецца. Частка (галоўным чынам аўтары старэйшага ўзросту) асабліва звяртаецца да аўтабіяграфічных жанраў, гісторыі роду і мясцін. Хто ведае, ці гэта толькі таму, што дагэтуль некаторыя перыяды гісторыі былі табуіраванымі і нельга было вымавіць боль, учынены вайной, ссылкамі, ЧК ды іншымі несправядлівасцямі. З пункту ж погляду мастацтва гэтая проза часта застаецца на ўзроўні хронікі адной сям'і, роду або рэгіёна. Адзіная з гісторый жыцця, якая магла б застацца і не запісанай, усё ж запісана. Чаму менавіта зараз? Чаму такая інтэнсіўная гэта патрэба? Магчыма, гэтая частка прозы неўсвядомлена рэагуе на процілеглую тэндэнцыю — жаданне страціць сваю тоеснасць, збегчы з пастак часу і прасторы, выбавіўшыся з самога сябе як з паліта і стрымаўшы толькі тэкст per se. Тэкст, у якім ні эпоха, ні асяроддзе, ні нацыянальнасць не маюць па-сапраўднаму значэння. Эпоха — надчасавая, асяроддзе — казачнае, нацыянальнасць — змешаная. Усё як у Вавілоне. Магчыма, гэта таксама ўратаванне ад няпэўнасці і бездапаможнасці перад тварам свету. Уратаванне ў мімікрыі. Праява недаверу і расчаравання. Бо годзе ўжо літаратура класіфікаваная, годзе ўжо час ды ўлада цягнулі яе на свае калодкі. Досыць! Літаратура сыходзіць належаць самой сабе.

В е с т к а  т р э ц я я. Хацелася б патрапіць назад у Рай. Перш, чым пакаштаваць з Дрэва Пазнання дабра і зла, чалавек быў нявінным і гарманічным. А потым свет раскалоўся, набыў дынаміку супрацьпастаўленняў, святла і цені. Зараз чалавек адчувае стому ад бесперапыннай патрэбы ацэньваць, выбіраць, рашаць. Маладзейшая проза ідзе па гэтым шляху ў Рай, яна тэндэнцавана на этычны рэлятывізм. Да яе нельга падступіцца, нельга вытлумачыць паняццямі добры або злы, прыстойны або грэшны. Чалавек нібыта закінуты ў прастору без сістэмы каардынат, у прастору, дзе больш няма ні правага, ні левага боку, ні верху, ні нізу. Усё — аднакаштоўна, адносна, зменліва. Такая быццам бы прыкмета ўсяго постмадэрнавага грамадства — знікненне этычных крытэрыяў, ставячы на іх месца крытэрый функцыянальнасці. Магчыма, што і гэтак таксама чалавек бяжыць сам ад сябе, бяжыць ад розуму, каб вярнуцца ў першаснае вар'яцтва, па той бок дабра і зла. Але на самай справе якраз сістэма каардынат, уласнастворaная каштоўнасная арыентацыя — галоўны паказальнік адрознасці чалавека, вызначальнік яго тоеснасці. Гэтыя змены балючай за ўсё кранаюць крытыку, бо, па сутнасці, адымаюць у яе правы выказваць ацэначныя меркаванні. Так застаецца толькі апісальны жанр крытыкі, які тлумачыць літаратурны тэкст новым варыянтам такога ж самага тэксту. Аналітычная крытыка скурчваецца, асабліва адчувальна ў рэцэнзіях. Крытык, часта сам будучы пісьменнікам, працягвае прапанаваны аўтарам тэкст, ствараючы не рэцэнзію, а дайджэст апавядання (рамана).

В е с т к а  ч а ц в ё р т а я. Эстэтызацыя пакут, болю і смерці. Блізкасць або нават сплыванне кахання і смерці асабліва актуалізавалася ў культуры пачатку XX ст., калі гэтыя катэгорыі становяцца галоўнымі параметрамі разумення чалавечай экзістэнцыі. Можа, ад яшчэ больш старажытных часоў у памяці літаратуры застаўся распрацаваны іерархічна падзел жанраў на высокія (трагічныя) і нізкія (камічныя). Калі сённяшняя літаратура разыгрывае сваю некрафілічную карту, хто ведае, можа, яна неўсвядомлена ёсць дзіцем, што спрабуе выйграць прыз за тое, што добрая (высакародная) яна, бо — пакутуе. Пакуты і боль — як самакаштоўнасць, як уратаванне. Ад чаго? Хіба, і сапраўды, толькі й шчасця таго, тое толькі і ведаем, што цешыцца салодкабалючым усведамленнем, немагчымасці шчасця?

В е с т к а  п я т а я. Занадта хутка банальзуюцца словы і каштоўнасці. Варта нам толькі ўдыхнуць, каб вымавіць слова, як яно ўжо прарасло, распусцілася, рассыпалася ў тло і, на тысячы языках назойна качанае, згубіла сэнс. Дык лепш яго зусім не вымаўляць. Альбо яшчэ адняць у яго сэнс перш, чым слова само яго страціць, такім чынам высмейваючы свет ды аблапошваючы слова. (Якраз гэтак і робіць Яніс Эйнфелдс.) Тое ж самае тычыць і эмацыянальнага праяўлення. У боязі банальнасці літаратура ўхіляецца дэманстраваць катэгарычны эмацыянальны стан. Маладзейшая проза пераважна дыстанцавана, іранічна альбо разумова адчужана ад праяўлення пачуццяў. Пачуцці — разгубленыя, няпэўныя, хісткія, схаваныя. Дзеянне зазвычай экзальтаванае, незвычайнае або перверсіўнае, а эмоцыі застаюцца спакойнымі і роўнымі. Але ёсць выключэнні — Гундэга Рэпшэ і Валдыс Фелсбергс. Цікава, што на розных узроўнях, але абодва, здаецца, цалкам неўсвядомлена карыстаюцца ва ўсім свеце запатрабаванымі рэчамі — інтрыгуючым сюжэтам, хуткім дзеяннем і адназначна зразумелымі, чыстымі эмацыянальнымі станамі.

В е с т к а  ш о с т а я. Мы ніколі не зможам пагадзіцца між сабой. Адны будуць крычаць — Дзе мастацтва? У якім месцы? Пакажыце мне яго! Але мы не зможам паказаць яго, бо не ўзнікаюць крытэрыі. Адзін з варыянтаў — мастацтва (літаратура) — гэта канвенцыя. Тое, што мы, і не дамаўляючыся, дамовіліся ўспрымаць як літаратуру, — гэта і ёсць літаратура. Кожны час, пакаленне, месца пагаджаюцца пра нешта крышку іншае. Наконт кантэкстаў, наконт знакаў, што нам перадаюць сігнал — увага, капай тут, тут ёсць. Напрыклад, запіска на кухні: "Бульба ў духоўцы, дабаў падлівы". На кухонным стале гэта — тэкст запіскі. Нават калі мы гэты лісток укладзём у кніжку — між іншымі лістамі, што напоўненыя тэкстам, — ён усё-ткі не становіцца мудрэйшым, не робіцца літаратурай. Прынамсі, пакуль што не было такой канвенцыі. Ён застанецца "запіскай на кухонным стале", пакуль хто-небудзь не апрацуе яе паводле прынятых стандартаў — не ўпіша ў кантэкст, не падмяшае ў цеста апавядання ці рамана, не ўпрыгожыць спакуснымі разынкамі, каб потым, раскрыўшы вокладку кнігі, мы ўжо сваю папялушку й не пазналі. Гэта апавяданне, — сказалі б мы. — Гэта літаратура.

**Пераклаў з латышскай мовы Андрэй ГУЦАЎ**

З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

Павел САКОВІЧ

# "НА СВЯТА ЛЮДЗІ Ў ХРАМ ІДУЦЬ..."

## КУВАЛА ЗЯЗЮЛЯ...

**Іду лясной сцяжынкай з маці,
Птушыны хор наўкол пяе...
Зязюля пачала куваці,
Каб мы паслухалі яе.**

**Я ўжо лічыць гады сабраўся,
Ды маці за руку ўзяла,
Сказала, каб я не стараўся,
І шпарка з лесу павяла.**

**"Зязюлю слухаць не хапала, —
Нібы злавалася яна, —
Дзяцей па гнёздах раскідала —
Кувае ўсё жыццё адна".**

**А маці нас траіх расціла.
Яе пасля я зразумеў...
Ёй ліха з дзеткамі хапіла —
Ніхто аддзячыць не паспеў.**

**Яе праз пяць гадоў не стала...
Страшнейшай не было бяды.
Чаму ж ты ёй не накувала,
Зязюля шэрая, тады?**

## ВЕРБНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**На свята людзі ў храм ідуць,
А у руках перад сабою
Букеты вербныя нясуць
З усмешкай радаснай такою.**

**То "кветкі" першыя вясны —
Іх шмат расце па ўсіх дарогах,
Таму й абраныя яны
Для шанавання ўсімі бога.**

**Мне кроплі "коцікаў" заўжды —
Як слёзы светлыя спаткання...
А мо то слёзы — ад бяды?
Галгофы лютай прадчуванне?**

## СНЫ

**Былі ў маім маленстве сны,
Што ледзь не кожнай раніцою
Жадаў, каб ажылі яны
Хаця б часцінкаю адною!**

**Я прачынацца не хацеў,
Калі сон казачны з'яўляўся.
Ў жыцці я радасці не меў
І сон такі забыць баяўся.**

**Я рукі-крылы распраўляў
І узлятаў высока ў неба.
Там нават птушак абганяў,
Аблокі бачыў белым хлебам.**

**У снах маіх усё было:
Цукеркі, цацкі, булкі з макам.
У райскім садзе ўсё расло,
І я ад шчасця ледзь не плакаў.**

**Чаму фантазія мая
Мне гэта шчодра аддавала?
Яна ж — удзячны вельмі я —
Маё маленства ратавала!**

**Жыццё палепшыла пазней,
Ды сны цяпер другія бачу...
Зусім не тыя, што раней —-
Мне падмянілі іх, няйначай.**

**Цяпер мае такія сны,
Што аж малюся раніцою:
О каб не ажылі яны
Сваёй часцінкай ні адною!**

## СТАРЭЙШАЯ СЯСТРА

**Мне са старэйшай павязло сястрой, —
Тады мне два было, а ёй пятнаццаць, —
Яна як з лялькаю вазілася са мной,
І я надоўга з ёй не мог расстацца.**

**Яна прыгожай, чыстаю была,
За ёй бы хлопцы бегалі, няйначай...
Вайна тым летам губы апякла
Ёй пацалункам вогненным, гарачым.**

**Недавучылася сястра мая —
Вайна настаўніцаю ейнай стала.
Яе ж "урокі" брала ўся сям'я,
Ды выжыць як — яна не падказала...**

**Сваю сястру даўно я перагнаў
Узростам, сілай, вопытам жыццёвым.
За гэты час дабро і зло спазнаў —
Цяпер спаўна аддзячыць ёй гатовы.**

**Як прыйдзе момант непазбежны той,
Пайду адсюль я з вераю святою,
Што там, за таямнічаю мяжой,
Сустрэнуся... з малодшаю сястрою.**

## НАВАЛЬНІЦА

**Усё бліжэй фронт навальніцы,
Як рэха даўняе вайны...
І ветэрану ўжо не спіцца —
Адны відовішчы, не сны.**

**Зіхцяць маланкі, бліскавіцы..
Здаецца так, як і тады,
Душа сціскаецца, баіцца
Якой раптоўнае бяды.**

**Ва ўсім знаходзіш падабенства:
З маланкі вырвецца разрад,
Ударыць у зямлю з шаленствам —
Нібы ўзарвецца той снарад.**

**І зноўку грымнула так блізка —
Зямлю з-пад ног аж павяло,
І да яе хінешся нізка,
Ды ўжо адчуў, што пранясло...**

**А то якраз нібы "кацюшы"
Ударыць залпам агнявым,
Аж закладзе ад грому вушы,
На момант зробішся сляпым.**

**Як на вайне, — о, Божа правы! —
Цяпер ніяк не разбярэш,
Адкуль страляюць — злева, справа,
Дзе наш і дзе чужы рубеж.**

**...Ды сціхла ўсё ў адну мінутку.
Душой змярцвелай ажывеш...
Каб войны так сціхалі хутка,
Не пачыналіся каб — лепш.**

●

Дзіўны гэты народ — беларусы. Дзяржаўнага грунту *няма*, а яны *ёсць*... Праараслі, як трава ў топкім балоце, — не выкасіць...

●

Тое, што адбываецца ўнутры мяне, ужо адбылося звонку...

●

Травень. Поўдзень. Цяплынь ліпеньская... У шортах, голы да пояса, вару сабе яйка на абед...

Праз адчыненае насцеж кухоннае акно — раптам! — наплывае аднекуль зблізу мелодыя жалобнага пахавальнага марша, паступова запаўняючы ўсю прастору... Да адчування ўласнай адзіноты прымешваецца чуццё забытасці, пакінутасці...

Музыка чалавечай жальбы адыходзіць некуды далёка, сціхае...

Яйка пераварваецца...

●

Ужо гадоў сорак таму на жніве сярпом перарэзала маці сухажылле на ўказальным пальцы правай рукі. Так і не разгінаецца ён у яе з той пары. Перашкаджае гэтая, як яна кажа, загагуліна ў рабоце, асабліва дробнай — шыць, садзіць бульбу ці рассаду, пісаць... Праўда, з пісаннем у яе і без таго туга было, во, як зараз у мяне... Так, часцей за ўсё ў пенсійнай ведамасці...

А нядаўна скідвала з вышак у хляве цюкі з саломай, а шпагаціна з далоні — чырк! — і зачапілася за той палец сагнуты, за тую загагуліну, і ўвесь цяжкі, утрамбаваны машынай, цюк на тым пальцы няшчасным павіс над токам... Добра, што сама ўніз не абрынулася. Мяса да косткі зрэзала...

Палец гноіцца, рука распухла, дзеці далёка — няма каму пажаліцца і пашкадаваць няма каму...

Які электарат у прэзідэнта Лукашэнкі, Госпадзе, Божа мой — усё вытрывае, усё аплача, усё аплаціць!

У тэлефоннай размове кажу ёй: "Што ты, мама, пакутуеш столькі гадоў з гэтым пальцам!? Адсеяліся, час вольны да сенакосу, паедзь у раённую бальніцу ды няхай яго ампутуюць. З яго ніякай помачы табе, адна няўдобіца. Адрэжуць — лацвей будзе..."

Маўчыць, як пакрыўджаная, а пасля, бы вінаватая, кажа: "Што ты гаворыш, сынок, — ужо ж зажывае... Як гэта *сваё* адрэзаць? Сорак гадоў быў, то хай і будзе... Колькі таго жыцця... У *цэласці* памерці хачу..."

●

У прынцыпе, усё насельніцтва Беларусі вясковае. У вёсцы *яно* звыкла адгароджваць свае сядзібы платамі, тут — у горадзе — шкліць балконы. І гэтыя ўжо не вяскоўцы, а па-гарадскому кажучы, "дзярэўня". А цяпер, во, у іх яшчэ й лецішчы. Адным словам, у чужы гарод не палезуць, бо ў сваім хапае... Толькі не чапайце іх...

"Мая хата з краю" — лепш і не скажаш. Хоць з якога краю. Няхай сабе й Паўночна-Заходняга.

●

Сёння вечарам жонка насмажыла дранікаў. З мясам. Многа. Пульхныя. Сальныя. З падгарачкай... І са смятанай...

О, браткі мае, невыказны *цымус* па нашым часе!..

На добрых хвілін трыццаць абсалютна забыўся на прэзідэнта...

●

Усё мной пражытае жыццё як бы прыпынілася і, развітваючыся, глядзіць мне ўслед...

Так летнім надвячоркам адыходзіць ад чалавека яго цень...

●

Кожны сапраўдны Паэт, які хоча застацца ў гісторыі літаратуры, павінен быць здольным *завершыць* свой лёс геніяльна...

●

Канец працоўнага дня. Час пік. Спякота... У перапоўненым тралейбусе жанчыны пахнуць сабой... Не зважаючы на тое, мужчыны млявыя і апатычныя...

Кантралёр спакойна выбірае ахвяру...

●

Мужчыны, хоць і *глядзяць* на жанчын па-рознаму, але *бачаць* іх аднолькава...

●

Заходзіць у рэдакцыю маладая паэтэса. Паказвае вершыкі і — *сябе*... Яшчэ не стары рэдактар мітусліва прыкідвае: як бы *задаволіць яе* прэтэнзіі не друкуючы...

●

Пад вокнамі нашай хрушчоўкі адцвіла чаромха. Пачынае згасаць бэз і снежнымі купкамі ўбіраецца ў квет рабіна...

І ўсё гэта — там, унізе, пада мной, толькі апусці долу вочы... Аднак радасці былой ужо няма. Адцвіла даўно. Адбуяла. Толькі ржавы налёт журбы на высахлых вуснах...

Пяты *паверх* жыцця... У нашым доме *вышэй* ужо не жывуць...

●

Ёсць адчуванне, што раблю не тое, не тым жыву, трачуся на ілюзіі... Вось і сёння: чытаў чорт ведама што, хадзіў "туды — не ведаю куды", гаманіў абы з кім, піў каву на хворы страўнік, глядзеў тэленавіны з таго свету, курыў без меры, нешта крэмзаў без задавальнення...

Сорамна за такое жыццё перад уласным дзіцем. Праўда, ад гэтага сораму можна ненадоўга схавацца, прыкрыўшыся кавалкам хлеба, які нібыта зарабіў ты няведама ў каго няведама за што...

Дзесьці глыбока ў памяці трызняцца радкі латыша Іманта Зиедоніса:

**...От этого не умирают,**
**Так можно жить за годом год.**
**И многие не умирают...**

●

Вершы — гэта суб'ектыўны парадак слоў, непрыдатны для вуснай размовы...

Проза — гэта аб'ектыўны парадак слоў, прыдатны для чытання...

Літаратура — гэта тлумачальны слоўнік жыцця бяспамятнага чалавецтва...

●

Цікава, ці *расказваюць* дрэвы сваёй вясновай лістоце пра восень?..

●

На футбол хаджу з валідолам... Адно слова — *балельшчык*, хоць і рускамоўнае. Бо нашыя словы — аматар альбо *заўзятар* — гэтую даўнюю *хваробу* чалавецтва характарызуюць аддалена і аморфна...

●

Усё-ткі горад не агрубіў мяне дарэшты. Зноў пусціў выпадковую слязу, гледзячы нейкую меладраму па тэлескрыньцы...

Яшчэ не дабраў цынічнай мужнасці, каб адолець сентыментальнасць душы...

●

Сёння днём была навальніца. З бліскавіцамі, з громам... Але хутка скончылася. Стаяў з дачкой на балконе пад апошнімі кроплямі дажджу — цяжкімі, буйнымі...

Цёмна-шэрыя грозныя хмары грузна пасунуліся ў бок Масквы — і над Мінскам адразу пасвятлела...

●

Знайшоў у сваіх запісах такое: "І ў сямейным ложку можна спаць асобна..."

Нешта, відаць, з уласна-інтымнага, напісанае яшчэ да неўразумелай руска-беларускай *"Супольнасці"*...

●

Пазаўчора — суп. І ўчора — суп. І — сёння...

Нічога. Змірымся. Ператрываем. Пераварым. Перажывём...

Ёсць людзі, якія штодня пішуць вершы, і, магчыма, якраз яны пераживуць тых, хто піша прозу... А зрэшты, калі й наадварот...

Справа не ў супе...

●

У гэтым жоўтым будынку на Камсамольскай, як толькі туды трапляеш, апынаешся ў няяснай шэра-рудой і чорна-карычневай прастрацыі... Ці, можа, табе так здаецца ў тваім прыгнечаным стане.

...Бясконца доўгія калідоры з незлічонай колькасцю зачыненых дзвярэй. Ні душы... Лесвіца. Зноў такі ж калідор... Ні табе, нікому не чутны твае крокі. Няма рэха. Не адгукаешся сам сабе... Дзверы, дзверы... І ўсе зачыненыя. Усе і ўсё — за дзвярыма... Справа, на адной з іх, іранічна кідаецца ў вочы ярка-чырвоная шыльда: КАССА... І тут, як усюды, — нехта праце, нехта расплачваецца... Карацейшы калідор у тарцы ўпіраецца ў яшчэ адзін доўгі, паралельны таму, якім ты ўжо йшоў. Зноў цёмныя зачыненыя дзверы з вывешанымі на ручках таблічкамі: ИДЕТ ДОПРОС... На некаторых яны перавернуты адваротным пустым бокам: там ужо скончыўся допыт, зусім? для каго?..

Дзвярная ручка яшчэ цёплая. Цемнаваты пакой. Шэра ў ім і, відаць, сыра — у кутках на столі бурыя падцёкі. Сталы, крэслы, цёмна-фіялетавыя шторы... У дзвярах — свежа адрамантаваны і неахайна зафарбаваны вушак. Хто тут мог выбіваць дзверы?! Куды ён хацеў уцячы-выбегчы?! У гэты цёмны бясконцы калідор, што паралельна звязаны з такім жа бясконцым калідорам?..

На стале — кампутар. Трохі яснее на душы, усё-ткі атрыбут сучаснасці. Сядзім, гамонім... Даволі адукаваны, інтэлігентны малады чалавек насупраць... Палім. Задымліваем і без таго цьмянае святло дня.

І — раптам — у самым кутку, ля адзінага вакна, погляд мой натыкаецца на тумбачку. Старая дабротная тумбачка, але стальніца на ёй не драўляная, а каменна-гранітная ці мармуровая — тоўстая, цяжкая, слюдзянога колеру... На ёй — графін з вадою... І я ўсё, раз за разам, кідаю вачмі на тую стальніцу, груваcтую, акамянелую, што ўціскае лёгкую драўляную тумбачку ў падлогу. Мне падалося — на ёй кроў... Але — не, гэта проста так адшліфаваны да глянцу каменны зрэз... Падсвядома ўзнікаюць кніжныя і вусныя згадкі не маіх гадоў. ...Кузьма Чорны... Белы, як прасціна, твар, галава — на краі стальніцы...

Чарговае пытанне чалавека насупраць адцягвае ад навязлівых асацыяцый.

... Спалена паўпачка цыгарэт на дваіх. Няма чым дыхаць... Пара і гонар мець. Тым больш, гэтая гаворка пра літаратуру ў падобным месцы — як трава ў пустыні... У прынцыпе, яна нам абодвум да фені. Стаўлю подпісы на старонках кампутарнага друку — усё правільна, усё так, "верно", "согласен", "дополнений не имею"... Шэсць ці сем подпісаў. Любуецца. Подпіс у мяне і сапраўды прыгожы, неардынарны, можна сказаць, экзатычны. Не для такіх устаноў, канечне...

Здаецца, усё, можна ісці. Праводзіць мяне тым жа, вядомым яму і, магчыма, апастылелым, шляхам — адзін бы я адсюль ужо, пэўна б, не выйшаў... Лесвіца, доўгія шэрыя калідоры, дзверы... Ні чалавека, ні голасу, ні рэха... Мажны, наеты паставы забірае пропуск...

Адчыняю вузкую палову дзвярэй, і — вось, я на вуліцы!.. Вуліца ўсё тая ж — Камсамольская... Звыкаю вачыма да святла, удыхваю паветра — чыстае, свежае, халаднаватае... І ніякае яно не забруджанае, гэта пацвердзіць кожны, хто выйшаў адсюль. Гляджу на занураных, спешных, абыякавых гараджан... Няма радасці жыцця на іх тварах...

Госпадзе! Людзі, ды пагляндзіце вы на чалавека! Ён — выйшаў...

Праўда, там ужо перавернута таблічка і вызваліўся пакой...

●

Гасподзь справядлівы нават у тых выпадках, калі на наш зямны погляд, абыходзіцца з намі несправядліва.

Да прыкладу, Ён змаладу забраў здароўе ў Максіма Багдановіча, але ж прытым не забыўся надзяліць яго бессмяротным талентам...

Чаму так? Не чалавечае гэта разуменне... Не людское — але боскае.

●

Ужо год, як ануляванa наша гістарычна-дзяржаўная сімволіка. Аднак ні Пагоня, ні бел-чырвона-белы сцяг не зніклі з нашай памяці і нашых вачэй...

Вось і сёння. Зайшоў у тралейбус маладзенькі, высокі, злёгку прышчаваты курсант міліцэйскай школы. Усунуты з ног да галавы ў летнюю МУСаўскую форму. На галаве пілотка. А на пілотцы — кукарда з Пагоняй!..

Людзі — хто з непрыязню, хто з недаўменнем, хто з замілаваннем — не-не, ды кідаюць на яго позіркі... І ён гэта адчувае, раз-пораз азірацца, сябе неўпрыкмет аглядвае — што ж у яго не так, што не ў парадку? Пра Пагоню ў яго і задняй думкі няма...

Выйшаў ён каля Камароўкі і ўсё няўцямна стаяў там, насупраць Якуба Коласа, як *сам не свой*...

Што ж, такі лёс нашай сімволікі. Яшчэ доўга будзем да яе прыглядвацца, каб звыкнуцца і зжыцца з ёй...

●

Зноў — тралейбуснае...

Заходзіць у салон каля Дома друку маладзіца-негрыцянка — клубы, ах! — акруглыя, выпуклыя, танцуючыя... А да таго ж, што ў іх рэдка, — і тварам вабная, сімпатычная. Стала насупраць нашай сямейнай парачкі. Абоім пад трыццаць. Інтэлігентныя, гожыя... Ён як бы газету чытае, але міжволі, неўпрыкмет слізгае з газетнай старонкі па тых ладных негрыцянскіх клубах... Раз, другі, трэці... Ды ад жончынага вока і зрэнкі не схаваеш. Скмеціла і — штурхель локцем пад бок!..

Ды ўжо ж, такая жонка-прыгажуня сядзіць поруч, а ён лыпае-зырыцца на гэтыя чорныя, пэўна, потна-бліскучыя, прутка абцягнутыя сукнёй, негрыцянскія клубы! О-о-о...

Але што праўда, браткі, то і я сцвярджаю — не клубы то былі, а наркатычная музыка страсці! — вартыя пільнага вока сапраўдных мужчын...

Здараюцца, дзякаваць Богу, і ў наш самотны час маленькія зямныя радасці...

●

Днём як бы й не чуеш рову сотні матораў на вуліцах горада. А глыбокай ноччу дастаткова скрыгату тармазоў адной лядачай таксоўкі, каб праклінаць усю тэхнічную цывілізацыю...

Чалавек жыў бы спакойна, калі б яго не трывожылі ўласны розум...

●

Кожны мужчына яскрава і да інтымных драбніц памятае сваю першую блізкасць з жанчынай...

Таемнае не пазнаецца двойчы.

Усё астатняе — каханне, секс, сямейны абавязак і, — недаступная памяць таго...

●

У наш час, каб захаваць цнатлівасць душы, іншым разам для яе абароны трэба праяўляць фізічную агрэсіўнасць і вонкавую вульгарнасць...

●

Нешта апошнім часам сталі зневажаць майго сябра. Дайшло да таго, што ўжо й пысу расквасілі... О-хо-хо...

Шкада. Лепш бы на якім мітынгу дубінкай умянцілі — хадзіў бы героем... А так — ходзіць пакрыўджаны...

●

Памятай: штосьці сцвярджаючы, нешта аспрэчваеш...

●

Усю ноч наскрозь сяджу перад цёмным кухонным сталом пры святле настольнай лямпы...

Думаю... Пра што? Аб чым я адзінока думаю ўсё сваё жыццё?..

Пад рукамі разварот "ЛіМа". Чытаю Разанава, з якога вынікаюць асобныя сэнсы, знакі, сімвалы і знікае канкрэтны чалавек... Навáрыча, што насцярожана стаіўся ў начным закутку падтэкста сваёй кароткай світальнай прозы...

Пра што ж мы думаем?..

Як і ў навеле Навáрыча, святло за акном ужо рассейвае змрок і, здаецца, вось-вось, таемнае адкрыецца майму разуменню — так сіта адвейвае палову ад зерня...

Не, не... Гэта толькі паднебнае святло спускаецца на зямлю і высвечвае абрысы жывога, але не яго сутнасць... Змежваюцца, зліпаюцца векі вачэй... Непад'емны, нечалавечы цяжар адкрыць іх нанова...

Каб думаць? Пра што? Навошта?

У рэшце рэшт, і я, бяссонны, і тыя, што спалі, — усе будзем пэўна ведаць толькі адно — што была ноч...

О Гасподзь, навошта ж Ты стварыў чалавека, не адарыўшы яго спасцiжэннем сэнсу жыцця і смерці, апроч іх вобразаў — дня і ночы...

●

Мяне няма за што любіць — і гэта я ведаю.

Але мяне няма за што й ненавідзець — хоць у гэтым я не ўпэўнены.

●

Кожны чалавек уяўляе пра сябе больш, чым ён ёсць...

●

Усё-ткі ў маральным, свядома-беларускім пытанні я знаходжуся ў больш прывілеяваным становішчы, чым, да прыкладу, мае калегі Уладзімір Някляеў і Леанід Дранько-Майсюк, незалежна нават ад таго, што адбываецца наўкол і паўсюль...

Трэба ж было такому здарыцца, што выпаў мне гонар дажываць свой век на вуліцы Кастуся Каліноўскага! І што вы мне тут ні кажыце, а гэта не адно і тое ж, як жыць на вуліцы Ул. Леніна ці К. Маркса, няхай сабе і ў больш рэспектабельным раёне...

Ды, вось, хоць бы хвіліну назад — падпісваў на канверце свой зваротны адрас — і пачуваў сябе *так суверэнна*, што нават роспіс зрабіў разняволена-размашысты, не раўнуючы, як Багданкевіч на нашых дваццацітысячных купюрах...

●

Дзіўна, што прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Лукашэнка не мае тэрытарыяльных прэтэнзій да суседняй Літвы.

Ды ўзяць хоць бы тыя ж "Лукішкі" — ну ўжо гэта то бясспрэчна наша...

●

Кожнаму з нас — жывому — у час глыбокага роздуму, адчаю ці натхнення хочацца апынуцца сам-насам, пабыць *адсутным*...

Чаму ж, канаючы, у час свайго найвышэйшага зямнога акту, чалавек прагне *прысутнасці?*..

●

Ад'ехала на тыдзень малая дачка — і жыву як затурканы, як не цэльны, не поўны жыццём чалавек...

Мабыць, калі ў цябе з'яўляюцца прадаўжальнікі роду, то ні ты, ні яны ўжо не могуць быць незалежнымі адно ад другога.

Так творыцца своеасаблівы *эвалюцыйны арганізм вечнасці*, дзе — жыццё тваё ўжо *ёсць* не толькі тваім жыццём, як і смерць твая ўжо *не ёсць* тваёй смерцю...

●

Зайшла ў рэдакцыі гаворка на грамадска-палітычныя тэмы. Дранько-Майсюк, гартаючы кніжку паэзіі паляка Уладзіслава Бранеўскага, устаўляе свае пяць злотых: "А вось, хлопцы, Бранеўскі сядзеў пры ўсіх рэжымах! Чатыры разы ці, можа, больш..."

Не раздумваючы, кажу даўно асэнсаванае: найвялікшая мудрасць — гэта заставацца *чалавекам* пры ўсякім рэжыме і да таго ж, па магчымасці, *не адседжвацца*...

Уражанні

# ...ЯК ЛЮСТЭРКА АЙЧЫННАГА ДЫЗАЙНУ

На жаль, наш народ усё яшчэ мае даволі цьмянае ўяўленне аб тым, што гэта за мастацтва дызайну. І выстава "ІНТЭРДЫЗАЙН-96", якая праходзіла ў Мінску ў канцы чэрвеня, можна сказаць, яшчэ больш заблытала ў гэтым пытанні нашых шараговых грамадзян, якія пабывалі пад скляпеннямі Рэспубліканскага выставачнага цэнтра. Каля ўвахода наведвальнікаў сустракаў цэлы лес штучных кветак розных гатункаў і колераў, далей зацікаўленыя госці маглі сузіраць творы жывапісу ўперамешку з жаночымі ліфчыкамі, а побач з кніжнымі бестселерамі знаходзіліся заспіртаваныя карані і плады экзатычных раслін, прадстаўленыя батанічным садам; яшчэ далей вельмі прыгожыя жаночыя сукенкі, сшытыя, як ні дзіўна, выкладчыкам ігры на фартэпіяна, а па суседстве з імі — узоры шпалераў, якія дэманстравала адно з Мінскіх таварystваў з абмежаванай адказнасцю. Так, сапраўды шматграннае і дзіўнае, гэтае мастацтва дызайну!

Безумоўна, штучныя кветкі, жывапісныя палотны і заспіртаваныя плады раслін — для сваіх мэт рэчы каштоўныя і неабходныя. Але да дызайну, як бы шырока яго ні разглядаць, яны маюць занадта аддаленыя адносіны. Аднак пакінем гэтыя, так скажам, спрэчныя моманты экспазіцыі. Прызнаем: былі тут экспанаты, якія стопрацэнтна належаць да разраду твораў дызайну. Так, на выставе дэманстраваліся: мэбля, радыётэхніка, спартыўныя трэнажоры, мэблевая фурнітура і г. д., — рэчы добрай якасці, выдатнага таварнага выгляду. У асноўным яны прадстаўлялі вырабы замежнай вытворчасці, менавіта таму, напэўна, выстава і мела назву "Інтэрдызайн-96". Аднак усё, што дэманстравалася, мела выпадковы характар, у ім не праглядвалася якой-небудзь сістэмы. Рэчы адрывачна і выпадкова прадстаўлялі твар зарубежнага дызайну. Можна сказаць, што нашы сталічныя крамы сёння ў большай ступені адлюстроўваюць узровень сучаснага дызайну развітых краін. І натуральна, што ў гэтых адносінах выстава мела амаль нулявы вынік. Нездарма, напэўна, нягледзячы на бясплатны ўваход, людзі туды асабліва не рваліся.

Сярод масы экспанатаў можна было знайсці і творы нашага дызайну. Так, у выставе прынялі ўдзел некаторыя беларускія прадпрыемствы, прызваныя "па службовых абавязках" развіваць айчынны дызайн. У першую чаргу гэта Беларускі нацыянальны дызайн-цэнтр, арганізацыя, якая вось ужо трыццаць год (праўда, пад рознымі назвамі: спачатку Беларускага філіяла Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі, потым Беларускага інстытута дызайну) забяспечвала дызайнерскімі распрацоўкамі розныя галіны нашай прамысловасці. Аднак на цяперашняй экспазіцыі дызайн-цэнтр быў прадстаўлены больш чым сціпла. Некалькі макетаў вырабаў, сярод якіх, праўда, быў МАЗ-2000 "Перабудова", адна з найбольш праслаўленых работ беларускіх дызайнераў. Менавіта гэтая распрацоўка мела шумны поспех на Парыжскім аўтасалоне 1988 года. Але гэта — заслугі амаль дзесяцігадовай даўніны. Астатняя частка экспазіцыі дызайн-цэнтра ўяўляла сабой стэнды з фатаграфіямі распрацовак, якія нарадзіліся таксама зусім не ў апошнія гады.

Побач з экспазіцыяй Нацыянальнага дызайн-цэнтра размясціліся экспанаты Беларускай акадэміі мастацтваў, якія прадстаўлялі работы студэнтаў аддзяленняў дызайну, інтэр'ера, праектавання выстаў і рэкламы, шкла і керамікі, мадэлявання адзення. Трэба прызнаць, што ў экспазіцыі акадэміі былі паказаны цікавыя работы: мэбля арыгінальных форм, макеты ўборачнай тэхнікі для горада і пляжаў, прыгожыя шкляныя і керамічныя вырабы, выдатныя габелены і ўзоры жаночага адзення, памайстэрску выкананыя фотаплакаты. Аднак нельга сказаць, што на выставу трапілі самыя лепшыя работы студэнтаў. І тут падбор экспанатаў быў даволі выпадковы, ён не даваў колькі-небудзь пэўнага ўяўлення аб кірунку работы факультэта дызайну Акадэміі мастацтваў.

Саюз дызайнераў Беларусі на выставе быў прадстаўлены некалькімі творчымі дызайн-студыямі. Пры гэтым характэрна, што ніводная са студый не выставіла сапраўды дызайнерскія работы. Дэманстраваліся лялькі (дарэчы, зробленыя з вялікім майстэрствам), розныя нагрудныя знакі, выкананыя ці ў манеры "выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі", ці ў стылі "за веру, царя и отечество", а таксама афармiцельскія матэрыялы.

Як ужо было адзначана, асаблівай цікаўнасці выстава ў нашай культурнай грамадскасці не выклікала. Наведвальнікаў было няшмат. Характэрным фактарам з'явілася тое, што сарвалася канферэнцыя, якая ўваходзіла ў праграму правядзення выставы. На яе не прыйшло не толькі ніводнага жадаючага паслухаць даклады пра сучасны ўзровень развіцця дызайну, але і палова з запланаваных дакладчыкаў.

Усё гэта, канешне, невыпадкова. Выстава па сутнасці стала люстэркам сённяшняга становішча нашага дызайну. Ён аказаўся нікому непатрэбны, нікому нецікавы і бяссільны нешта зрабіць ў сённяшніх эканамічных варунках. Замежныя вырабы добрага і не надта добрага дызайну запаланілі прылаўкі нашых крамаў. Сапернічаць з імі па якасці айчынным вырабам — амаль безнадзейны занятак. Калі нашы дызайнеры і могуць стварыць праекты прамысловых вырабаў, па мастацка-канструктарскаму ўзроўню не горшыя за замежныя, то якасць нашай прамысловай вытворчасці ўсё роўна не дазволіць ім канкурыраваць з імпартнымі таварамі. Багатыя нашы суграмадзяне, канешне, купяць больш якасныя, хоць і больш дарагія вырабы замежнай вытворчасці. У большай жа масы нашых людзей сёння і на айчынныя вырабы грошай няма. А калі няма попыту на айчынную прамысловую прадукцыю, то няма попыту і на дызайн. Менавіта таму і не было прадстаўлена на выставе "Інтэрдызайн-96" новых дызайнерскіх распрацовак у экспазіцыі Нацыянальнага дызайн-цэнтра і творчых студый Саюза дызайнераў Беларусі. Заказы на дызайн ад прамысловых прадпрыемстваў у нашай рэспубліцы сёння практычна адсутнічаюць.

Аднак нашы дызайнеры ўсё ж не падаюць духам, яны спадзяюцца, што прыйдзе і ў нас час дызайну, час, калі айчынная прамысловасць зможа ганарыцца ўзроўнем якасці сваіх вырабаў. Ну а зараз беларускія дызайнеры ўжо пачалі думаць аб выставе "Інтэрдызайн-97", якая мае быць у будучым годзе, і ёсць цвёрды намер зрабіць яе больш цікавай, больш змястоўнай, чым сёлета, паказаць усё, на што здольныя нашы дызайнеры.

**Якаў ЛЕНСУ**

Беларушчына

# УСПОМНІЛІ УЛАДА ІНІЦКАГА

Невялікая, — хат на дваццаць, — вёсачка Ініца, што месціцца на самым узмежку Стаўбцоўшчыны і суседняй з ёй Карэліччыны, — радзіма вядомага ў заходнебеларускую пару і незаслужана забытага ў пасляваенны час паэта, мастака і этнографа Улада Ініцкага. Жыццё ніколі не песціла гэтага чалавека, але заўсёды, дзе б ён ні быў, чым ні займаўся, ягонае сэрца не пакідаў успамін пра родную, ахутаную з усіх бакоў лесам Ініцу. Нездарма ж ён, Уладзіслаў Паўлюкоўскі, і выбраў сабе такі літаратурны псеўданім.

Таму і заканамерна, што яго імя неаднойчы згадвалася на свяце гэтай вёскі, на якое сабраліся не толькі цяперашнія жыхары, але і многія з тых, хто па розных прычынах пакінуў родны кут. Гасцямі былі кіраўнікі мясцовага калгаса імя Леніна і Залужскага сельсавета, жыхары навакольных з Ініцай вёсак, прадстаўнікі ўстаноў культуры і некаторых арганізацый раёна. Самымі ж шаноўнымі сталі спецыяльна запрошаныя народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль і былы партызан, ураджэнец суседняга Бережнага, літаратар Яўген Крамко. Мастацкую ж частку свята падрыхтавалі работнікі Залужскага Дома культуры, Вечатароўскага клуба і вучні ды настаўнікі сярэдняй школы з Залужжа.

Своеасаблівым зачынам свята стала адкрыццё мемарыяльнага каменя-знака на месцы, дзе стаяла хата, у якой нарадзіўся паэт. На адкрыцці выступілі старшыня выканкама Залужскага сельсавета М. Пакроўскі, старшыня мясцовага калгаса І. Меляшкевіч і Я. Брыль. Пробашч Ішкальдскага касцёла Б. Крыньскі асвяціў гэты помнік-камень.

Дырэктар Залужскай СШ Т. Цвірка расказала пра жыццёвы і творчы шлях У. Ініцкага. Нарадзіўся ён 1 мая 1895 года ў мнагадзетнай сям'і мясцовага млынара, вучыўся ў Стоўбцах, а затым у Наваградку, скончыў чатырохкласнае вучылішча, што дало яму магчымасць заняць месца пісарчука ў адным з радзівілаўскіх маёнткаў. Перад І-й сусветнай вайной У. Паўлюкоўскі, які меў надзвычайную цягу да малявання, паступіў у Харкаўскае мастацкае вучылішча. Пасля служыў у войску: прапаршчык Паўлюкоўскі прымаў удзел у баявых дзеяннях супраць немцаў у ваколіцах Вільні, а ў грамадзянскую вайну быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Пасля дэмабілізацыі ў 1920 годзе некалькі гадоў пажыў у Ініцы. Пасля пераезду ў Вільню меў цесныя стасункі з часопісамі "Маланка", "Шлях моладзі", "Авадзень", як графік удзельнічаў у афармленні беларускіх календароў, кніг і падручнікаў, прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці Заходняй Беларусі. Польская паліцыя яго двойчы (у 1926 і 1939 гадах) арыштоўвала. Сядзеў у турме. Апошняе зняволенне ў Бяроз-Картузскім канцлагеры ён апісаў у выдадзеных пасля вызвалення, у 1940 годзе, успамінах "Арышты, Бяроза і воля". У даваенную пару Паўлюкоўскі працаваў у Беларускім музеі імя І. Луцкевіча, а пасля яго закрыцця ў 1945 годзе ўзначаліў віленскі Літаратурны музей імя Пушкіна. У 1948 годзе ён быў арыштаваны савецкімі органамі бяспекі і асуджаны на 10 гадоў лагернага рэжыму. Вярнуўся з лагера ў 1953 годзе невылечна хворым, спаралізаваным і праз два гады памёр у Вільні.

З выступленняў Я. Брыля, Я. Крамко, загадчыка аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама А. Грэкава, пляменніц паэта Алы і Яніны Пашкоўскіх і іншых удзельнікі свята даведаліся і пра творчыя здабыткі У. Ініцкага. Ён — аўтар кніг "Сон Гаўрылы і іншыя вершы", "Апавяданні", якія выйшлі ў свет у канцы 20-х гадоў у Вільні. Сярод этнаграфічных прац Ініцкага найбольш вядомыя эцюды, прысвечаныя кожнаму месяцу года, — своеасаблівы народны каляндар, у якім апісваюцца традыцыйныя святы, звычаі і абрады беларусаў, прыводзяцца адпаведныя земляробчаму календару народыя прыказкі і прымаўкі. Як мастак У. Паўлюкоўскі разам з Я. Драздовічам ілюстраваў "Першыя зернейкі" — заходнебеларускую дзіцячую чытанку, многія яго мастацкія творы і сёння захоўваюцца ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы.

Вершы паэта чыталі вучні Залужскай СШ.

**Сяргей ГАЛОЎКА**

*Фота аўтара*



Выступае Янка Брыль




Камень стаў знакам-помнікам




ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 331-985**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4400
Нумар падпісаны 29.8.1996 г.
Заказ 4887 /Г

П 123456789101112
М 123456789101112